Калі эсэсаўская калона дасягнула сярэдзіны поля, па ёй з трох бакоў ударылі кулямёты. Густымі, бязладнымі вінтовачнымі залпамі забухалі замаскаваныя партызанскія ланцугі.

Эсэсаўцы сталі разбягацца па жыце. Праз некалькі хвілін яны абрынулі на партызанаў шквал агню. У адзін суцэльны гул злілася аўтаматная траскатня, трэск, лопанне мін, бумканне буйнакаліберных кулямётаў. Але эсэсаўскі агонь непрыцэльны, шкоды партызанам не прыносіць.

Тым часам пачынае цямнець. Эсэсаўцы заляглі. Адна з танкетак — яны нібы краты стаіліся ў жыце — раптам ахуталася чорным дымам. Лубан пастараўся — падсунуў фугас. Дзве другія даюць задні ход. Можа, эсэсаўцы думаюць, што ў партызанаў ёсць артылерыя? Няхай думаюць.

Кулямётнымі чэргамі падпалены дзве крайнія хаты ў Лужынцы. Відовішча злавеснае: цёмны лес, цёмнае поле і асветленая полымем пустая вуліца...

Эсэсаўцы адступілі. Апоўначы падышоў з атрадамі Вакуленка. Пад полагам цемені кіпіць ліхаманкавая работа. Падпілаваныя, падсечаныя, кладуцца на шлях высозныя сосны. Міны ставяцца дзе толькі можна. Мінёры закопваюць толавыя пакункі нават на жыце.

Новы бой пачынаецца а другой палавіне дня. Сабраўшы ў кулак усё, што ёсць у наваколлі, эсэсаўцы накідваюцца з большымі сіламі. Зноў да ночы грыміць бой...

План удаўся. Эсэсаўцы на прыманку клюнулі.

Ноччу, пабраўшы забітых, параненых, партызаны адыходзяць.

За Лужынцом да самай Бярэзіны — суцэльныя лясы. Паселішчаў мала. Цэлы тыдзень ідзе валтузня. Партызаны наскокваюць ноччу, абстрэльваюць дазоры, нападаюць на абозы. Уцягнуўшыся ў дарэмную пагоню за партызанамі, эсэсаўскі полк траціць час. А палавіна Літвінаўшчыны — калыска мясцовай партызаншчыны — цэлая.

Аднак саўгасны пасёлак Літвінава, Пажыць, Зялёную Буду, як і шэраг іншых вёсак, эсэсаўцы паспелі спаліць...

## V

Прыдарожныя сосны нібы хаваюць пад задумлівымі шатамі ўспамін аб крывавых былях.

Вынішчаны край. Гаротная зямля. Хто яе не таптаў, не руйнаваў гарады, вёскі, пракладваючы па зялёнай раўніне заваёўніцкія шляхі...

Нерухомыя дымы перамяшчаюцца за Прыпяць. На Літвінаўшчыне — спакойна. У Мохаўскім, Разводаўскім, Лужынецкім, Зялёнабудаўскім сельсаветах — ніводнае цэлае хаты.

Там, дзе былі Піляцічы, журботна пазіраюць у летняе неба закураныя коміны, калодзежныя жураўлі. Лісце на дрэвах скурчанае, чорнае.

На папялішчах корпаюцца вяскоўцы. Хто знойдзе тапор, чыгун, пакарэжаны агнём чайнік, хто — цвік.

Лета стаіць харошае. Дні ясныя, поўныя цеплыні, ласкавасці. Ідуць кароткія дажджы — пасля іх цякуць раўчукі, у калдобінах збіраецца вада. Азіміна, ярына буяюць. Такое ўраджайнае лета было ў той год, калі пачалася вайна.

Ночы — зорныя, ціхія. У лесе спяваюць пеўні, брэшуць сабакі. Жыццё цяпер — у лесе.





З балацянак наплываюць на лес туманы. Густыя, шчыльныя — не ўбачыш цяпельца ля суседняга будана. Звіняць камары. У куранях надрыўна кашляюць дзеці. Цяжэй, чым каму, у клятыя гэтыя дні — жанкам ды дзецям.

Няхай не забудзецца добрае чалавечае слова. Яно трымае пагарэльцаў на свеце. Не толькі палітрукі, камісары вядуць агітацыю, а ўсе, хто носіць за плячамі вінтоўку.

Вакуленка ахрып, асіп — збірае мітынгі ў кожным лясным стойбішчы.

— Бабы, не бядуйце!.. Самае страшнае — ззаду. З голаду не памром. Сабраць ураджай паможам мы, партызаны. Фронт надзейна стаіць. Савецкая ўласць вернецца, і будуць у нас новыя хаты. Галоўнае— жывыя асталіся...

Некаторыя з жанок выціраюць ражкамі хустак здрадлівую слязіну.

## VI

Неба высокае, сіняе, рэдкія, белыя аблачынкі на ім — нібы статак дзікіх гусей. Трава па пояс. Без канца-краю наўкруг калышацца травяное мора. Сям-там вылеціць з яго кнігаўка, бліснe на сонцы ірдзяным чорна-белым крылом, трывожна кігікне. Ахутаныя мроівам дрыжачай смугі, відняюцца ўдалечыні надзьмутыя шары лазнякоў, прысадзістыя стажкі леташняга сена.

Ціха, глуха на Літвінаўскіх балотах. Толькі з правага боку, дзе ледзь прыкметна шарэюць на даляглядзе саламяныя стрэхі Лазавіцы, нехта як бы варушыцца. Мільгануць і адразу знікнуць дзве ці тры белыя бабскія хусткі.

Яўтушык косіць. Вінтоўку, торбачку з акрайцам хлеба, бутэлькай малака схаваў пад траву, верхнюю сарочку зняў. Трава густая — сеянка, касы не ўбіць. Але Яўтушык пачаў з расою, паспеў увайсці ў смак. Лёгкі вецер прыемна абдзімае твар. Жык-жах, жык-жах! Ногі шырока расстаўлены, калі азірнуцца назад, відаць дзве роўныя вытаптаныя палосы.

Яшчэ ўчора з вечара адпрасіўся Яўтушык у Якубоўскага. Літоўку адкляпаў, мянташка з сабой. Хоць стачылася мянташка — каменнай прываркі на мезенец. На ўсялякі выпадак ён узяў з сабой брусок, якім вострыць сякеру.

На другі год пайшло, як нудзіцца Яўтушык па рабоце. Пакасіць, пахадзіць за плугам, падзяржаць цэп выпадае прыхваткам. Работа, як зайцаў сон пад кустом,— адно вока прыплюшчана, другое глядзіць.

У калгасе Яўтушык пасад не займаў, рабіў, што казалі. На мужчынскай сіле трымаўся калгас. Касіць выходзіла трыццаць мужчын. Ён любіць касьбу за тлум, мнагалюддзе, востры, рэзкі пах прывялай травы, які ўсю кароткую ноч дурманіць галаву. Непагана зажыла вёска пры калгасе. Можа не так сытна, як весела. Хлеба на працадні прыпадала мала, затое прывозілі ў двары вялізныя кашы бульбы. Пудоў па трыста. Грошы зараблялі зімой, тралюючы лес. Плаціў леспрамгас. Выганіш, бывала, за месяц пяцьсот чыстых, калгасу толькі за коней адлічвалі.

Яўтушыку было па душы калгаснае жыццё духам людской злучанасці, дружнасці. Страху за заўтрашні дзень не было. А як святкавала сяло! Тры дні май, тры — кастрычнік, пробны выезд у поле, першая баразна, зажынкі, чырвоны абоз, выстаўка ў раёне. Дый старых святаў не прапускалі. Багацця не гомцілі, жылі, як людзі. Проста гула Лазавіца ад песень. Дый навошта багацце, калі сям'я не галодная, дзеці ходзяць у школу? Сам, калі ёсць ахвота — можаш падавацца ў горад, можаш — на чыгунку. Ні ў горад, ні на чыгунку Яўтушык не хацеў. Наогул, у Лазавіцы было мала адыходнікаў. Які дурань прамяняе сяло на беганіну на службе? Вёска — шэсцьдзесят двароў, як хто робіць — сляпому відаць, мужчыны — як дубы. Год ад году лепшала жыццё. Вось гэтае балота, дзе расла адна асака, а твань па грудзі была, асушылі. Дваццаць калгасаў выйшла на асушку. Шлях да Літвінава насыпалі, радыё ў хатах гаварыла. Яшчэ б і электрыку правялі, каб не вайна.

Яўтушык спыняецца, выцірае рукавом потны твар. Добры кавалак вымахаў. Зачаў ад калектара і хутка дагоніць да другога. Можна лічыць, паўклеткі палажыў. Калі адарвецца яшчэ на дзень, сена карове будзе. Якога ліха цяпер выседзіш у атрадзе?

Яўтушык мянташыць касу, вострыць яе бруском, уткнуўшы касцё ў падатлівы тарфяны дол, сігаючы цераз пракосы, ідзе затым да канавы. Вада ў калектары — на самым дне, напіцца не проста. Раскарачыўшыся, трымаючыся за бераг рукамі, Яўтушык наском лапця выбівае ў схілах канавы лункі, затым ставіць у іх ногі. Упадзе на дно камяк торфу, і нап'ешся не вады, а чаю.

Калектар апаўзае, зарастае травой. Калі яшчэ год-два не чысціць канавы, зноў вернецца балота.

Нагнуўшыся, Яўтушык бачыць у цёмным люстры вады свой зарослы твар, ускудлачаную галаву. Трэба было б пагаліцца, пастрыгчыся, ды ўсё няма калі. Чэрпаючы сашчэпленымі далонямі рук ваду, касец прагна п'е. Буйныя кроплі падаюць на дно, звіняць, як шкляныя. Вада адразу каламуціцца.

Не толькі напіўся, але і рукі памыў. Добра, лёгка зажыў Панас Яўтушык, мазалёў — ані звання. Былі далоні задубелыя, цвёрдыя, як конскія капыты, цяпер — далікатныя. Панскае жыццё. Ад вінтоўкі мазалёў не будзе. Калі пахадзіць з ёю яшчэ год, можа, і ад работы адвыкне.

Яўтушык палуднуе, схаваўшыся ў траву, паклаўшы пры боку вінтоўку, трохі дрэмле.

Нават кароткі дзённы сон нядобры, бо размагнічвае, псуе настрой. Думкі Яўтушыка, калі зноў бярэцца за касу, кружацца вакол кепскага. Сёлы выпалены, вынішчаны, калі іх падымеш? Хату нялёгка паставіць, а то столькі сёл. Коней няма, кароў, свіней зводзяць. Дзе іх возьмеш, калі немцаў прагоняць?

Яго старана ацалела. У Рагалях, Лазавіцы, Буйках, Прудку, Азярках эсэсаўцаў не было. Кінуліся даганяць партызанаў у Лужынецкія лясы, а адтуль, па шляху, падаліся далей. У новых месцах паляць. Дзе стаялі Каўпак з Сабуравым.

Яўтушык думае аб тым, што трэба, пакуль нажнуць новага, дастаць хоць пуд мукі, аддаць кульгаваму Амельку цялячую шкуру — няхай вырабіць, завесці карову да быка. Карова пярэдайка, вот-вот зноў падымецца. Заўтра ён яшчэ пакосіць...

Дамоў ён вяртаецца прыцемкам. Закіданы двор: страха ў хляве правалілася, вароты на агарод аселі, не зачыняюцца. Пляцень жонка патроху разбірае на дровы, бо на дрывотні — ні паленца.

З-пад ганку выкочваецца чорны, жвавы камячок, вішчучы, кідаецца Яўтушыку пад ногі.

— Рад, што жывы? — прыгнуўшыся, Яўтушык гладзіць сабаку.— Нялёгка, брат, цяпер выжыць. Але калі пашэнціла, дзяржы хвост абаранкам. Мы з табой, брат, яшчэ на зайцоў сходзім.

Увесь час, пакуль гаспадар, прыставіўшы да сцяны вінтоўку, разуваецца, развешвае на тыне анучы, лапці, мые ў выдзеўбленым з бервяна карыце ногі, сабака вішчыць і лашчыцца.

У хаце, хоць расчынены вокны, пахне палыном — яго летам раскідаюць ад блох.

— Дзве нормы вырабіў,— хваліцца жонцы Яўтушык.— Яшчэ заўтра пакашу, а там скідаю стажок. Сена будзе, як чай.

Жонка садзіцца за сталом насупроць. Яўтушык падсоўвае да сябе міску і ледзь не крычыць ад здзіўлення.

— Дзе ты бульбы ўзяла?

— Маладая. Яшчэ шкода нішчыць. Сама завязваецца, то я гіч не вырвала. Намацала знізу рукой, дзе большая. Праз тыдзджань можна капаць.

У жончыным голасе — радасць. Бульба — гэта жыццё.

Яўтушыку хочацца чым-небудзь аддзячыць жонцы, і ён гаворыць:

— Я табе, Мар'я, грабянец заказаў. З люмінію. Ёсць там у нас адзін штукар, майструе. На тым тыдні прынясу.

— Сам хоць жывы прыйдзі.

Начуе Яўтушык у хляве, на вышках. Хоць зона партызанская, але ўсё можа быць. Няма нічога страшнейшага, калі схопяць бацьку, павядуць на вачах у дзяцей.

Ён ужо засынае, праз сон ловіць ціхае парыпванне лесвіцы. Жонка лезе на вышкі, кладзецца побач. Яшчэ праз хвіліну чуе яе голас:

— Як прыдуць нашы, Панас, то ці будзе табе аддзяка? Ты ж так мучышся.

— Будзе, Мар'я. Мы з табой сама тады зажывём...

Назаўтра на балоце касцоў куды болей. То ў адным, то ў другім месцы варушацца мужчынскія, жаночыя постаці, чуецца звонкі шоргат мянташак.

Пагодка на дзіва. З-за лазнякоў уздымаецца сонца, блішчыць раса. Над канавамі, калектарамі вісяць зыбкія палоскі туману, растаючы на вачах.

Да паўдня Яўтушык шчыруе, косіць, а калі да намечанай мяжы, за якую наважыўся не пераходзіць, застаецца адзін прыхватак, хавае касу. Учарашняя трава добра прывяла, мясцінамі нават высахла. Ён пераварочвае пракосы, каб пасля полудня згрэбці ў копы.

Сонца сама прыпякае. Цень ад постаці зусім знік. Яўтушык бярэ вінтоўку, сякеру, ідзе насекчы на адзёнак лазін.

У лазняку, хоць невялікі, а цянёк. Скачуць, перагукваюцца дробныя пташкі. Яўтушык закурвае, адчуваючы, як прыемна кружыцца галава, дранцвеюць ногі. Па сцяблінцы паўзе казюрка. Ён знімае яе, кладзе на далонь, і тады чорны жучок прыкідваецца мёртвым. Не варушыць нават лапкамі. Але калі ён хоча ўзяць яго ў пальцы, жучок, напружыніўшыся цельцам, пстрыкае, знікае з далоні. Пасміхаецца Яўтушык: непрыкметнае стварэнне, а мае свае сакрэты, хоча жыць.

Нечакана да слыху даносіцца незразумелы гул. Яўтушык прыўзнімае галаву, нямеючы ад жаху: нізка, над самым балотам, якраз на лазнякі, ляціць самалёт.

Здранцвенне працягваецца адзін момант. У наступны міг Яўтушык хапае вінтоўку, становіцца на калені. І калі чэрава самалёта з крыжамі-разводамі на крылах праносіцца крыху наўзбоч ад таго месца, дзе ён сядзіць, ён, цэлячы ў кружок прапелера, раз-пораз страляе.



Дзікая радасць ахоплівае Яўтушыка: на носе самалёта паказаўся дымок. Ён шырэе, распаўзаецца, і вось ўжо шуганула полымя. Самалёт зніжаецца, збіраецца сесці. Ён, аднак, далекавата, за дарогай. Штосілы Яўтушык бяжыць услед.

Самалёт нарэшце кранаецца долу, падскоквае, торкаецца носам у торф. Ад яго аддзяляецца цёмная постаць, адразу знікаючы ў траве.

Яўтушык нарэшце дабег. Самалёт палае, як вялікае вогнішча. Нешта трашчыць у ім, свішча. Нават страшна падыходзіць.

Наставіўшы вінтоўку, Яўтушык асцярожна крадзецца па траве. Сам ён бачыў, як выскачыў лётчык. Ён недзе тут. Думкі скачуць, мітусяцца. Калі ён прывядзе лётчыка, будзе смеху. Толькі чаму самалёт паляцеў над балотам? Звычайна ляцяць над чыгункай, хоць няма яе, расцягнулі, адзін насып астаўся.

На краі канавы Яўтушык выразна бачыць след. Вада ўскаламучаная, чорная. Цяпер яму ясна, дзе мог схавацца лётчык. Пад насыпам дарогі вада цячэ праз цэментавую трубу. Фашыст хутчэй за ўсё там.

Стаўшы на дарозе, над месцам, дзе закапана труба, Яўтушык бабахае з вінтоўкі. Проста так, каб прыстрашыць. Праз хвіліну з трубы вылазіць лётчык. Ён немалады, без шапкі, мундзір запэцканы ў гразь. Але між каўнерам у яго вісіць чорны з бліскучымі кантамі крыж і яшчэ два падобныя крыжы — на крысе мундзіра. Са здзіўленнем, страхам, нянавісцю глядзіць лётчык на неахайнага, валюхаватага селяніна, які перамог яго, праслаўленага аса.

Праз тры дні звяно фашысцкіх бамбардзіроўшчыкаў, знізіўшыся над Буйкамі, знішчае іх ушчэнт. Спачатку з паветра, кулямётнымі чэргамі, самалёты падпальваюць хаты, хлявы, а потым, зрабіўшы другі і трэці заход, наўсцяж закідваюць вёсачку бомбамі.

(Заканчэнне ў наступным нумары).



**кастусь цвірка**



ПАЭЗІЯ



# *Хадыка*

*А між бароў, сярод імшары дзікай,*
*Дасюль вядзецца пасека лясная.*
*Багата дзіў аб ёй апавядаюць*
*І называюць гэтак жа — Хадыка.*

*(Ул. Сыракомля. 1847 г.)*

Вёска Хадыка (Нова-Цярушкаўскі сельсавет Салігорскага раёна), якая ўзнікла на месцы легендарнага ўрочышча, у часе вайны была разам з людзьмі спалена нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**Дубы ды сосны. Хвошч ды вязель.**
**Жывіцы выстаялай хмель.**
**Я думаў: стрэне, даўгавязы,**
**Ля звонкай студні жуaравель.**

**Я думаў: сонечную казку**
**Раскажуць ліштвы, а ў акне**
**Адчыняць вейкі — калі ласка! —**
**Блакіт нябесны ў сэрца мне.**

**Я думаў: ля прысад рабінавых,**
**На вуліцы, дзе мурава,**



**Акружыць стайкай вераб'інай**
**Мяне вясковая дзятва...**

**Дарэмна: у вянку яловым —**
**Вуглі ды некалькі цаглін.**
**Дыміць на печышчах вясковых**
**Расліна горкая — палын.**

**Той чорны дзень — як цень далёкі,**
**Ды ўсё запомніў гэты кут.**
**Па сёння — ледзь ступі — сарокі**
**Спалохана стракочуць тут.**

■

**Зноў вярнуўся я ў бацькаў свет**
**палявы —**
**У першабытнасць дрэў і травы.**
**Авяваюць мяне**
**вольныя крылы радзімы —**
**Вёсны ды зімы.**

**О як хораша — толькі з парога — піць**
**Маладыя настоі раніц!**
**Аб галінку шыпшыны лясной**
**(Як матылі, яе кветкі абселі) палец**
**раніць!**

**Ціха грае шмаструнны бор —**
**Я пайду без дарог, як вецер.**
**Можа, ўбачу,**
**як ладзіць бабёр**
**Свой рыштунак**
**на гэтай планеце.**

**Можа, стрэну казуль чараду**
**На забытай палянцы расянай**
**Ці ў няходжаных далях знайду**
**Дзіўнай птушкі пяро нечакана.**

**Там з-за хвоек — сядзібы лася,**
**З-за галін вербалозу,**
**здалёку**
**Мне, як радасць, адчыніцца ўся**
**Азярына — зборнік аблокаў.**

**Будзе плёхаць хваля ў трысці,**
**Асыпаць пялёсткі каліна...**
**Гэта шчасце, што ёсць у жыцці**
**Родны бацькаўскі свет каляінны!**

■

**За Стоўбцамі, дзе, як паданне, ноч,**
**Каціў мне Нёман серабро да ног.**
**У яснай, як пяць пальцаў, глыбіні**
**Тапіў ён, не хаваючы ані,**
**Змяю, Пегаса, Рыб, Вялікі Воз**
**І пастуха двурогага нябёс.**
**Якая прыгажосць!**
**Ды ў дзіўнай той цішы**
**Чагосьці не хапала ўсё ж душы...**

Раптоўна збоку, там, дзе белы плёс,—
Як нож у ноч, застылай хвалі ўсплёск!
Ды гэта ж, ледзь не побач, паўз кусты
Ішлі, гнучыся у дугу, плыты —
Па Млечным Шляху, па маладзіку,
Па неба скінутага цаліку!
Агонь пабліскваў на плытах. Пры ім
Стаяў хлапец з цыгаркаю і пхаў
У бераг жэрдкай; дзядзька на спіне
Ляжаў і хроп — між зор відаць быў
нос!
І сэрца тут маё, якое штось гняло,
Устрапянулася умомант, ажыло.
Я зразумеў, прырэчных плёсаў госць:
Найлепшы той пейзаж, дзе людзі ёсць!

## Жураўліныя ягады

За лесам сінім, на градцы нязнанай
Спялілі ягады журавы.
А ўвосень сабралі і ўсім караванам
Панеслі ў кошыках да сінявы.

Хацелі данесці да цёплага поўдня
Роднага краю дары,
Ды свіснула бура і з дзюбаў раптоўна
Сарвала кошыкі угары.

Як сонцы маленькія, на імшары
Скаціліся ягады з вышыні.
Ад той пары журавы і зараз
Шукаюць, шукаюць іх дзень пры дні.

Знайшлі іх і людзі, аблюбавалі,
І ўвосень, калі загарацца кляны,
Ідуць на балота і, нібы каралі,
Збіраюць у кошыкі ды ў збаны
Чырвоныя ягады жураўліныя —
Журавіны.



**алег салтук**

*

паэзія

*

## Равесніку

Пра ўсё падумаць мы павінны:
Як мы жывём і для чаго?
Цяжкая выпадзе гадзіна —
Прыйсці адзін да аднаго.

Нам многа дадзена з табою:
Бясхмарнасць заўтрашняга дня...
Ды не заўжды пасля адбою
Стаіць ў казармах цішыня.

Нашчадкі з нас спытаюць строга,
Ці так, як трэба, мы жылі...
Ракеты ўздыбіла трывога
Дзеля спакою на зямлі!

■

Аднавясковец наш даўно ў далечы.
На месцы хаты печ, зламаны тын,
А мой сусед — гарэзлівы малеча —
На печы вывеў вугальком: «Хатын».

Яшчэ не знае ён, белагаловы,
Што не заліць вадой пажар вайны,
Што слова гэта на вядомых мовах
Набатам скаланула шар зямны.

Пры слове гэтым аж званы цішэюць,
Што звоняць ад зары і да зары...
Я слова сцёр суседа-«грамацея»,
Ды што з таго — Хатынь ў грудзях
гарыць!

■

Калі і быў, то пройдзе боль,
Адступіць чэрствасць прад спагадай,
Бо ўсё ж на свеце значна больш
Святое вернасці, чым здрады.

**А калі здрадзіць чалавек,**
**Якому ты бясконца верыў,—**
**Не варта клясці лёс і век**
**І зачыняць у сэрца дзверы.**
**Жыві адкрытым для людзей,**
**Хоць у што-небудзь, ды ўлюбёным...**
**Злачынца ў дом ідзе часцей,**
**Які на сто замкоў замкнёны.**

■

**Зноў восень кінула вясло**
**У хвалі ціхае Ушачы.**
**Не зразумець — там, за сялом,**
**Смяюцца кнігаўкі ці плачуць?**

**«Кігі, кігі!» Колькі тугі**
**І колькі радасці ў крылатых...**
**Больш не хаваюць мурагі**
**Чубатых іхніх птушанятак.**

**Зямля шпульнула тых увысь,**
**Даволі быць для іх калыскай.**
**Пад крылы леглі паплавы,**
**І да аблок, здаецца, блізка.**

**Бацькі ж трывожацца яшчэ,**
**Пад імі лётаць век гатовы,**
**Каб не разбіцца ім ушчэнт,**
**Калі закружацца галовы.**

# МУЖНАСЦЬ

*ДА 60-ГОДДЗЯ ВІСАРЫЁНА ГАРБУКА*

*У Пяцігорску, каля самага падножжа славутай гары Машук, у новым прыгожым доме жыве наш беларускі пісьменнік Вісарыён Сцяпанавіч Гарбук. Жыццёвы лёс не вельмі песціў яго. Яшчэ ў дзіцячыя гады ён застаўся без бацькоў і выхоўваўся ў сям'і свайго дзядзькі Іосіфа Ключонка — настаўніка Дварэцкай школы на Віцебшчыне. Скончыўшы школу сялянскай моладзі, а пасля Лепельскі педтэхнікум, Вісарыён Гарбук вучыўся ў Мінскім педагагічным інстытуце. Гэта былі трыццатыя гады, поўныя радасных хваляванняў і вялікіх трывог. Разам з многімі паэтамі-пачаткоўцамі таго часу Гарбук наведвае паэтычную студыю пры Саюзе пісьменнікаў БССР, кіраўнікамі якой былі Міхась Чарот, Пятро Глебка і я.*

*Я не толькі кансультаваў яго вершы, але і падоўгу гутарыў з Гарбуком, які ўжо ў той час здзіўляў мяне сваёй эрудыцыяй, дасціпнасцю.*

*Убачыць свае творы ў асобным выданні да вайны Гарбуку не давялося. Ён апынуўся на далёкай Поўначы, а вярнуўшыся перад самай вайной на радзіму, выкладаў мову і літаратуру ў Механскай сярэдняй школе. Вайна перарвала любімую яго працу. У складзе інжынерных войск ён удзельнічае ў абароне Масквы, а пасля — у вызваленні Беларусі, Польшчы і нарэшце разам з салдатамі сваёй часці ставіць аўтограф на абгарэлых сценах рэйхстага.*

*Цяжкія франтавыя дарогі нагадалі пра сябе: Вісарыён Гарбук на многа гадоў застаўся прыкуты да пасцелі. Больш дванаццаці гадоў вялося змаганне за жыццё, і чалавек выйшаў пераможцам — цяжкая хвароба не зламала яго. Ненавісць да вайны і радасць мірнай працы — вось тэмы яго творчасці. Героі яго апавяданняў — часцей за ўсё дзеці, наша будучыня і надзея. Многія школы і піянерскія арганізацыі Беларусі трымаюць сталую сувязь з Гарбуком. Багатую пошту атрымлівае штодня пісьменнік. Яму пішуць з Ташкента, Нальчыка, Рыгі, Вільнюса, Махачкалы. Гэта дадае мужнаму чалавеку новых сіл, акрыляе яго і натхняе на працу.*

*Мікола ХВЕДАРОВІЧ.*

ПРОЗА



***вісарыён гарбук***

# СТАРОНКІ З ДЗЁННІКА

Мал. **У. Конаша**

## ДАСКАНАЛАСЦЬ

Адпалымнеў над Пяцігорскам заход сонца. Велічны Эльбрус аддаліўся ад горада і, ідучы ў ноч, стаў фіялетава-попельным. Толькі ля самага небакраю на заходзе вузенькая палоска засталася ад асляпляльнага вясенняга дня.

Стаю ля падножжа Машука на выхадзе з гаю вязаў і соснаў, цешуся цішынёй, любуюся бесперапыннаю зменай фарбаў неба.

Нада мной бясшумна мільгануў першы вястун ночы — невялічкі кажан. Які імклівы яго палёт, нечаканыя зломы паваротаў, лёгкія і прыгожыя ўзлёты і бясстрашныя падзенні ўніз, у самую гушчыню галля! Як здзіўляе ягоная неверагодная хуткасць лёту ў гэтай гушчыні галля!

Паволі спускаюся па схіле гары. У небе зазіхацелі першыя зорачкі. Хутка іх заслоняць агні горада. Спыняюся, углядаючыся ў неба. І о нечаканасць! Толькі паспеў заўважыць: дзве цені мільганулі нада мной, і тут жа пачуўся нібы лёгкі пляск рачной хвалі ці дзіцячых далоняў. Сутыкнуліся два кажанчыкі! Пляснулі скрыдламі і разляцеліся.

Што іх прымусіла памкнуцца адзін да аднаго? Радасць сустрэчы? Варожасць ці свавольства ад шчасця быцця ў палёце? Ці нешта другое? Не дазнацца мне пра гэта ніколі.

Нехта скажа: і няма чаго! Толькі ці так? Ці не занадта мы збеднілі сябе ў сваім імкненні пазіраць на прыроду, як на сваю наймічку, наступаць на яе і старанна выпраўляць нібыта яе памылкі?! Хіба мы можам

сказаць, што ўжо ўсё ведаем і гатовы «падправіць» прыроду, стаць над ёю? Або дасягнулі яе дасканаласці? Хоць бы такой, як вось у гэтых кажанчыкаў у часе палёту?



Толькі цяпер чалавек зразумеў, што ён — дзіця прыроды, біясферы, што ён неадлучны ад сваіх малодшых сясцёр, братоў і павінен нястомна выхоўваць у сябе адчуванне гэтага сяброўства.

## НУ І НЯХАЙ!

Трынаццацігадовая Іра, худзенькая, жвавая дзяўчынка, прыбегла да сябровак. Клікала іх доўга, але з расчыненых дзвярэй балконаў і другога, і трэцяга паверхаў ніхто не азваўся, не выйшаў. Я ўспомніў: з паўгадзіны таму назад яе сяброўкі кудысьці пайшлі, і сказаў Іры пра гэта.

Мы стаялі ля хмызняку з незвычайнай назвай — спірэя Ван-Гута. Яго галінкі, да якіх не дакраналіся нажніцы, падняліся вышэй чалавечага росту і непраходнай сцяной акружылі дом, дзе я жыў. Пад цяжарам суцэльных белых суквеццяў голле хілілася да самай зямлі. Сярод яркай зеляніны лісцяў пад промнямі пякучага майскага сонца гэтыя суквецці здаваліся гурбамі сляпуча белага снегу. Асвяжальны водар ліўся ў паветра.

Але раззлаваная дзяўчынка нібыта нічога гэтага не заўважала. Нечакана яна схапіла за вяршок галінку, сашмаргнула з яе кветкі, кінула на асфальт і пачала таптаць.

— Кветкі не вінаватыя,— спакойна заўважыў я.

— Ведаю! — адрэзала Іра.

Магчыма, яна цяпер прыдумвала, што ёй зрабіць або як адпомсціць сяброўкам, якія не дачакаліся яе. У гэты момант у паветры нешта мільганула, абляцела вакол твару дзяўчынкі і — здараецца ж такое!— апусцілася на асфальт перад ёю.

Гэта была незвычайна вялікая божая кароўка з аксамітна-чорнымі кропкамі на ярка-чырвоным паўшар'і спіны.

Іра загледзелася на кароўку. Твар яе раптам пасвятлеў, пахарашэў. І мне падумалася, што вось-вось дзяўчынка прысядзе на кукішкі, асцярожна стуліць далоні вакол гэтай любімай дзецьмі істоты. Насякомае перабярэцца да яе на руку, а Іра, зусім забыўшыся пра сваю крыўду, выпрастаецца, падніме руку ўгору і звернецца да кароўкі з цудоўнай па сваёй злітнасці з прыродаю просьбай:

Кароўка, кароўка,
Узляці на неба,
Дай нам дожджыку,
Прынясі нам хлеба!

Або скажа нешта сваё, гэткае ж наіўнае, пяшчотнае.

Але кароўка разамкнула паўшар'е і выпрастала празрыстыя крыллі, каб узляцець. Ірын твар чамусьці зноў перакрывіла грымаса прыкрасці. Наском басаножкі дзяўчынка раптам раструшчыла кароўку і расцёрла па асфальце.



— Ты загубіла сваю сястрычку...

— Ведаю! — паўтарыла дзяўчынка.

— Навошта?

— Проста так!

— А ты можаш уявіць сабе нешта адваротнае?— спытаўся я.

Незадаволена пазіраючы на мяне, Іра слухала.

— Ты божая кароўка —цяперашняя Іра, якая стаіць перада мной. І хтосьці аграмадны, страшэнны, у парыве злосці або проста так, бо няма чаго рабіць, бязлітасна раструшчвае нас, цябе і мяне...

Яна стукнула аб асфальт нагою.

— Ну і няхай!

Сказаўшы гэта, Іра павярнулася і, ганарыста падняўшы галаву, пайшла.

Мне верылася, што дзесьці ў глыбіні свае душы дзяўчынка адчула шкадаванне і да знішчанай істоты, і да растаптаных кветак, шкадаванне ці нават злосць на самую сябе, але перамагла гэтыя пачуцці, заглушыла іх у сабе, бо ёй здалося, што яны зневажаюць яе годнасць.

Я стаяў і думаў: чаму Іра, увогуле і ветлівая, і чулая дзяўчынка, кажа: «Ведаю!», а робіць насуперак гэтаму? Ці не таму, што вадаспад самых розных уражанняў і гатовых ісцін, які кожны дзень абрушваецца на дзіцячую памяць і пачуцці, не замацоўваюцца творчым спазнаннем жыцця? Без гэтага падмурку лёгка зблытаць дабро са злом, прыгожае з пачварным.



А самае галоўнае: гэтыя веды не сталі неаддымнай часткай яе душы і сэрца. І тут вінаватая не так яна сама, як мы, дарослыя. А ўжо далейшае фарміраванне яе асобы хутчэй за ўсё будзе залежаць ад яе самой.

## А ДАРМА!

Кропля дажджавой вады скацілася з верхняга вінаграднага ліста на ніжні, абвалакла сабой маленькую мурашку. Муравейка доўга кідаўся ў ёй, то атакуючы сцены кроплі, то заціхаючы, але праврваць вонкавага нацяжэння вады так і не змог — сцішыўся, скурчыўся і загінуў.

І нас замыкаюць у сябе розныя адчуваемыя і неадчуваемыя, бачныя і нябачныя сферы быцця, у каторых мы сноўдаемся, сноўдаемся ды і часам сцішымся: трацім волю да перамогі.

А дарма! Мы ж не насякомыя...

## ПАРАЎНАННЕ

Скрозь лістоту ліпы, з якой, не сціхаючы, гуляў ветрык, на імгненне праврваўся прамень паўднёвага сонца, і не бачная да гэтага ся-

род высокай цімафееўкі павучынка ператварылася ў імклівую вясёлкавую лінію. Нібыта перад вачыма прамільгнула невядомая мікрачасцінка. Яшчэ імгненне — ні промня, ні вясёлкі, ні павучынкі.

Ці не так праносяцца і хвіліны жыцця чалавека? Яны нібыта павучынкі, працягнутыя ў часе. Вясёлка ж ад промення сонца — інтэлект чалавека, яго душэўная чысціня. А ці засвеціцца гэтае жыццё ўсімі фарбамі вясёлкі, ці ніколі нікога не парадуе,— залежыць ужо не ад выпадку, а ад самога чалавека.

## ЗМЕНЛІВАСЦЬ



Было гэта ў Гагры ў канцы верасня. Прынесла мая жонка з парку і паклала перада мной на стол калекцыю апалых з дрэў лісцяў, а сярод іх некалькі невядомых, якія нагадвалі лісты нашай таполі. Пад іх трывалай і нібы адпаліраванай паверхняй у нечакана чароўным спалучэнні адлюстравалася ўся багатая палітра асенніх фарбаў.

Уздоўж зялёнай ножкі-прожылкі ліста ішлі эліпсоідныя палоскі жоўтага колеру, потым гэтыя палоскі пераходзілі ў аранжавае, а аранжавае — у малінавае, затым у колер пунсовай крыві і чырвонага золата, а колер золата змяняўся ружовым і каштанавым. Далей эліпс усіх гэтых таноў і паўтонаў на дзіва дакладна паўтараўся ў адваротным парадку. Толькі знешні край ліста не аблямоўваўся зялёным, а заканчваўся жоўтым колерам. Такое паўтарэнне здавалася проста казачным. Не верылася, што гэта зрабіла сама прырода.

Налюбаваўшыся нечаканым падарункам восені, я рашыў напісаць у Пяцігорск ліст да свайго юнага сябра — пачынаючай паэткі, каб адаслаць ёй гэты неверагодны феерверк восені. Няхай і яна, такая ўражлівая, падзеліць з намі гэта замілаванне.

Лісце засталося ляжаць на стале. Назаўтра яго было не пазнаць. Тое, што ўчора здавалася асветленым з сярэдзіны развітальнай успышкай чыстых і радасных агнёў восені, сёння пакрылася бурымі плямамі з брудным попельна-шэрым налётам на паверхні ліста.

Маё сэрца сціснулася. Дык вось што дайшло б з берагоў блаславёнай Абхазіі да той зачараванай душы, у якой я ўбачыў водбліск свайго далёкага юнацтва...

Я задумаўся. Няўжо чалавек не можа перадаць другім свае лепшыя парыванні?!. Не! Гэта толькі хвілёвая разгубленасць і душэўная слабасць. Хто вельмі захоча,— таму не перашкодзяць ні час, ні прастора, ні іншыя акалічнасці. Сапраўднае натхненне здольна рабіць вялікія цуды.





***таіса бондар***



## паэзія



■

**Зямля бацькоў, зямля Радзімы,**
**Бясконцая сівая даль!**
**О, колькі б сцежкі ні вадзілі**
**Мяне па днях і па гадах —**
**Ты застанешся таямніцай**
**Даччынай шчырае любві.**
**Здаецца, нейкая драбніца:**
**Па моху — іскры журавін,**
**Снягір на снезе, пах аеру, —**
**А з трапятаннем у душы**
**Стаіш і верыш, прагна верыш**
**Такой унутранай цішы,**
**Такому чыстаму здзіўленню,**
**Што толькі шчасцю і здрадні,**
**Гатовая ад хмарных ценяў**
**Усё сабою засланіць**
**І да цябе прыпасці тварам,**
**І дужай стаць, і смелай стаць,**
**Каб тваю сілу, твае чары**
**У песні людзям перадаць.**

## Захапленне

Гучаць акорды імгненняў —
У іх зноў вясне паўтарыцца!
Уздымае сонца на крыльцах
Вышэй і вышэй жаўрук.
І чэзнуць чорныя цені.
І шчасце рэха гукае.
Зямля размякла, чакае
Пяшчотнага дотыку рук,
Каб стаць шчадрэй
і багаццем
Аддзячыць працы увосень.
Наўкол усё шматгалоссе
Услаўляе веліч жыцця.
Не, нельга нічога страціць,
Калі ва ўсім — твая радасць,
І сцежка, выбегшы з саду,
Сабой адмыкае прасцяг.
І раніца мае права
На ярасны выбух сіні,
На першы выпруб ласіны
І першы нясмелы след,
Калі на лісце і травы
Асыплюцца звонам песні
І ў промнях святла ўваскрэсне
Абмыты расою свет.

## Вясновая раніца

Сад квеценню ўпрыгожыў сарамліва
Пакрыўленае голле. У двары
Шчабеча ластаўкаю раніца ўгары,
І свет наўкол прасветлены,
шчаслівы.
Калі і засумуе недзе песня, —
Не аб мінулым, аб нястрэтым шчэ...
Жыццё святкуе новы дзень. Званчэй,
Вятры, трубіце! Няхай стане цесна
На лузе — травам, каласам — у полі!
Няхай нясуць на крылах навальніц
Дажджы зямную сілу, і з крыніц
Туманы прахалоду п'юць уволю!
Час абнаўлення.
І ўва мне спявае,
Трывожыцца, пакутуе вясна.
Ўначы заблытваюцца ў каляровых
снах
Сузор'і, і кветы, і птушак зграі.
Бы толькі і жыла сваёй любоўю,
Няўмелай, нешчаслівай, я дасюль,
Каб сёння, зараз — радасць гэту ўсю
Адчуць сваёй, у заўтра ўзяць з сабою.



**сяргей панізнік**



ПАЭЗІЯ



## Пры развітанні

І першы снег, і боль апошні
Убяры, зіма, ў сваю красу.
Я не ўзыду на тыя пожні,
Дзе салаўі дзяўбуць расу,
Таму, што ў доўгім я паходзе,
Дзе з ціпынёй мяжуе гром,
Адкуль нялёгка ўжо знаходзіць
Цераз Дзвіну маю паром.

## Ільняная балада

У кужэльнай кашулі —
як даўнейшы мужык —
я звычайна-нясмешны
і прасторна-дужы.
Нашы рупныя ткалі
ў палатно уvялі
ільняную аснову
роду,
племя,
зямлі...
І у моднай кашулі
уяўляю на міг
нескантцоную нітку
аж да продкаў маіх.

Не на пугі і путы,
а ў надзею вясны...
...Зацвітуць, як світанні,
маладыя ільны!
І заткуцца палотны
у натхнёны пасад —
на кашулі унукам,
на абрус для бясед...
У наш век усёможны,
у жалезныя дні —
улягаецца нітка
ільняной дабрыні.
І не сорам прызнацца,
што з адвечнай пары
мы — трывалыя людзі
і з душой — без кастры.

## Парада

Ў такую ноч не ходзіць нават звер,
калі жыве яшчэ ён у дуброве
у сённяшняй прыроды напавер.

Яму цяпер баяцца удвая,
бо меншаюць яго закон і сіла,
дзе сіла і улада ўжо мая.

Мне сытна, цёпла, светла мне цяпер...
А ты не спі, далёкі дзікі звер, —
і проці ночы сам сабе не вер.

■

Даўжэй жывіце, добрыя паэты!
Паэты з усяе мае планеты.
Ну дзе той бог, каб напрасіць вам
годаў?
Вунь зноў трапеча над магілай голуб...
А у газетах — чорныя партрэты.
Даўжэй жывіце, добрыя паэты!
І каб імя — святыня і цяпло —
у пантэонах нацыі жыло —
не замаўкайце з першага вянца,
дапісвайце, паэты, да канца.



# ПУБЛІЦЫСТЫКА

● Аляксандр ХУДАВЕЦ ● Васіль ДРАГАВЕЦ

● Сцяпан КУХАРАЎ ● Варлен БЕЧЫК ● Іван ДЗЯДЗЮЛЯ

● Генадзь ЗОТАЎ ● Уладзімір ПРАВАСУД

■







# ЛЕТА НА ГІДРАВУЗЛЕ

**Важнейшым аб'ектам Вілейска-Мінскай воднай сістэмы, ударнай камсамольскай будоўлі, з'яўляецца галаўны гідравузел — комплекс складаных збудаванняў. Што ж тут зроблена, чым быў для яго знамянальны сёлетні год?..**

## НАРАДЖЭННЕ МОРА

Яно яшчэ не нанесена ні на адну карту, нават буйнамаштабную. Яму ад роду ўсяго два месяцы. Але яно ўжо існуе, з кожным днём пашырае свае граніцы і ўздоўж, і ўпоперак.

Не марылі і не снілі жыхары Слабады, Касуты, Малмыгі, Пахомава і многіх іншых прырэчных вёсак Вілейшчыны, што на іх сядзібах разальецца вада і ім давядзецца стаць паморамі, жыць, як гаворыцца ў той казцы, ля самага сіняга мора. Так ужо здарылася, што ім прыйшлося пакінуць абжытыя з незапомных часоў мясціны і перасяліцца ў больш перспектыўныя паселішчы. Вядома, што ўсе затраты, звязаныя з гэтым, дзяржава цалкам узяла на сябе. Усё было ўлічана: і хаты, і хлявы, і калодзежы, і садовыя дрэвы, і нават кожны кусцік ягаднікаў. Ніхто не застаўся ў крыўдзе. І там, дзе яшчэ зусім нядаўна шумелі гаі, дзе на прырэчных лугах пасвіліся статкі, дзе ўранку спявалі пеўні і гергеталі гусі, рыпелі калодзежныя жураўлі, цяпер плешчуцца хвалі новага мора. Каб яно нарадзілася, амаль дзве тысячы дзён людзі, узброеныя магутнай сучаснай тэхнікай, штурмавалі лясныя гушчары, балоты, пяскі...

Ніколі раней чалавек не ўмешваўся ў жыццё Віліі. Пачаўшыся ў лясах Бярэзінскага запаведніка, рака стагоддзямі не мяняла свайго шляху, па абжытай дарозе несла празрыстыя воды да бацькі Нёмана. І вось цяпер Вілія становіцца «донарам» сваёй далёкай суседкі Свіслачы, каб дапамагчы ёй вылечыцца ад цяжкай хваробы і стаць, як у даўніну, паўнаводнай, хуткаплыннай і чыстай.





Гэтага дня чакалі ўсе. Праекціроўшчыкі, якія першымі наносілі на ватман контуры будучай воднай сістэмы; геадэзісты, тапографы, рабочыя буравых установак з Беларускага інстытута інжынерных пошукаў; механізатары, што ўклалі мільёны кубаметраў грунту ў збудаванні; электразваршчыкі і цесляры, ізаліроўшчыкі і мантажнікі, арматуршчыкі і бетоншчыкі, якія апраналі аб'екты ў звыштрывалы панцыр; майстры і прарабы; дзяўчаты з рабочай сталовай...

І вось, нарэшце, гэты дзень настаў. Ён выдаўся на дзіва сонечны, ціхі і цёплы. З самай раніцы да месца, дзе ўзнялося магутнае цела жалезабетоннага вадаскіду, сталі прыбываць аўтобусы і легкавушкі, па лясных і палявых дарогах ішлі ва ўсім святочным жыхары навакольных вёсак, прыехалі госці з Мінска і Маладзечна, Вілейкі і іншых гарадоў і суседніх раёнаў. У руках многіх — партрэты кіраўнікоў партыі і савецкага ўрада, сцягі, транспаранты...

На галаўны гідравузел прыбылі кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі П. М. Машэраў, старшыня Савета Міністраў БССР Ц. Я. Кісялёў, сакратар ЦК КПБ У. Ф. Міцкевіч, першы сакратар Мінскага абкома партыі І. Я. Палякоў.

Урачысты мітынг адкрыў першы сакратар Вілейскага райкома партыі В. А. Рудакоўскі. Ад імя Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі і ўрада рэспублікі міністр меліярацыі і воднай гаспадаркі БССР У. І. Паўлючук горача віншуе будаўнікоў галаўнога гідравузла з працоўнымі поспехамі, расказвае аб вялікім народнагаспадарчым значэнні Вілейска-Мінскай воднай сістэмы. Ад імя калектыву першага будаўнічага ўпраўлення «Віліямінскводбуда», які ўзводзіць галаўны гідравузел, на мітынгу выступіў кіраўнік брыгады цесляроў камуніст Я. П. Сільвановіч, ад імя пятага ўпраўлення механізацыі — лепшы бульдазерыст камуніст І. І. Жыхараў, ад імя генеральнага заказчыка — Мінскага гарвыканкома — намеснік старшыні І. Р. Шкрэбнеў.

Піянеры, камсамольцы Вілейшчыны ўручылі будаўнікам букеты кветак.

І вось самы хвалюючы момант. З каманднага пункту падаецца сігнал аб пачатку перакрыцця ракі. Усе бягуць да берага, да таго месца, дзе з

абодвух бакоў узвышаюцца горы загадзя падрыхтаванага суглінку, пяску і камення, дзе на старце выстраіліся магутныя бульдозеры, упрыгожаныя лозунгамі і сцягамі. Нібы гром, загрукаталі матory, здрыганулася зямля, і ў ваду пасыпаўся грунт. Штурмаваць Вілію выпаў гонар лепшым механізатарам УМ-5 упраўлення «Віліямінскводбуда», тым, хто паклаў першыя кубаметры зямлі ў збудаванне і на працягу пяці гадоў самаадданa нёс вахту за штурваламі сталёвых волатаў. Гэта — машыністы бульдозераў М. С. Сташэўскі, В. І. Венцлаўскас, А. І. Бабарыка, П. Ф. Глінскі, экскаватаршчыкі У. К. Ярашэвіч і С. С. Куляшоў, вадзіцелі «МАЗаў» У. М. Каркоцкі, П. А. Дубовік, У. У. Наркевіч і іншыя.

Заход, яшчэ заход, — і ўсё вузее і вузее праран. Рака пеніцца, вірыць, змывае грунт, не хоча саступаць са свайго старога рэчышча. Але хіба ўстоіш супраць сталёвых волатаў! І яна вымушана скарыцца. Усяго пяцьдзесят мінут спатрэбілася для таго, каб закрыць праран. І Вілія, шукаючы выйсця, хлынула да падножжа вадаскіду. Ды так хутка, што сотні людзей апынуліся на астраўку. З яго давялося перапраўляцца па пантонных трубах.

Не прайшло і паўгадзіны, як вілейская вада ў абход пайшла праз донныя галерэі і трапіла на другі бок вадаскіду ў спецыяльна пракапаны 700-метровы канал, які злучаны са старажытным рэчышчам Віліі. Але донныя галерэі маглі прапусціць толькі палову вады, якую несла рака. І яна на вачах у прысутных павольна пачала выходзіць з берагоў. Ужо на другі дзень вада затапіла найбольш нізінныя месцы будучага мора.

8 верасня 1973 года ўвойдзе ў гісторыю як дзень нараджэння самага вялікага ў Беларусі штучнага вадасховішча, якое па праве можна назваць Вілейскім морам. У недалёкім будучым, калі будзе гатовая другая чарга галаўнога гідравузла, яно стане па плошчы большае за Нарач.

Нагадаем, што Вілейскае мора разальецца ўдоўжкі аж на трыццаць кіламетраў, яго сярэдняя шырыня будзе тры кіламетры, глыбіня ў асобных месцах перавысіць пятнаццаць метраў. Калі яно дасягне праектнай адзнакі, у ім будзе каля трохсот мільёнаў кубаметраў вады.

Гэты басейн з'явіцца гарантаваным пастаўшчыком вады для беларускай сталіцы, удосталь забяспечыць патрэбу мінскіх прадпрыемстваў у тэхнічнай вадзе, а падземная вада, якую цяпер яны спажываюць, пойдзе толькі на пітныя і гаспадарча-бытавыя патрэбы.

У маляўнічых прыбярэжных лясных мясцінах, багатых ягадамі, грыбамі, арэхамі, будзе створана зона адпачынку, своеасаблівая беларуская Рыўера. Тут вырастуць санаторыі, піянерскія лагеры, турысцкія і спартыўныя базы, дзе адначасова змогуць адпачываць дзесяткі тысяч людзей.

## ЯК УСЁ ПАЧЫНАЛАСЯ...

Вілейска-Мінская водная сістэма — самая вялікая ў Беларусі. Яе даўжыня звыш двухсот кіламетраў. Сістэма праходзіць праз Вілейскі, Маладзечанскі, Мінскі раён і заканчваецца там, дзе рэчка Волма ўпадае ў Свіслач, што ў Пухавіцкім раёне.

Будаўніцтва сістэмы пачалося вясной 1968 года.

— Тады, — успамінае начальнік БУ І. В. Лузік, — у толькі што створаным будаўнічым участку налічвалася ўсяго некалькі інжынерна-тэхнічных работнікаў ды каля дзесятка механізатараў. З тэхнікі мы мелі чатыры трактары. У наша распараджэнне выдзелілі на ўскраіне вёскі Халапы зямельны ўчастак пад вытворчую базу. Тут, у перасоўным вагончыку, і размясцілася кантора — невялікі штаб будоўлі. Лічыце, на голым месцы, пачынаючы ўсё з нуля, разгортвалі будаўніцтва. Клопатаў хапала. Набіралі рабочых, вывучалі чарцяжы, знаёміліся з месцамі, дзе было запраектавана збудаванне аб'ектаў. Адначасова павялічваўся машынны парк: прыбывалі экскаватары, бульдозеры, скрэперы, аўтамашыны...

Першым аб'ектам галаўнога гідравузла была левабярэжная агараджальная дамба. Але перад тым, як пачаць яе адсыпку, давялося пракласці сюды дарогу. Яна прайшла праз стары лясны прасёлак, дзе раней можна было праехаць толькі конна. Па новай гравійцы ў пачатку мая і была перакінута землекапальная і іншая тэхніка. Тут, у лесе, каля вёскі Сенішча, размясціўся палявы стан будаўнікоў. Цішыня некранутых бароў і лугоў абудзілася магутным рокатам матораў.

Мінула пяць з паловай гадоў. За гэты час калектыў першага будаўнічага ўпраўлення асвоіў звыш 18 мільёнаў рублёў.

Вельмі напружаны быў сёлетні, трэці, рашаючы год пяцігодкі. Дастаткова сказаць, што за тры кварталы будаўнікі выканалі работ больш як на шэсць мільёнаў рублёў. Гэта трэцяя частка ўсіх сродкаў, якія выдаткаваны на ўзвядзенне галаўнога гідравузла з пачатку яго будаўніцтва.

У калектыве будаўнікоў выдатных поспехаў дасягнулі механізатары пятага ўпраўлення «Віліямінскводбуда», што працавалі на будаўніцтве галаўнога гідравузла. Яны выканалі ўвесь аб'ём земляных работ. Ачысцілі дно вадасховішча ад пнёў і хмызнякоў. Яны ж перакрылі і старое рэчышча Віліі.

## ІХ СЛЕД НА ЗЯМЛІ

На будаўніцтве галаўнога гідравузла звыш тысячы чалавек. Больш паловы калектыву — маладыя людзі. Кожны пяты з іх — камсамолец.

У летнія месяцы на Вілію прыязджалі студэнцкія атрады. Гэтым летам пяць атрадаў з вышэйшых навучальных устаноў Мінска працавалі на галаўным гідравузле. Студэнты ўкладвалі бетон на пліце і правабярэжнай агараджальнай дамбе, на вадаскідзе, ачышчалі дно вадасховішча ад хмызняку.

Студэнцкае працоўнае лета — гэта аб'ём работ амаль на дзвесце тысяч рублёў.

Калі гаварыць пра перадавікоў вытворчасці, то можна назваць дзесяткі ветэранаў, якія маюць званне ўдарніка камуністычнай працы.

Вось адзін з іх — машыніст экскаватара Міхаіл Хоміч. Працуе







**Яны ўзводзілі галаўны гідравузел. Зверху ўніз — брыгадзір ізаліроўшчыц Марыя Рынг, начальнік участка БУ-І Сцяпан Снітко і электрык БУ-І Леанід Барташэвіч.**

ў зоне галаўнога гідравузла з вясны 1968 года. Кубаметры грунту Хоміча ёсць ва ўсіх збудаваннях. Іх нямала — звыш мільёна! Доблесная праца экскаватаршчыка адзначана высокай узнагародай — ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Васемнаццацігадовым юнаком прыйшоў на будоўлю камсамолец Тадэвуш Валковіч, выпускнік Друйскага вучылішча механізацыі меліярацыйных работ. Яго прызначылі памочнікам машыніста экскаватара. Першыя працоўныя крокі Тадэвуша прайшлі на гідравузле. Потым яго прызвалі ў армію, дзе ён удасканаліў механізатарскія веды. Сёлета дэмабілізаваўся і зноў вярнуўся на будоўлю, узначаліў экіпаж экскаватара, які крочыць у першых шэрагах спаборніцтва. У ліку лепшых імя Тадэвуша Валковіча занесена на Дошку гонару пятага ўпраўлення.

Камуніст Іван Жыхараў разам са сваім калегам Міхаілам Сташэўскім улетку абаранялі гонар беларускіх меліяратараў на Усесаюзным спаборніцтве мацнейшых бульдазерыстаў краіны і паказалі высокі клас. Іх партрэты таксама ўпрыгожваюць Дошку гонару УМ-5.

Будаўнічае ўпраўленне № 1 — буйнейшае на «Віліямінскводбудзе». У гэтым калектыве добра наладжана спаборніцтва як паміж брыгадамі, так і ўнутры іх. Усе брыгады комплексныя. Людзі трымаюцца прынцыпу: адзін за ўсіх, усе за аднаго. Невыпадкова, што ўсе брыгады, як правіла, перавыконваюць зменныя заданні пры высокай якасці работ.

Будоўля — добрая школа для маладых. Да прыкладу, камсамолец Аляксандр Буйніцкі яшчэ студэнтам Мінскага політэхнічнага інстытута прыехаў сюды на пераддыпломную практыку і праходзіў яе на аб'ектах галаўнога гідравузла. Пасля заканчэння інстытута малады інжынер у жніўні 1970 года прыехаў на работу ў БУ-1, узначаліў работы па будаўніцтве левабярэжнай і правабярэжнай агараджальных дамбаў. Цяпер ён стаў начальнікам участка, калектыў якога ўзводзіць на канале помпавую станцыю першага пад'ёму.

Любоў Максімовіч прыйшла ў БУ-1 без спецыяльнасці. Яна хутка авалодала прафесіяй электразваршчыцы і цяпер працуе не горш, як яе калегі. Яна ўдарнік камуністычнай працы, яе партрэт на Дошцы гонару.

Заслужаным аўтарытэтам у калектыве БУ-1 карыстаецца малады інжынер Сцяпан Снітко. Энергічны, сталы думкай. Ягоныя гэтыя якасці гартаваліся яшчэ на будаўніцтве Крымскага канала, дзе ён пачаў сваю працоўную дарогу. Калі на галаўным гідравузле пачалася гарачая пара — узвядзенне вадаскіду, Сцяпана прызначылі на гэты ўчастак начальнікам. Малады інжынер справіўся з адказным даручэннем.

Пра ўсіх перадавікоў будоўлі расказаць немагчыма. Іх — многія дзесяткі, сотні. Каго з іх ні вазьмі, кожны мае права з гонарам заявіць: усё, што зроблена, — справа і маіх рук. Так, гэта яны, маладыя энтузіясты, узвялі і плаціну, і вадаскід, і агараджальныя дамбы, і дрэнажныя помпавыя станцыі, і магутную вытворчую базу з чыгуначнай веткай, бетонным заводам, майстэрнямі і іншымі аб'ектамі...

Адольваючы цяжкасці, будаўнікі напружваюць сілы з тым, каб з гонарам выканаць задачу XXIV з'езда КПСС — да канца пяцігодкі ўвесці ў дзеянне ўсе аб'екты Вілейска-Мінскай воднай сістэмы, а галаўны гідравузел здаць у эксплуатацыю ў снежні гэтага года.

**Аляксандр ХУДАВЕЦ.**

Фота **У. Марцыёнкі.**

■ ■ ■



Дзесяты Сусветны

# ПОЛЫМЯ ДРУЖБЫ НЕ АДШУГАЛА

## *СТАРОНКІ ФЕСТЫВАЛЬНАГА ДЗЁННІКА*

**Адзвінела павуціннем «бабіна лета», адшалясцела лісцвяная пазалота — лістападаўскі вецер, нібы ўзлаваўшыся на прахожага з непакрытай галавой, шпурляе ў твар яму калючую марозную жарству. Не за гарамі зімовыя завірухі, а я ўсё ўспамінаю і ўспамінаю спякотны ліпень і Берлін. Стрэну каго, пачую знаёмае прозвішча ці знаёмую мелодыю — і перад вачыма зноў і зноў гасцінная сталіца Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, дзе мне давялося правесці мінулым летам некалькі незабыўных і шчаслівых дзён.**

**У складзе дэлегацыі савецкай моладзі я быў удзельнікам X Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў у Берліне. Раскажу пра тое, што засталося не толькі ў маім журналісцкім блакноце, але — найперш — у сэрцы...**

### НАПЯРЭДАДНІ

Упершыню мы сустрэліся на прэс-канферэнцыі ў памяшканні ЦК ЛКСМБ. Мы — гэта члены дэлегацыі моладзі нашай рэспублікі на X Сусветны фестываль моладзі і студэнтаў. Настрой ва ўсіх — выключна радасны, бадзёры. Праз тыдзень-другі кожны на ўсю глыбіню розуму і сэрца адчуе, зразумее адказнасць і




**Перад ад'ездам у Берлін—ля музея Брэсцкай крэпасці-героя. Ганаровыя госці фестывалю Валянціна Нікалаева-Церашкова, генерал арміі Павел Іванавіч Батаў і кіраўнік дэлегацыі савецкай моладзі, першы сакратар ЦК ВЛКСМ Яўген Міхайлавіч Цяжэльнікаў.**

гонар, што выпалі нам—прадстаўляць нашу цудоўную Радзіму на грандыёзным форуме юнацтва планеты. А пакуль што... Мы, як і журналісты маладзёжных газет, радыё і тэлебачання, з цікавасцю слухаем старшыню Камітэта маладзёжных арганізацый БССР Уладзіміра Ягорава, які прадстаўляе нас карэспандэнтам. Гэта было наша першае знаёмства, першая сустрэча, з якой пачынаўся шлях у Берлін, пачыналася наша сяброўства. Хоць, калі гаварыць дакладней, шлях на фестываль для кожнага члена дэлегацыі пачынаўся, вядома ж, не тут, у зале ЦК ЛКСМБ.

*Для Барыса Юзафовіча, слесара Брэсцкага электрамеханічнага завода, шлях* гэты пачаўся, магчыма, тады, калі Барыс выступіў з пачынам «Пяць—за чатыры», альбо тады, калі просты рабочы хлопец стаў лаўрэатам прэміі Ленінскага камсамола рэспублікі.

Сябар Барыса Леанід Дзяцел, токар Брэсцкага электралямпавага завода, пуцёўку на фестываль здабыў таксама сваёй сумленнай, старраннай працай. У Берлін ён вёз свой асабісты сувенір—ювелірнай работы вінтовачны патрон, напоўнены свяшчэннай зямлёй з Брэсцкай крэпасці.

*Вітольд Грыц і Леанід Чабатарэнка—механізатары. Лаўрэат прэміі Ленінска*га камсамола Вітольд Грыц працуе ў калгасе «Ясная Паляна» Ашмянскага раёна, а кавалер ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга Леанід Чабатарэнка—у калгасе «17-га верасня» Нясвіжскага раёна. Абодва добра вядомыя ўсёй рэспубліцы.

Моладзь Гомельшчыны паслала ў Берлін свайго важака—першага сакратара абкома камсамола Уладзіміра Казлоўскага і свідравальшчыцу «Гомсельмаша» Валянціну Літвіненку...

Пра кожнага з членаў дэлегацыі можна шмат расказаць, бо мандаты дэлегатаў атрымалі сапраўды лепшыя з лепшых. Сярод пасланцоў беларускай моладзі—лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола кампазітар Ігар Лучанок, начальнік вытворчага ўчастка калгаса «Перамога» Глыбоцкага раёна Ядзя Ляшонак, вядомая ўсяму свету Вольга Корбут, першы сакратар Расонскага райкома камсамола Роза Цвяцінская, прасаўшчык-вулканізатар з Бабруйска Яўген Круглікаў...

Прэс-канферэнцыя скончылася, але ніхто не разыходзіцца. Разам з журналістамі выходзім на вуліцу, крочым знаёмым усім мінчанам скверыкам, пасярод якога бронзавы хлопчык абнімае за шыю лебедзя, а расстацца ніяк не можам. Гамонка, з жартамі і смехам, вяртаецца і вяртаецца ўсё да аднаго—да фестывалю.

— Шчаслівчыкі,—уздыхае карэспандэнт «Знамени юности» Слава Сівакоў.— Глядзіце, каб хоць усё добра было... Запамінайце і занатоўвайце ўсё-ўсё...

Не заўважылі, як дайшлі да вакзала. Да адыходу цягніка на Маскву (у сталіцы збіраліся дэлегацыі ўсіх рэспублік) заставаліся лічаныя хвіліны, а мы ўсё яшчэ давалі інтэрв'ю, дзякавалі за парады, за шчырыя пажаданні.

... Масква сустрэла нас чыстай раніцай і новымі справамі. Кожны дзень, покуль збіраліся ў Маскву дэлегацыі, прыносіў нам новыя знаёмствы, цікавыя сустрэчы. У адзін з вечароў гасцямі дэлегатаў былі кампазітары Аляксандра Пахмутава і Уладзімір Шаінскі, паэты Леў Ашанін і Мікалай Дабранраваў, славуты на ўвесь свет Аляксандр Мядзведзь, спявак Леанід Смятаннікаў. Былі ў нас у гасцях і ўдзельнікі VIII Міжнароднага кінафестывалю, які праходзіў у тыя дні ў сталіцы. На сустрэчу прыйшлі Вітаўтас Жалакявічус—пастаноўшчык фільмаў «Ніхто не хацеў паміраць» і «Гэта салодкае слова—свабода», актрыса Ірына Мірашнічэнка, якая выконвала галоўную ролю ў апошнім фільме, а таксама Данііл Храбравіцкі—аўтар фільмаў «Дзевяць дзён аднаго года», «Утаймаванне агню» і інш...

Найбольш значнай падзеяй маскоўскіх дзён была ўрачыстая маніфестацыя камсамольцаў і моладзі Краіны Саветаў на стадыёне «Дынама». Яна праходзіла пад дэвізам «Мы справе Леніна і партыі верныя» і з'явілася фінальным акордам Усесаюзнага фестывалю савецкай моладзі. Юнацтва савецкай краіны рапартавала партыі, народу аб сваіх працоўных, культурных, спартыўных дасягненнях.

Запомнілася ўрачыстае пасяджэнне ў Цэнтральным тэатры Савецкай Арміі, на якім праходчык Метрабуда, дэпутат Массавета Леў Кудзінаў зачытаў наказ дэлегацыі савецкай моладзі на Берлінскім фестывалі. У адказ ад імя дэлегатаў выступіў член бюро ЦК ВЛКСМ, рабочы Ленінградскага завода «Электрасіла» Уладзімір Цалуеў. Усхвалявана гучыць яго голас:

— Мы з гонарам выканаем наказ з годнасцю прадстаўляць нашу краіну на маладзёжным форуме ў Берліне...



**Трохразовы алімпійскі чэмпіён Аляксандр Мядзведзь і першы сакратар ЦК ЛКСМБ Уладзімір Падрэз.**

Апошнія словы патанаюць у гуле авацый.
Урачыстае пасяджэнне закончылася канцэртам. Гэта быў агляд-справаздача ўсяго лепшага, што падрыхтавала савецкая дэлегацыя да фестывалю ў сталіцы ГДР...
24 ліпеня, напярэдадні ад'езду ў Берлін, усе члены дэлегацыі пайшлі на Красную плошчу—да Леніна. Мы моўчкі стаялі ля Маўзалея, мы, зусім розныя і не падобныя адзін да аднаго і, разам з тым,—адно вялікае цэлае, аб'яднаныя непарушнай адданасцю камуністычным ідэалам, жаданнем прысвяціць сваё жыццё справе, пачатай Леніным.

## ДОБРЫ ДЗЕНЬ, БЕРЛІН! ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ФЕСТЫВАЛЬ!

...Лістапад 1945 года. Газеты яшчэ поўняцца каментарыямі ваенных аглядальнікаў, яшчэ не аціхлі залпы пераможных салютаў, яшчэ не пакараны злачынцы супраць чалавецтва—верхаводы фашысцкай Германіі, а ў туманным Лондане праходзіць Сусветная канферэнцыя моладзі. Юнакі і дзяўчаты Краіны Саветаў, не паспеўшы зняць з плячэй вайсковае абмундзіраванне, разам са сваімі аднагодкамі з усіх кантынентаў прынялі сумесную заяву, у якой абвяшчалі аб імкненні да адзінства моладзі ўсяго свету, усіх рас, усіх колераў скуры, усіх нацыянальнасцяў, кляліся знішчыць на зямлі рэшткі фашызму, змагацца за справядлівы і трывалы мір, пакончыць з галечай і беспрацоўем, жыць у дружбе і сяброўстве. Ад Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі ў канферэнцыі ўдзельнічалі Пётр Машэраў, Міхась Зімянін, Тамара Яршова, Надзея Траян, Віктар Лівенцаў, Міхась Парахневіч, Аркадзь Куляшоў.
Тады ж, лістападаўскім днём сорак пятага, моладзь свету вырашыла рэгулярна праводзіць сусветныя сустрэчы моладзі. Так нарадзілася ідэя фестываляў. Першы з іх быў праведзены ў 1947 годзе ў Празе. Пазней сталіцамі сусветных форумаў моладзі і студэнтаў былі Будапешт, Берлін, Бухарэст, Варшава, Масква, Вена, Хельсінкі, Сафія. І вось сёлета месцам дзесятага фестывалю моладзі зноў выпаў гонар быць Берліну—сталіцы першай дзяржавы рабочых і сялян на нямецкай зямлі.
...Раніцой 25 ліпеня Масква праводзіла з Беларускага вакзала ў Берлін савецкую дэлегацыю. Моцныя поціскі рук, сяброўскія абдымкі, сардэчныя пажаданні, букеты кветак.
І так—на кожнай станцыі. У пагранічны Брэст прыехалі а чацвёртай гадзіне раніцы, а на пероне—сотні людзей. Невялікі мітынг. Затым на аўтобусах—у Брэсцкую крэпасць. Ля палітых крывёю свяшчэнных камянёў легендарнай цытадэлі кожны з нас яшчэ раз усім сэрцам адчуў непарыўную сувязь з тымі, хто стаяў тут насмерць у вогненным сорак першым, еднасць з роднай зямлёй, з роднай краінай...
А неўзабаве была Варшава—горад, як і наш родны Мінск, зруйнаваны ў гады вайны дашчэнту... З вышыні чыгуначнага насыпу відаць шырокія вуліцы, высотныя будынкі.
На пероне—тлумна. Ступаю на зямлю і адразу трапляю ў абдымкі. Праз момант у мяне на шыі завязана касынка, а да грудзей прышпілены значок.
— Сябры, мы вітаем вас у Варшаве! — гаворыць па-руску прыгожая варшавянка.
Знаёмімся. Барбара—студэнтка філалагічнага факультэта Варшаўскага ўніверсітэта. Вывучае рускую мову і літаратуру. Была ў Мінску. Пакуль размаўляем, ліхаманкава абмацваю кішэні: як знарок, усе мае сувеніры—у вагоне. Выручае кінаактрыса Валянціна Цялічкіна. Яна дорыць Барбары свой фотаздымак, на якім мы ўдваіх пішам самыя шчырыя пажаданні.
Кароткая сустрэча, але развітваемся сябрамі...
І зноў грукочуць колы цягніка. Польская зямля засталася ззаду. Мы на тэрыторыі Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. Пагладаю на сяброў. Пільна ўзіраецца ў акно Валеры Бударын, час ад часу штосьці занатоўваючы ў блакноце. Засяроджана аб нечым сваім думае Уладзімір Дураўкін. Гартае даведнік пра ГДР Рашыд Джаваншыр з Баку...
Хутка імчыцца цягнік. Праехалі Франкфурт-на-Одэры. Якой цёплай і сардэчнай была сустрэча з моладдзю гэтага нямецкага горада! Засыпалі нас кветкамі, сувенірамі, закідалі адрасамі. Так страчаюць сапраўдных сяброў.
— Валерыя, я закахаўся ў цябе. З таго самага моманту, калі ты заспявала «Бандэра Роса». Ты—гераіня сустрэчы ў Франкфурце,—жартуе Артак Удумян.
— Я ж цябе выручала. Калі б не песня, табе ніколі б не выбрацца з абдымкаў дзяўчат,—у тон яму адказвае Валерыя Калмык.
— Хлопцы, Берлін!—раптам гукае хтосьці ў глыбіні вагона.







**Урачыстае адкрыццё сусветнага форуму моладзі. У фестывальнай калоне—дэлегацыя Кубы.**

Прыпадаем да вокнаў. Змрок рассейваецца святлом вялікага горада. Разбягаюцца ў розныя канцы шырокія вуліцы, праплываюць высокія дамы, мільгае вясёлка рэкламы. Усё павольней коцяцца па рэйках вагоны. Урэшце, здрыгануўшыся ў апошні раз, застываюць на месцы. І раптам усё патанае ў шуме авацый, у громе аркестраў, у шматтысячным «ура!»
Узбуджаныя, усхваляваныя, выходзім з вагонаў. Нас сустракаюць члены дэлегацыі Саюза свабоднай нямецкай моладзі (ССНМ) на X Сусветным фестывалі. Ларысу Бабій і Алену Буртонаву, якія першымі паказаліся ў дзвярах вагона, адразу ж падхапілі два юнакі, уручылі кветкі. Нас, хлопцаў, страчаюць дзяўчаты.
— Добры вечар, дарагі таварыш!—гаворыць мне высокая чарнявая дзяўчына і падае букецік гваздзікаў.
Праз вузенькі жывы калідор мінаем вакзал «Остбангоф» і выходзім на вялікую плошчу, залітую святлом пражэктараў, шумную і рухлівую ад тысяч і тысяч людзей. Нас вітаюць адусюль — поціскамі рук, усмешкамі, воклічамі «Ленін!», «Камсамол!», «Дружба!»
Да мікрафона падыходзіць юнак з гітарай, ён спявае вясёлую, жыццярадасную песню.
— Дзін Рыд,— гаворыць мне мая нямецкая сяброўка, студэнтка Лейпцыгскага ўніверсітэта.
— Наш шлях на фестываль пралёг праз Красную плошчу, ад Маўзалея Уладзіміра Ільіча Леніна. На гэтым святым месцы для кожнага савецкага чалавека мы, адпраўляючыся на фестываль, пакляліся берагчы і ўмацоўваць дружбу і адзінства з моладдзю ГДР, усіх братніх сацыялістычных краін, умацоўваць рэвалюцыйную салідарнасць з нашымі братамі па класу з капіталістычных краін,— гаворыць першы сакратар ЦК ВЛКСМ Яўген Цяжэльнікаў.
На трыбуне—члены ўрада ГДР, першы сакратар ССНМ Гюнтар Ян, ганаровыя госці фестывалю, артысты. Гюнтара Яна я раней бачыў на фотаздымках, але не здагадваўся, што ён на дзіва вясёлы і прыемны чалавек. Сярод юнакоў і дзяўчат нямецкай рэспублікі рабочых і сялян ён карыстаецца асаблівым аўтарытэтам—гэта сапраўдны важак моладзі.



**Герой барацьбы супраць агрэсіі ЗША, 27-гадовы лётчык з ДРВ Нгуен Дук Саат, які збіў сем амерыканскіх «Фантомаў».**



**Такія вочы могуць быць толькі ў парыжанкі...**

Магутныя пражэктары высвечваюць кожны куточак велізарнай плошчы. Раз-пораз яе скаланаюць авацыі, рускае «ура!» і нямецкае «гох!».

Мітынг заканчваецца. Пачынаецца канцэрт. Адкрывае яго нацыянальны карацкі ансамбль «Мэнга». А затым ля мікрафона—Эдуард Хіль, Іосіф Кабзон, Леанід Смятаннікаў, Валеры Кучынскі. Песня ўзлятае над плошчай. Праз момант яе спяваюць усе:

Дружба—фройндшафт,
Дружба—фройндшафт!
Всегда мы вместе,
Всегда мы вместе,
ГДР и Советский Союз...

## БЕРЛІН, ДЗЕНЬ ПЕРШЫ

Прачнуўся ў дзіўным настроі. Гэта ж трэба: у першую ноч у фестывальным Берліне мне прыснілася родная вёска на Нясвіжчыне, бацька, маці, малодшы брат... Зірнуў на гадзіннік: палова шостай. Мо ранавата ўставаць? Якое там рана! Давай хутчэй да вакна—ты ж у Берліне!..

Горад з акна—як на далоні. Праглядваецца ў ранішняй смузе славутая тэлевізійная вежа, уражвае каскадамі высотных дамоў цэнтр сталіцы. І паўсюль—фестывальная рамонкі: на вокнах, на сценах, на аўтамабілях.

Неўзабаве з рэпрадуктара пачулася:

— Гаворыць штаб! Таварышы дэлегаты, аб'яўляем праграму на 27 ліпеня...

Першы наш дзень у Берліне пачаўся. Адразу пасля снедання (для эканоміі часу сняданак быў пададзены нам у спецыяльных фестывальных пакетах) едзем у новенькіх, толькі што з завода аўтобусах у Панкаў-парк, каб ускласці гірлянды жывых кветак да помніка савецкім воінам, якія загінулі тут вясною сорак пятага. Потым нямецкія сябры паказваюць нам горад, знаёмяць з помнікамі дойлідства, памятнымі мясцінамі. Горад на дзіва прыгожы, чысты, святочны. І зноў жа, на кожным кроку страчаеш сімвал фестывалю — рамонак.

Дзіўнае пачуццё ахоплівае цябе на берлінскіх вуліцах, на славутай Аляксандр-пляц. Берлін—гэта Германія, якая дала свету геніяў Маркса і Энгельса, гэта бяссмерце Карла Лібкнехта і Розы Люксембург, гэта грамавы покліч «Рот фронт!» і непераможнасць батальёна Тэльмана на подступах да Мадрыда. Берлін—гэта Германія, якая падаравала свету веліч думкі і таленту Гегеля і Дзюрэра, Бетховена і Гётэ. Ды раптам...





**Прывітанне з Паўночнай Ірландыі!**



**Ён прыехаў у Берлін з Марселя.**



— Дарагія сябры, мы знаходзімся ля Брандэнбургскай брамы,—кажа наш гід, і нібыта токам цябе працяло.

Брандэнбургская брама... Дваццаць восем гадоў назад мой бацька пакінуў на ёй свой подпіс. На момант заплюшчаны вочы—і нібы сам бачыш той радасны вясновы дзень, што прынёс свету, усяму спакутаванаму чалавецтву доўгачаканую вестку аб міры. Якім нялёгкім быў шлях сюды, да Брандэнбургскай брамы, тых, хто ў маі сорак пятага пакідалі тут свае пераможныя аўтографы...

— Гэтая вуліца названа ў гонар першага каменданта Берліна імем генерала Бярзарына,—гаворыць між тым гід.

Заўважаю, як хвалюецца пасля гэтых слоў Коля Курцаў—маскоўскі школьнік: Герой Савецкага Саюза, генерал-палкоўнік Бярзарын—яго дзед...

Дваццаць восем гадоў назад савецкі чалавек вярнуў Берліну права быць горадам людзей. Берлін стаў сталіцай краіны стваральнікаў, сталіцай Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі.

Увечары нямецкія сябры запрасілі савецкую дэлегацыю на сустрэчу ў Кангрэс-хале. Напачатку—невялікі мітынг. Першы сакратар ЦК ВЛКСМ Яўген Цяжэльнікаў уручыў Саюзу свабоднай нямецкай моладзі сцяг Ленінскага камсамола і гравюру па сталі з партрэтам любімага сына чалавецтва Юрыя Гагарына. Першы сакратар ЦК ССНМ Ян Гюнтар перадае савецкай дэлегацыі сцяг Саюза свабоднай нямецкай моладзі. А затым—баль. Поруч са мной—нямецкі юнак. Знаёмімся. Яго завуць Петар Саўэр. Металург з Дрэздэна. Вучыўся ў Савецкім Саюзе. Зараз—адзін з перадавых металургаў рэспублікі. У складзе дзяржаўнай дэлегацыі ГДР прымаў удзел ва ўрачыстым святкаванні 50-годдзя СССР. Міністр чорнай металургіі СССР узнагародзіў Петара імянным гадзіннікам. Я не ведаю нямецкай мовы, Петар амаль не гаворыць па руску, але, як ні дзіўна, мы цудоўна разумеем адзін аднаго.

Да нас падбягаюць дзяўчаты, запрашаюць на вальс.

— Мяне завуць Таня, а як завуць вас?—на добрай рускай мове пытаецца ў мяне мая партнёрка, прыгожая светлавалосая дзяўчына з блакітнымі вачыма.

— Таня? А па-нямецку як?—здзіўляюся я.

— І па-нямецку Таня,—адказвае дзяўчына.—Мама назвала так мяне ў гонар Зоі Касмадзям'янскай...

Гучыць і гучыць пад скляпеннямі Кангрэс-хале вальс дружбы.

## ДЗЕНЬ ДРУГІ

З усяго свету ў Берлін прыбывалі дэлегацыі моладзі. Побач з намі жывуць венгры, в'етнамцы, арабы, афганцы. Пры сустрэчы вітаюць нас па-руску: «Здравствуйте! Добры дзень! Ленін! Масква!»

Самыя вялікія прадстаўнічыя дэлегацыі, па тысячы чалавек, прыехалі з Савецкага Саюза, Італіі, Францыі. Самая маленькая дэлегацыя астравоў Фіджы— адзін чалавек. У нашай дэлегацыі прадстаўлены ўсе катэгорыі савецкай моладзі: маладыя рабочыя і калгаснікі, студэнты, навучэнцы, школьнікі, маладыя вучоныя, прадстаўнікі навуковай і творчай інтэлігенцыі. Акрамя гэтага, у Берлін прыехала вялікая мастацкая група—250 чалавек—і спартыўная—116 юнакоў і дзяўчат. Пяцёра юнакоў прадстаўлялі нашы Узброеныя Сілы. Каля 97 працэнтаў дэлегатаў мелі вышэйшую, незакончаную вышэйшую і сярэднюю адукацыю. У дэлегацыі—прадстаўнікі 43 нацыянальнасцяў нашай краіны. Сярод дэлегатаў—17 дэпутатаў Вярхоўнага Савета СССР, 34 дэпутаты Вярхоўных Саветаў саюзных рэспублік, 64 камсамольскія работнікі, 4 Героі Сацыялістычнай Працы. 297 чалавек маюць урадавыя ўзнагароды, у тым ліку 15—ордэн Леніна...

Праграма на 28 ліпеня была, бадай, самая кароткая—адкрыццё X Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў.

Пасля невялікай трэніроўкі—шэсця калонай вакол інтэрната—едзем да стадыёна. Гадзіннік паказвае поўдзень. Быццам спецыяльна ў гонар вялікага свята з самай раніцы на небе—ні воблачка. Берлін заліты сонцам, радасцю, усмешкамі.

Калона нашых аўтобусаў паволі рухаецца праз цэнтр Берліна на вуліцу Унтэр-дэн-Ліндэн, адкуль пачнецца фестывальнае шэсце.

Роўна ў дзве гадзіны яго адкрывае дэлегацыя Балгарскай Народнай Рэспублікі, якая была гаспадыняй IX Сусветнага. За ёй ідуць дэлегацыі Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнам і Рэспублікі Паўднёвы В'етнам—моладзь В'етнама заваявала гэтае ганаровае права сваёй мужнасцю і непахіснасцю ў барацьбе за свабоду і незалежнасць сваёй радзімы. Астатнія дэлегацыі ідуць згодна нямецкага алфавіту.

Цяжка падабраць удалае параўнанне, каб перадаць тое, як выглядаў Берлін у тыя незабыўныя хвіліны. 25640 юнакоў і дзяўчат са 140 краін сабраліся ў сталіцы ГДР. Толькі адна думка пра тое, што перад табой моладзь усёй планеты Зямля, прымушае хваляваўца незвычайна. Хіба магчыма такое ўявіць?! А тут і ўяўляць не трэба. Вось яны, пасланцы планеты, перад табою! Мае сябры сашчоўкалі ўжо не па адной плёнцы. Ды і сам я здымаю ўсё, што трапляецца ў аб'ектыў—стрымацца немагчыма.

Адна за адной праходзяць дэлегацыі. Ідуць маладыя карэянкі ў белых сукенках з веерамі ў руках, танцуюць свой пяшчотны танец. Ідзе Лацінская Амерыка, і ўся калона—рытм, энергія, запал. Ідуць маладыя, на дзіва жыццярадасныя кубінцы, і ў такт іхняе славутае «Пачангі» пускаюцца ў скокі іншыя калоны і гледачы. Сваё народнае мастацтва танца паказваюць маладыя сенегальцы, пасланцы іншых краін афрыканскага кантыненту. Усё вакол зліваецца ў незвычайны эмацыянальны кругаварот гукаў, музыкі, рухаў, колераў.

Невялікая затрымка. Каля нас прыпыняецца дэлегацыя моладзі Італіі.

— Советика! Ленин! Комсомол! Здравствуйте, друзья!—колькі шчырых слоў, колькі асляпляльных белазубых усмешак!

— Я і мой сябар—з Балонні. Мы былі ў Савецкім Саюзе. Мы назаўсёды запомнім убачанае. Запомнім Кіеў, Ленінград, Маскву. Мы—камуністы,—гаворыць сур'ёзны юнак у акулярах.

Мы фатаграфуемся на памяць. Чарнявая Джавана, блытаючы рускія і італьянскія словы, гаворыць:

— Я нарадзілася і жыву ў Вероне. Студэнтка. Праз год буду інжынерам-хімікам. Бацька таксама інжынер. Нам даводзіцца нялёгка. Але мы не падаем духам, змагаемся... Змагаемся супраць фашызму. Фашызм—гэта страшна...

Джавана ўсміхаецца і бяжыць даганяць сваю калону.

Шэсце працягваецца. Нарэшце і наша калона накіроўваецца да стадыёна «Маладосць свету». Уперадзе, лёгка трымаючы ў адной руцэ сцяг Краіны Саветаў, наш праслаўлены зямляк Аляксандр Мядзведзь. Калі мы ступілі на дарожку стадыёна, неба, здавалася, раскалецца ад буры авацый і прывітальных воклічаў, якімі сустрэла юнацтва планеты пасланцоў савецкай моладзі. Усе падняліся са сваіх месцаў, з аднаго боку грымела шматгалосая «Кацюша», з другога—«Падмаскоўныя вечары»...

Апошняй на стадыёне дэлегацыя Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. Я пільна ўзіраюся ў сцяганосца—штосьці знаёмае ў яго абліччы. Так і ёсць: дзяржаўны сцяг ГДР нясе Петар Саўэр, металург з Дрэздэна. Якая прыемная сустрэча!





Полымя фестывалю запальвае чэмпіён Алімпійскіх гульняў 1972 года, трохразовы чэмпіён Еўропы па скачках у вышыню з шастом Вольфганг Нордвіг. У суправаджэнні 18-гадовай Біргіт Рункэ і 24-гадовай Ранаты Лаўш Нордвіг бяжыць па дарожцы, а затым па доўгай, амаль бясконцай лесвіцы да велізарнай чашы. Натоўп рэпарцёраў кінуўся за ім, каб зняць урачысты момант. Чалавек сто, а мо і болей, абліваючыся потам, абвешаныя сумкамі і фотаапаратамі, беглі навыперадкі, не горш, чым стаеры на Алімпійскіх гульнях...

X Сусветны—адкрыты! Палае яго полымя, у неба ўзлятаюць тысячы галубоў, 2500 барабаншчыкаў і фанфарыстаў пачынаюць музычную і спартыўную праграму свята адкрыцця.

## ДЗЕНЬ ТРЭЦІ

Плошча Аляксандр-пляц. З першага дня «Алекс», як завуць плошчу берлінцы, стала месцам фестывальных сустрэч. Ля падножжа тэлевышкі працуе Міжнародны цэнтр салідарнасці, тут жа запрашае на дыскусіі «Свабодная трыбуна». У другім канцы плошчы на адкрытай сцэне пачалася Міжнародная мастацкая праграма. Хочаш—можаш далучыцца да групы юнакоў з гітарамі і развучыць песню, хочаш паспрачацца па тых ці іншых пытаннях—калі ласка, на «Алексе»—тысячы, дзесяткі тысяч людзей. Знаёмяцца, гутараць, спяваюць, танцуюць. Аляксандр-пляц—гэта фестываль у неафіцыйнай, калі так можна сказаць, атмасферы. «Увесь цэнтр горада зусім стыхійна ператварыўся ў галоўны цэнтр таго, што звычайна прынята называць адкрытым абменам думак. Гавораць там вельмі шмат і з вялікім натхненнем, прычым можна адзначыць, што моладзь ГДР з невера-

**— Глядзіце, мы ж сапраўдныя хіпі!**
**Сярод турыстаў, якія прыехалі на фестываль, былі і такія...**



годнай упэўненасцю карыстаецца сваімі аргументамі»,—адзначала радыё Заходняга Берліна. А пражская газета «Праце» пісала: «Праходжаму на вуліцах Берліна здавалася, што ва ўсім свеце існуе толькі адна мова моладзі,—не паспееш загаварыць з кім-небудзь з маладых людзей, як вакол адразу ж збіраюцца юнакі і дзяўчаты розных краін. І звычайная размова ператвараецца ў трыбуну пытанняў і адказаў. Глыбокага ведання моў тут не патрабуецца, бо моладзь яднае адна і тая ж ідэя, адна і тая ж мэта».

Сапраўды, юнакі і дзяўчаты з усіх краін свету праяўлялі зайздроснае адзінства ў барацьбе супраць імперыялізму, прыгнечання, эксплуатацыі, у барацьбе за мір і сацыяльны прагрэс. Памятаю поўны гневу і рашучасці твар маладога мазамбікца, чую яго ўсхваляваны голас, калі ён расказваў пра злачынствы партугальскіх каланізатараў на яго радзіме. Памятаю пуэртарыканцаў, якія расказвалі моладзі свету аб гаротным лёсе сваёй краіны. Памятаю маладога калумбійца, яго ўсхваляваны расказ пра тое, у якіх цяжкіх умовах жыве народ гэтай лацінаамерыканскай краіны...

Не, не вялікі баль сабраў моладзь свету ў Берліне, як спрабавалі сцвярджаць некаторыя заходнія газеты, а брацкая салідарнасць, адзінства ідэй, адзінства мэт, гуманістычны дэвіз фестывалю: «За антыімперыялістычную салідарнасць, мір і дружбу».

### ДЗЕНЬ ЧАЦВЁРТЫ

Мы сядзім у студыі Берлінскага радыё—прадстаўнікі нацыянальных дэлегацый. Савецкую дэлегацыю выпаў гонар прадстаўляць мне. Неўпрыкмет азіраюся. Не, нікога не ведаю, акрамя Нордвіга—таго самага, што запаліў агонь X Сусветнага. Звяртае на сябе ўвагу вясёлы, непаседлівы таўстун—крэсла пад ім так і ходзіць. Урэшце, чуецца:

— Увага, пачынаем!

У нас, дэлегатаў, бяруць інтэрв'ю. Перадача ідзе проста ў эфір, таму журналісты хвалююцца. Хвалюемся і мы. Ды не, памыляюся: радыёрэпарцёры—на ўзроўні. Працуюць здорава, нічога не скажаш. Цікава, а хто ж гэты бадзёры таўстун? Аказваецца, ён мае самае непасрэднае дачыненне да фестывалю. Год назад ён ажаніўся і даў жонцы слова, што ў яго павінен нарадзіцца сын, прытым абавязкова ў дні фестывалю. І вось зараз ён перапоўнены шчасцем: на другі дзень фестывалю жонка нарадзіла сына. Шчаслівы бацька цвёрда вырашыў назваць свайго нашчадка Фесці і ніяк інакш.

## МАСТАКІ ЭКРАНА

**Юры Альбіцкі, Вячаслаў Кубараў і Уладзімір Чарнышоў — маладыя мастакі беларускага кіно. Найбольш значны «паслуговы» спіс у Вячаслава Кубарава. Ён рыхтаваў фільмы «Не плач, Аленка», «Масква — Генуя», «Альпійская балада», «Крокі па зямлі», «Паланез Агінскага», «Залаты ганак», «Воблакі» і іншыя. Юры Альбіцкі вядомы па кінастужках «Пісьмы да жывых», «Крушэнне імперыі», «Рудабельская рэспубліка», «Ідучыя за гарызонт». Уладзімір Чарнышоў на студыі «Беларусьфільм» паставіў фільмы «Чырвоны агітатар Трахім Глушакоў», «Бераг прынцэсы Люські», «Спяшайся будаваць дом», «Вялікія перагоны» і іншыя.**

**Мастак-пастаноўшчык кіно чымсьці падобны на тэатральнага мастака-дэкаратара. Паводле сцэнарыя ён распрацоўвае эскізы дэкарацый, але ж кіношныя дэкарацыі робяцца з большым размахам, часам будуюцца з рэчаў натуральных, манціруюцца не на сцэне, а на натуры, з шырокім выкарыстаннем краявіду. Пейзажны фон мастак шукае разам з рэжысёрам, а пасля дапаўняе яго патрэбнымі дэталямі і элементамі. Можа, напрыклад, «пасадзіць» дзе-небудзь над Бярэзінай трапічны лес або вярнуць гродзенскай вуліцы каларыт XVI стагоддзя. Піратэхнікі па яго загадзе з дымавых шашак зробяць туман, цесляры і сталяры ператвораць легкавушку ў бранявік.**

**З мастаком-пастаноўшчыкам абавязкова раяцца грымёры і касцюмеры. Галоўны аператар працуе з ім у самым цесным кантакце. І самы таленавіты рэжысёр вырашае выяўленчыя праблемы з яго дапамогай.**

**Адным словам, мастак-пастаноўшчык — тая самая фігура ў кіно, без якой сапраўднае кіно немагчыма.**





Пасля перадачы гутару з журналістам Фолькерам Хемпелам з выдавецтва «Юнге Вельт». Ён паказвае мне Дошку ганаровых наведвальнікаў.

— Апошні з савецкіх таварышаў у нас быў касманаўт Севасцьянаў. Вось яго подпіс.

Фолькер пакідае мне свой тэлефон. Дамаўляемся сустрэцца.

Пасля абеду іду на прэс-канферэнцыю. Міністр вышэйшай адукацыі ГДР запрасіў да сябе студэнтаў СССР, Даніі, Францыі, Арабскай Рэспублікі Егіпет, Перу, Чылі, Аўстрыі.

У зале—сяброўская атмасфера. Міністр расказвае аб сістэме вышэйшай адукацыі ў рэспубліцы, *аб поспехах вышэйшай школы*. Зараз у ГДР на кожную тысячу насельніцтва—126 чалавек з вышэйшай адукацыяй. Маладых спецыялістаў рыхтуюць 7 універсітэтаў, 18 вышэйшых тэхнічных вучылішчаў, 3 медыцынскія, 3 эканамічныя, 9 педагагічных інстытутаў. Усяго ў ВНУ займаецца 133 *тысячы студэнтаў*, 68 працэнтаў з іх—дзеці рабочых і сялян!

Калі для нас, савецкіх студэнтаў, усё гэта знаёмае і блізкае, дык для большасці прысутных нямала дзіўнага і незразумелага. Поруч са мной штосьці старанна занатоўвае ў блакнот перуанец. У яго да міністра шмат пытанняў, бо праблемы вышэйшай адукацыі набываюць вельмі важнае значэнне для перуанцаў.

— Мы ў Перу хочам знайсці найбольш удалае спалучэнне тэорыі і практыкі. Раскажыце, калі ласка, як студэнты ГДР удзельнічаюць у вытворчым працэсе?

— Данія мае ліберальнае заканадаўства для вучобы ва ўніверсітэтах. Гэта вынік упартай барацьбы студэнтаў. А ці маюць права студэнты ГДР самі вырашаць пытанні кіравання навучальнай установай, ці яны толькі дыскутуюць?

— А я з Аўстрыі. Хачу ведаць, якім чынам малады спецыяліст уключаецца ў вас у работу пасля заканчэння вучобы.

— У Егіпце востра стаіць праблема падрыхтоўкі маладых спецыялістаў. На якую падтрымку ГДР мы можам разлічваць у бліжэйшыя гады?

Пытанні, пытанні... Яны гавораць самі за сябе.

### ДЗЕНЬ ПЯТЫ

Кожны ранак пачынаецца з газеты «Фестываль». Яна выходзіць штодня на васьмі палосах і на шасці мовах. Газету выдае Міжнародны падрыхтоўчы камітэт X Сусветнага фестывалю.

Разгортваю «Фестываль». Адна з заметак пачынаецца так: «Вялікай папулярнасцю карыстаецца савецкі фестывальны клуб у Доме германа-савецкай дружбы на вуліцы Унтэр-дэн-Ліндэн». Сапраўды, клуб наш—у цэнтры ўвагі ўсіх удзельнікаў фестывалю. Я прыехаў туды раніцой, а наведвальнікаў—паўнюткa. У шахматна-шашачным клубе Анатоль Карпаў даваў сеанс адначасовай гульні. У зале сустрэч касманаўт Віталь Севасцьянаў расказваў аб сваёй прафесіі, дзяліўся ўражаннямі ад палёту ў космас. У кіназале дэманстраваліся фільмы маладых савецкіх кінематаграфістаў. У пакоі дружбы ішла дыскусія на тэму «Моладзь і грамадства». Ну, а найбольш тлумна—у кафэ «Калінка», на верандзе якога спяваюць нашы славутыя «Песняры».

*Дарэчы, пра ансамблі і асобных выканаўцаў*. Іх удзельнічала ў фестывалі надзвычай шмат. Найбольш вядомыя з іх—ленінградская група «Гранада», «Вавеле» і «Трубадуры» з Польшчы, «Аванціс» з Чэхаславакіі, берлінскі «Актобер-клуб». Сярод салістаў запомніліся Дзітар Зюверкруп і Франц Дагенгард з ФРГ, Марыям Малеба з Гвінеі, Перы Фрыдман з Канады, Бупен Хазарыка з Індыі, Марыс Паньён з Францыі. Усе яны ўдзельнічалі ў конкурсе палітычнай песні X Сусветнага, а таксама ў шматлікіх гала-канцэртах. Кожны вечар у Міжнародным клубе студэнтаў выступалі самыя разнастайныя ансамблі з самай разнастайнай праграмай. Надаралася і такое. Адзін даведзены да экстазу грывасты юнак выскачыў на сцэну з пісталетам і пачаў «страляць» у слухачоў. Добра яшчэ, што са ствала выляталі не кулі, а струмені вады...

Вечарам гэтага дня сустрэўся з Фолькерам Хемпелам. Разам падняліся на берлінскую тэлевежу. Вышыня яе—365 метраў. На ўзроўні 207 метраў знаходзіцца славутае тэлекафэ. Шар дыяметрам 32 метры, у якім месціцца кафэ, паварочваецца, за гадзіну робіць поўны абарот.

Вяртаючыся ў электрычцы ў інтэрнат, трапіў у палон да берлінскіх юнакоў і дзяўчат. Разам спявалі «Кацюшу».



**Уладзімір ЧАРНЫШОЎ.** Эскіз да кінафільма **«Чырвоны агітатар Трафім Глушкоў».**



**Юры АЛЬБІЦКІ. «Пралог».** Эскіз да кінафільма **«Корцік».**



**Юры АЛЬБІЦКІ. «Піянеры».** Эскіз да кінафільма **«Корцік».**



**Юры АЛЬБІЦКІ. «Рэўск. Пачатак».** Эскіз да кінафільма **«Корцік».**



**Уладзімір ЧАРНЫШОЎ.** Эскіз да кінафільма **«Вялікі трамплін».**



**Вячаслаў КУБАРАЎ.** Эскіз да кінафільма пра мазырскіх нафтахімбудаўнікоў **«Індустрыяльная балада».**

## ДЗЕНЬ ШОСТЫ

Сяджу ў Доме студэнтаў на дыскусіі «Планаванне і адукацыя». Гэта вельмі важная праблема. Справа ў тым, што неабходна дасканальная прапарцыянальнасць паміж эканамічным развіццём грамадства і сістэмай адукацыі. Напрыклад, дэлегат Венгрыі расказваў, што ў іх адзін рубель, затрачаны на падрыхтоўку спецыяліста, дае 1,4 рубля прыбытку ў нацыянальным здабытку краіны. У некаторых жа, пераважна маладых, краінах падобнай прапарцыянальнасці няма. Вось што гаварыў дэлегат С'ера-Леоне. У іх два напрамкі адукацыі. Адзін праводзіць дзяржава, другі—прадпрымальнікі. Аб сумесным планаванні не можа быць і гаворкі. У выніку ў краіне не хапае спецыялістаў-гуманітарнікаў і лішак фізікаў і матэматыкаў. Юнак з Англіі гаварыў аб сутнасці класавай сістэмы адукацыі ў яго краіне, якая закрывае дзверы ў ВНУ перад дзецьмі бяднейшых колаў насельніцтва. Удзельнікі дыскусіі аднадушна прыйшлі да высновы, што толькі сацыялістычная сістэма гаспадарання пазбаўлена падобных недарэчнасцяў і хібаў.

Вядома, нельга сказаць, што на фестывалі зусім не было ідэалагічных спрэчак. Сярод удзельнікаў і гасцей былі прадстаўнікі самых розных саюзаў і арганізацый. Напрыклад, Міжнародны саюз маладых спецыялістаў. Раней, у Вене і Хельсінкі, члены МСМС адкрыта выступалі супраць усялякіх кантактаў з моладдзю сацыялістычных краін. Зараз, у Берліне, прадстаўнікі гэтага саюза праводзілі больш рэалістычную лінію і выказваліся за супрацоўніцтва з сацыялістычнымі і камуністычнымі саюзамі моладзі.

Былі на фестывалі і адкрыта правыя, рэакцыйныя сілы. Сярод іх асаблівай актыўнасцю вылучаліся члены «Юнге Уніон»—маладзёжнай секцыі заходнегерманскай партыі «ХДС-ХСС». Прымыкалі да іх групоўкі трацкістаў і мааістаў, якія трапілі на фестываль у складзе дэлегацый Мексікі, Швецыі, Японіі, Карэі. Дзейнічалі яны па-рознаму: спалучалі выпады з трыбун з неафіцыйнымі гутаркамі на плошчах і вуліцах Берліна.

Адна такая «правая», апранутая амаль што ў рызманы дзяўчына пыталася ў мяне:

— Чаму ў Маскве няма піва? Чаму ў СССР у адной кватэры вымушаны жыць бацька, маці, дачка, сын і бабуля з дзедам?

Лухта, вядома, але стараюся быць спакойным, цярпліва тлумачу. Урэшце, пытаюся:

— Разумееш зараз, што гэта хлусня?

Ківае галавой, а сама—уся іронія.

— Вось і добра. А то я ўжо думаў, што галаву табе канчаткова затлумілі.

Не спадабалася. Пайшла да купкі гэткіх жа нямытых-нечасаных, нават не развітаўшыся.

Такія, мякка кажучы, «прадстаўнікі» аказваліся ў адзіноце. Бітву ідэй выйграла моладзь, што прадстаўляла сілы прагрэсу і сацыялізму.

## ДЗЕНЬ СЁМЫ І ВОСЬМЫ

Два дні з раніцы да вечара мы правялі на семінарах аб задачах культурнай дзейнасці студэнтаў...

## ДЗЕНЬ ДЗЕВЯТЫ

Сёння, 4 жніўня, наша студэнцкая група пабывала на экскурсіі ў Лейпцыгу, у горадзе слаўных рабочых традыцый. З якім хваляваннем заходзілі мы ў музей-друкарню ленінскай «Искры»! Нізкі мураваны будынак, некалькі маленькіх пакойчыкаў, наборная каса, друкарская машына, гектограф—вось і ўсё, што мелі натхнёныя выдаўцы нязгаснай «Искры».

Лейпцыг—горад Карла Лібкнехта, Клары Цэткін, Эрнста Тэльмана, Франца Мерынга. Лейпцыг—гэта мужнасць Георгія Дзімітрова. Сёння ён вядомы сваёй прамысловай прадукцыяй і славутым кірмашом. І яшчэ адна характэрная адзнака горада: кожны пяты студэнт ГДР вучыцца ў Лейпцыгу.

Пабывалі мы ў гасцях у сваіх калег, студэнтаў педагагічнага інстытута імя Клары Цэткін, знаёміліся з побытам, вучобай сяброў, гутарылі з рэктарам. Нямецкія калегі паказалі нам гістарычнае кафэ, у якім бавіў час юны Гётэ і дзе ён пачаў пісаць свайго «Фаўста».

Дадому вярталіся позна, хацелася спаць. Толькі хіба будзеш спаць, калі вакол вірыць фестываль? З першага дня мы выкінулі лозунг: «Адсыпацца будзем дома!» А раз так, то махнулі рукой на сон і пайшлі да югаслаўскіх і венгерскіх сяброў вадзіць іх народныя карагоды.

Ды, мусіць, дзевяты дзень запомніўся іншым. Ён праходзіў пад дэвізам—«Юнакі і дзяўчаты ГДР вітаюць моладзь свету». З самай раніцы ўся наша дэлегацыя накіравалася на галоўную вуліцу Берліна—Карл-Маркс-алею. Некалькі гадзін перад пасланцамі ўсіх кантынентаў зямлі бясконцым патокам ішлі юнакі і дзяўчаты Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі—сто тысяч маладых рабочых, сялян, студэнтаў, школьнікаў. Завяршылася маніфестацыя вялікім карнавалам. Незабыўнае відовішча!

## ДЗЕНЬ ДЗЕСЯТЫ

Пятага жніўня была нядзеля. Роўна дзевяць дзён назад успыхнула полымя фестывалю, полымя дружбы. Ды ўражанне такое, што не было гэтых доўгіх летніх дзён, а толькі адзін яркі, сонечны, радасны дзень, раніца якога пачалася 28 ліпеня, і вось зараз, 5 жніўня, надыходзіў вечар.

Берлін развітаўся з фестывалем. Урачыста закрываліся нацыянальныя клубы, кафэ, салоны, выстаўкі, цэнтры салідарнасці. На вуліцах і плошчах горада панавала такое ж ажыўленне, як і ў першыя дні. Многія ўдзельнікі фестывалю па-сапраўднаму пасябравалі між сабою, з нямецкімі юнакамі і дзяўчатамі, і было шкада, што сонечнаму святу моладзі прыходзіць канец.

Урачыстае закрыццё фестывалю трансліравалася па тэлебачанні, і таму я не буду гаварыць пра яго. Скажу толькі аб тым, што пасля пасланцы ўсіх кантынентаў, пабраўшыся за рукі, па-сяброўску абняўшыся, пайшлі па вуліцах Берліна—спявалі песні, танцавалі, жартавалі, абменьваліся на памяць сувенірамі, паштоўкамі, значкамі, адрасамі...

X Сусветны фестываль моладзі і студэнтаў закончыўся. Ён стаў магутнай дэманстрацыяй адзінства моладзі планеты ў барацьбе за мір і сацыяльны прагрэс, узняў дэмакратычны рух маладых людзей свету на новую ступень.

Назаўтра, 6 жніўня, нямецкія сябры сардэчна праводзілі нас дадому. Цяжка перадаць словамі тыя пачуцці і думкі, якія валодалі намі ў незабыўныя хвіліны развітання. Мора кветак, шчырыя абдымкі, усхваляваныя твары, радасныя ўсмешкі. І песні... Ужо крануўся цягнік, паплыў за вокнамі будынак вакзала «Остбангоф», а ў прасторы ўсё лунае магутная мелодыя «Гімну дэмакратычнай моладзі».

Полымя дружбы моладзі свету не адшугала і ніколі не адшугае.

**Васіль ДРАГАВЕЦ,**
**студэнт БДУ імя У. І. Леніна, дэлегат**
**X Сусветнага фестывалю**
**моладзі і студэнтаў у Берліне.**

Фота аўтара.






# 1973

## СНЕЖАНЬ

**5**

**Дзень Канстытуцыі СССР.**

35 гадоў назад (1938) адбыўся І з'езд мастакоў БССР.

**9**

75 гадоў з дня нараджэння (1898) В. Ф. Валчанецкай, народнай артысткі БССР.

**13**

60 гадоў з дня нараджэння (1913) Я. Д. Нікалаева, народнага мастака БССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР.

**15**

55 гадоў з дня стварэння (1918) першай камсамольскай арганізацыі ў Мінску.

**16**

70 гадоў з дня нараджэння І. О. Ахрэмчыка (1903—1971), жывапісца, народнага мастака БССР.

**17**

75 гадоў з дня нараджэння (1898) М. І. Аляксеева, пісьменніка.

90 гадоў з дня нараджэння Я. І. Барычэўскага (1883—1934), беларускага літаратуразнаўцы.

**19**

70 гадоў з дня нараджэння (1903) Т. Р. Цулукідзе, пісьменніцы.

**20**

55 гадоў назад (1918) у Маскве адбылася канферэнцыя беларусаў-камуністаў Петраградскай, Мінскай, Маскоўскай, Саратаўскай і Тамбоўскай беларускіх камуністычных секцый, на якой была прынята рашэнне аб неабходнасці ўтварэння Беларускай ССР і ўстанаўлення федэратыўных сувязяў з РСФСР.

**22**

15 гадоў назад (1958) Беларуская ССР узнагароджана другім ордэнам Леніна.





В. Ф. Валчанецкая.



Я. Д. Нікалаеў.



І. О. Ахрэмчык.

Я. І. Барычэўскі.





М. І. Аляксееў.



Т. Р. Цулукідзе.



А. М. Кулакоўскі.

Я. К. Цікоцкі.



**23**

55 гадоў з дня прыняцця рашэння (1918) ЦК РКП(б) аб утварэнні БССР.

**24**

175 гадоў з дня нараджэння Адама Міцкевіча (1798—1855), выдатнага польскага паэта. Нарадзіўся на Навагрудчыне.

60 гадоў з дня нараджэння (1913) А. М. Кулакоўскага, беларускага пісьменніка.

60 гадоў з дня нараджэння (1913) М. Д. Чурабы, беларускага мастака-графіка.

50 гадоў назад (1923) СНК БССР прыняў пастанову аб абавязковай рэгістрацыі і ахове помнікаў мастацтва, старадаўнасці, народнага побыту і прыроды.

**25**

55 гадоў з дня пачатку работы (1918) І з'езда Камуністычнага Саюза Моладзі Заходняй Камуны, на якім быў пакладзены пачатак утварэнню камсамола Беларусі.

**26**

80 гадоў з дня нараджэння Я. К. Цікоцкага (1893—1970), беларускага кампазітара, народнага артыста СССР.

**27**

50 гадоў з дня нараджэння (1923) А. С. Вялюгіна, беларускага паэта.

5 гадоў назад (1968) у Мінску адкрылася пастаянная рэспубліканская выстаўка дасягненняў народнай гаспадаркі БССР.

**29**

60 гадоў з дня нараджэння (1913) З. А. Васільевай, народнай артысткі БССР.

**30—31**

55 гадоў назад (1918) адбылася VI Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя РКП(б) (Першы з'езд КП(б)Б).

**31**

55 гадоў назад (1918) ЦБ КП(б)Б і Часовы рэвалюцыйны рабоча-сялянскі ўрад БССР зацвердзілі Маніфест аб утварэнні Беларускай ССР, які быў абнародаваны 1 студзеня 1919 г.

А. С. Вялюгін.



З. А. Васільева.





# СВЯТЛО ДУШЫ

**Да 70-годдзя з дня нараджэння Пiлiпа ПЕСТРАКА**

*«Што даты? Гэта толькі вехі Гісторыі».*

*Пімен Панчанка.*

Думаецца, невыпадкова назваўся ён Звестуном—такі Пілiп Пестрак выбраў сабе псеўданім. Мастацтва, як зразумеў ён, нядаўні студэнт Самарскага універсітэта, які з бацькамі ў лістападзе 1921 года прыехаў на радзіму, у дзедаву хату ў Сакоўцах, на Косаўшчыне, павінна служыць народу. Паэзія заклікана актыўна ўздзейнічаць на людзей, на грамадства. А паэт і ёсць вястун лепшай будучыні для свайго прыгнечанага на той час народа.

Жахлівыя малюнкі галечы і беднасці адкрыліся перад будучым паэтам у роднай вёсцы, на Палессі. Голад і холад стаялі на парозе кожнай сялянскай хаты. Той жа зімою сям'ю Пестракоў напаткала бяда-гора. Памерлі ад тыфу бацька, сястра і брат, а Пiлiп ледзь адкараскаўся ад хваробы. Зімою 1922 года П. Пестрак пайшоў «у людзі»—стаў працаваць на лесапільні. Тут адкрылася для яго суровая школа жыцця. Служба ў купца-лесапрамыслоўца лесніком яшчэ больш пераканала вясковага хлопца, што ніколі не можа быць міру паміж прыгнятальнікамі і прыгнечанымі.

З першага верша «Наперад, гэй...», які быў змешчаны 20 чэрвеня 1926 года ў часопісе «Родныя гоні», Звястун выступае як выразнік думак і настрою прыгнечанага селяніна.

Звястун вялікай вясны—«сын прастораў неабнятых, радзімых гоняў, родных ніў», П. Пестрак шчыра, сыноўняй любоўю любіць свой край, выказвае гарачае жаданне бачыць яго свабодным. Гэты матыў свабоды гучыць выразна ў тым жа вершы: «Уставай, галодны беларус, служыць радзімай справе, скінь з плеч прыгоны і прымус, здабудзь дарогу к славе!»

Выходзячы на літаратурную дарогу, П. Пестрак рашуча і ўпэўнена пракладаў шлях новай рэвалюцыйнай паэзіі. Творчасць Я. Купалы, Я. Коласа, У. Маякоўскага была для паэта ўзорам высокапаэтычнага і праўдзівага адлюстравання рэчаіснасці. Прасякнутыя высакародным патрыятызмам, вялікай любоўю да чалавека працы, яго творы жывілі веру ў светлае будучае свайго краю, ва ўз'яднанне ўсяго беларускага народа ў адзінай дружнай сям'і.

Выпрабаванні і гарт змагара вызначылі ўвесь напрамак паэзіі П. Пестрака. Першы раз паэта арыштоўваюць 3 лютага 1927 года. Да 11 чэрвеня ён сядзеў у турме ў Пружанах і Гродне. А 14 студзеня 1929 года—другі арышт. Акруговы суд даў яму тры гады. Апеляцыя дала яшчэ два гады. Адбыў тэрмін у Гродне. У верасні 1933 года П. Петрак накіроўваецца ў Пінскую акругу інструктарам ЦК КПЗБ. 22 лютага 1934 года яго выдае правакатар, і П. Пестрак трапляе зноў за краты. Каля двух год сядзеў ён пад следствам у Пінскай турме. У лістападзе 1935 года яго асудзілі ў Вільні і далучылі да судовага працэсу беларускіх літаратараў. Паэт-рэвалюцыянер атрымаў шэсць гадоў зняволення. У лістападзе 1936 года П. Пестрака ў ліку іншых палітзняволеных пераводзяць у гродзенскі астрог, адкуль ён і быў вызвалены 22 верасня 1939 года Чырвонай Арміяй.

Адзінаццаць гадоў зняволення—адзіночкі, допыты, карцэры, галадоўкі, барацьба з астрожнай адміністрацыяй за правы палітзняволеных—гэта сапраўды цярністы шлях падпольшчыка-камуніста. Магутным сродкам барацьбы ў руках паэта стала паэзія. Звяртаючыся да яе, паэт усклiквае:

«Дай, паэзія, меч прамяністы,
Слова-гарт, слова-кліч, слова-бой!..»

Многія вершы паэта, напісаныя ў турме, на этапных дарогах на шматках паперы—«грыпсах», загублены беззваротна, у тым ліку і паэмы «Ганцы», «Закатаваныя», «Шум сасон».

У вершах і песнях П. Пестрака няма смутку, няма роспачы і адчаю, а ёсць жыццё, пераконанасць і сцвярджэнне рэвалюцыйных ідэалаў. Перапоўнены замілаванасцю да роднай зямлі, да роднага краю, паэт чуйна ловіць і пах грачаных палеткаў, і думны шум бору, і плёскат хваляў Нёмана...

Паэзія П. Пестрака тых палымяных гадоў была разам з яе аўтарам на барыкадах гневу. П. Пестрак разам з лепшымі змагарамі-літаратарамі і вершам пілаваў краты. Тры гады, з 1937 па 1939, у цяжкіх умовах гродзенскай турмы П. Пестрак быў сакратаром турэмнага камітэта, душою палітзняволеных, прыкладам змагарнай стойкасці і мужнасці. Яго вершы-заклікі, вершы-гімны запісваліся цвіком на сценах, перадаваліся з вуснаў у вусны, выходзілі на волю і дзейсна служылі рэвалюцыйнай барацьбе.

Ніколі не сумняваючыся, што вызваленне прыйдзе, паэт выказвае сваё жаданне стаць у шэрагі будаўнікоў новага жыцця. У вершы «Сон аб аграноме» ёсць такія радкі:

«Прыйду, праменны, я тады
З той падарожы барацьбянай
На свята трактарнае песні».

Пад вершам подпіс: «Гродзенскі астрог. Люты 1937 г.»

Праз два гады—верасень 1939-га. Векапомныя дні вызвалення. Паэт гарача, натхнёнай песняй вітае прыход Чырвонай Арміі, якая прынесла вызваленне спакутаваным братам—працоўным Заходняй Беларусі. Верш «Заходняй Беларусі», напісаны ў тыя дні,—песня вызваленаму народу, што скінуў ланцужныя аковы і назаўсёды пазбавіўся ад спрадвечнага гора.

З уласцівай яму рэвалюцыйнай узнёсласцю паэт, перапоўнены пачуццём радасці і шчасця, усклікае: «Краіна родная! Вітай зару збаўлення!» Па гарачых слядах падзей складаюцца вершы «Маўзалей», «Армія Чырвоная» і інш. Паэт актыўна ўключаецца ў грамадскае жыццё. У першыя дні вызвалення П. Пестрак узначаліў у Гродне рэўком. На выбарах у Народны сход Заходняй Беларусі П. С. Пестрак быў абраны дэпутатам. У Беластоку на сходзе была вылучана паўнамоцная камісія на сесію Вярхоўнага Савета СССР у Маскву. У яе складзе быў і П. Пестрак. Працоўныя Гродна выбралі яго сваім пасланцом у Вярхоўны Савет СССР. У перадваенныя гады Пiлiп Пестрак узначальваў Беластоцкае аддзяленне Саюза пісьменнікаў БССР.

У першыя дні Айчыннай вайны П. Пестрак разам з сям'ёю пехатою ідзе на ўсход. Давялося спыніцца ў Лельчыцкім раёне, у невялікай лясной вёсачцы, дзе ён звязваецца з партызанамі. Сем месяцаў прабыў у злучэнні генерал-маёра Сабурава. У партызанах напісаны вершы «Першы май», «Пад зорным карагодам», «На варце», песня «Партызанская маршавая». Паэт ярка расказвае пра той трывожны час, адлюстроўвае настроі лясных салдат, сцвярджае веру савецкіх людзей у перамогу, жаданне ісці ў бой за справядлівую справу.

Пасляваенныя гады—самыя плённыя ў творчасці П. Пестрака. Ён піша многа, актыўна выступае ў перыядычным друку, часта сустракаецца з чытачамі, вядзе вялікую грамадскую работу.

Паэт захапляецца мірнай стваральнай працай савецкіх людзей, якія пераўтвараюць зямлю і прыроду і якія самі харашэюць у змаганні за красу жыцця, багацеюць душою, робяцца чысцейшымі ў думках і дзеяннях сваіх. Напісаныя ў вандроўках і на прыпынках, па гарачых слядах паездак і гасцявання ў новых мясцінах, у братніх краінах,—гэтыя творы прасякнуты любоўю да людзей працы.

Паэт з натхненнем, з жыццелюбнасцю зямною апявае дружбу і братэрства савецкіх народаў, з'яднаных пад сцягам ленінізму ў братнім Саюзе Саветаў.

Публіцыстычнасць, грамадскі тэмперамент—зайздросная сіла паэзіі П. Пестрака. У яго вершах жыве грамадзянскасць у самым высокім сэнсе, палітычны пафас—яркая адметнасць яго мужнага голасу.

— А цяпер вершы пішаце, Піліп Сямёнавіч?—неяк спытаў я, калі мы гутарылі з пісьменнікам пра яго творчасць.

— А як жа, пішу. І буду заўсёды пісаць,—я люблю вершы. Але ўжо ад гэтае вайны найбольш пішу прозу. Спытаеце, чаму? Вайна—найвялікшае з выпрабаванняў, дала столькі назіранняў, столькі было падзей і трывог, што ўсё пражытае не месцілася ў вершах і паэмах. Людзі і падзеі, з якімі я прайшоў віхурныя і агнявыя дарогі, прасіліся на паперу, і я ўзяўся за прозу. У апавяданнях і аповесцях, а пазней у раманах—«Сустрэнемся на барыкадах» і «Серадзібор» я адчуў, што і ў прозе можна выказаць тое, што цябе хвалюе, чым перапоўнена твая душа ў хвіліны найвышэйшага напружання-натхнення!..

Успомнілася з рамана «Серадзібор»: «Проза?—перапытаў Жарнавік.—Гм... Проза таксама паэзія, толькі для вока нябачная...»

У прозе пісьменнік праявіў зайздросную адметнасць свайго таленту—абвостранае адчуванне часу, веданне псіхалогіі і дыялектыкі душы чалавека, змагара і працаўніка, уменне заглыбляцца ў жыццё.

У адной з вячэрніх нашых гутарак Піліп Сямёнавіч сказаў пра сябе:

— Мы, людзі, заўсёды імкнемся да прыгажосці, красы. Красы жыцця!.. Красы адносін між людзьмі. Усё ў прыродзе ад прыгожага, ад гармоніі. Краса—вось да чаго і я імкнуся ў сваім жыцці, у сваёй рабоце. Прыгажосць—мая філасофія. І любоў да людзей. Дзеля гэтай любові, дзеля прыгажосці жыцця я і сядзеў адзінаццаць гадоў у турме. Прыгажосць чалавечая, прыгажосць сэрца чалавека і сіла яго рук—вось тое, чым я заўсёды захапляўся.

Задумліва памаўчаўшы, гаворыць:

— Такі ўжо чалавек. Яму заўсёды хочацца з некім падзяліцца сваімі думкамі, тым, што ў яго набалела. Вось і я з табою пагаварыў, і мне палягчэла на душы... І якая асалода пасля цікавай гутаркі з кім-небудзь,—часам нават з самім сабою.

Ёсць у П. Пестрака цыкл апавяданняў «Партызанскімі сцежкамі». У іх вобраз лесу—нібы пацвярджанне прышвінскага: «любіць прыроду—любіць Радзіму». Героі апавяданняў—партызаны—жывуць сярод лесу, а лес—іх перадавая, іх фронт.

Вызначаюцца сваёй народнай прастатой, замілаваннем да чалавека—творцы і гаспадара зямлі—апавяданні «Гумно без варот», «Куфэрачак».

Цыкл апавяданняў «Сярод чаротаў» (1963 г.)—новы крок пісьменніка да майстэрства, да паказу і выяўлення лепшых рыс чалавека. Пісьменніка захапляе мірная праца людзей, якія зведалі ліхалецце вайны і адчулі радасць перамогі над ворагам.

«Хочацца стаяць і слухаць гэтую прасветленую скупым святлом месяца цішыню, у якую затаіўся лес, з яго жыццём—дыханнем». Чытачу, як і пісьменніку, дарагія і блізкія і старшыня-генерал, які спачатку «рабіў уражанне поўнай непрыступнасці», «крэпасць нейкая, дый годзе», і ляснічы, «скупы на словы», мітуслівы, але шчыры чалавек, і генеральскі шафёр Ваня, яго старыя бацькі... Разам з пісьменнікам мы пранікаемся павагай да гэтых людзей, знешне суровых, зацятых, але прыгожых душою. Яны жывуць у мясцінах, дзе нялёгка даецца ім хлеб. Усе яны, як і партызанскі генерал, што згадзіўся паехаць сюды, у глухія балоты, і ўзначаліў у родных мясцінах калгас, працай замацоўваюць сваю вернасць партыі, роднай Савецкай уладзе.

Апавяданні Пестрака ваеннага і пасляваеннага часу, аповесць «Пачатак», як зазначылі крытыкі, з'явіліся адпаведнай падрыхтоўкай да стварэння рамана-эпапеі «Сустрэнемся на барыкадах», які «ўвайшоў у беларускую савецкую літаратуру як шырокае мастацкае палатно аб адным з векапомных перыядаў жыцця беларускага народа».

Гутарым пра тое, як стваралася эпапея «Сустрэнемся на барыкадах», якой пісьменінк аддаў пяць гадоў (1948—1952) працы. Піліп Сямёнавіч расказвае:

— Спачатку была задумана аповесць пра барацьбяны шлях падпольшчыка-рэвалюцыянера, а потым твор разросся, у ім сяліліся ўсё новыя і новыя героі.

— У якой ступені раман «Сустрэнемся на барыкадах» дакументальны, калі можна так сказаць? З каго пісаліся яго галоўныя і не галоўныя героі?

Піліп Сямёнавіч, як звычайна, пачынае з жарту:

— Ат, якая там дакументальнасць. Твор пісаўся лёгка, бо з імі, з людзьмі, якія насяляюць раман, з героямі, як вы называеце іх, я жыў, хадзіў аднымі сцежкамі і з імі ў турмах сядзеў, і галадаў, і зведаў карцары і адзіночкі, і быў





з імі на мітынгах, і ўдзельнічаў у тых забастоўках, што адбываліся ў родных мясцінах, на Палессі...

І ўжо сур'ёзна, задумліва:

— Ведаеце, што сказаў Вісарыён Бялінскі? А ён сказаў наконт гэтага такое: «Твор уяўляе не што іншае, як пафас душы яго аўтара».

Не трэба быць даследчыкам, каб упэўніцца, чытаючы эпапею «Сустрэнемся на барыкадах», што ў ёй цэлая гістарычная эпоха, перыяд жыцця і барацьбы працоўных Заходняй Беларусі ў часы белапольскай акупацыі. Грунтуючыся на сваім, пражытым, пісьменнік скарыстаў багаты фактычны матэрыял—шматлікія эпізоды рэвалюцыйна-вызваленчага руху народа, дзейнасць КПЗБ. Мастацкасць і гістарызм, як адзначала крытыка, удала спалучаюцца ў рамане. Пад пяром мастака жыццёвыя факты, якія мелі месца ў сапраўднасці, асэнсоўваюцца ў адпаведнасці з ідэйнай задумай, з логікай развіцця сюжэту, лёсу герояў.

Пісьменнік скарыстаў у рамане гісторыю нападу партызан на цягнік ваяводы Даўнаровіча, забастоўкі рабочых дрэваапрацоўчых заводаў, якія адбываліся ў Гайнаўцы і Белавежы ў 1931 годзе, дэманстрацыю пратэсту супраць разгрому Грамады ў Косаве 3 лютага 1927 года. Кобрынскае паўстанне супраць карнікаў і паліцыі і суд над паўстанцамі ў Кобрыне...

— За многімі вобразамі,— сказаў Піліп Сямёнавіч,— стаяць рэальныя жывыя асобы. Але гэта не азначае, што яны—копія рэальна існуючага чалавека, якога ведаў аўтар. Яны і плён мастацкага мыслення.

Адзін з любімых герояў самога Пестрака—Андрэй Касцевіч. Яго лёс і яго дарогі ў многім сугучныя, адэкватныя жыццю і выпрабаванням самаго аўтара. Гэтак жа, як і аўтар, Андрэй вяртаецца з бацькамі з Паволжа, дзе ён вучыўся і імкнуўся стаць аграномам, і дзе засталася ў яго каханая дзяўчына, і ў роднай Запалянцы, а затым на лесапілцы праходзіць школу жыцця, якая прывядзе яго на барыкады рэвалюцыйнага змагання. Аўтабіяграфічнасць тут відавочная. У вобразе Сцяпана Касцевіча, бацькі Андрэя, мы ўгадваем рысы бацькі аўтара, чалавека пісьменнага і аўтарытэтнага ў вёсцы.

Сваіх прататыпаў, вядома, маюць і Дзям'ян Гарагляд, і Даніла Перагуд, і Сцяпан Каваль—партызанскі камандзір, які з'яўляецца адным з лепшых вобразаў рамана.

Вобразы рэвалюцыянераў, падпольшчыкаў заўсёды эмацыянальна-узнёслыя—увасабленне мужнасці і гераізму народа. Разам з тым гэта і рэальныя, са сваімі адметнымі рысамі людзі. Такія і Іван Паддубны, і той жа Сцяпан Каваль, у вобразе якога ўгадваюцца рысы Кірылы Пракопавіча Арлоўскага, што дзейнічаў у той час на Палессі.

А. Фадзееў у лісце да П. Пестрака ад 21 лютага 1955 года вельмі станоўча ацэньвае вобраз Надзі Харашэвіч. Ён, між іншым, піша: «...Каханне Андрэя і Надзі чыстае на гэтай высокай аснове чалавечых адносін і ў той жа час зямное—упрыгожвае гэтыя старонкі рамана цудоўнай лірычнай акварэллю, што так адцяняе суровасць барацьбы, у якой абое ўдзельнічаюць».

У рамане цудоўныя, поўныя чароўных гукаў і святла, апісанні прыроды. Самастойны, аб'ёмны вобраз набываюць лес, лясное возера—увасабленне сілы і непераможнасці народу, моц векавую.

«Сустрэнемся на барыкадах»—сапраўды народны твор, у якім створаны калектыўны вобраз народа, змагара за сваю шчаслівую будучыню на сваёй роднай зямлі.

Раман «Серадзібор» (1959—1962)—першы буйны твор пісьменніка, у якім малююцца падзеі мірнага пасляваеннага жыцця ў заходніх абласцях Беларусі. Як зазначае сам аўтар, гэта твор пра родную зямлю, пра людзей, што абнаўляюць і ўпрыгожваюць яе. Як і ў папярэдніх творах, у рамане моцная фактычная, можна сказаць, канкрэтная аснова; пісьменнік, відавочна, знаходзіў сваіх герояў між рэальных людзей, у палескіх калгасах. Яны, героі рамана, вельмі цікавыя і праўдзівыя, бо ўзяты з нашай рэчаіснасці, з глыбінь жыцця. Пісьменнік не прыхарошвае жыццё, не спрашчае сацыяльных працэсаў, што адбываліся ў першыя пасляваенныя гады ў заходнебеларускай вёсцы і калектыўным будаўніцтве.

Адзін з герояў рамана, вучоны аграном Кляновіч так гаворыць пра сваю лінію жыцця Платону Грушку, свайму настаўніку, прафесару сельскагаспадарчай акадэміі: «Жыць—значыць ісці глыбей у жыццё. А ісці глыбей—значыць змагацца».

Яркія, сапраўды мастацкія сцэны, якіх шмат у творы, сведчаць пра талент і глыбокае веданне пісьменнікам вясковага побыту і вясковых людзей, майстэрства асэнсоўваць і падпарадкаваць ідэйнай задуме жыццёвыя факты, рэальныя падзеі.

Героі рамана—актыўныя і дзейныя характары, валявыя натуры. Асабліва ўдаўся аўтару вобраз старога калгасніка Несцера Падковы—увасабленне працавітасці, чалавечнасці і душэўнай прыгажосці. Тое ж можна сказаць і пра вобраз вясковай жанчыны—жывёлаводкі Тацяны Карпец. Сцэна, дзе Тацяна выступае на

трыбуне рэспубліканскай нарады, і старонкі яе падарожжа па праспекце Мінска, уражанні ад горада і думкі пра родны Серадзібор—усё гэта напісана хораша і цікава.

Зайздросціш аўтару, яго здольнасці захапляцца сваімі героямі, уменню выяўляць іх лепшыя чалавечыя якасці. Нярэдка гэтае захапленне ў П. Пестрака пераходзіць у рамантызацыю і самую высокую паэтыку. Пачытайце хоць бы сцэну, як вучоны аграном Кляновіч, гасцюючы ў Несцера Падковы, сінім летнім ранкам аглядае палі, і вы адчуеце гэтую асаблівую ўлюбёнасць героя і аўтара ў зямлі адвечную красу.

«Серадзібор»—маё любімае дзіця»,—сказаў неяк пра свой раман Піліп Сямёнавіч...

На стале ў Піліпа Сямёнавіча рукапіс новага рамана. Першая кніга, можна сказаць, напісана. Над ёю пісьменнік працуе апошнія тры гады.

— Пра што новы твор?—перапытвае Піліп Сямёнавіч і, як заўсёды, жартуе:—Трэба спытаць, не пра што, а пра каго мая «Лесавічанка»—так я назваў раман,—пра народ, пра нашых гераічных працавітых людзей, якіх я люблю і якім служу шчыра і аддана. Тэма майго рамана, я сказаў бы, не гераічная ў сэнсе нейкага там баявога подзвігу. Героі рамана—простыя людзі з народа—вясковыя змагары за ўсталяванне сацыялізму як самага справядлівага ладу жыцця для працоўных. Я хачу сказаць, як сыны і дочкі з народа, вясковыя інтэлігенты, ідуць у сацыялізм і камунізм, як яны адстойваюць яго, змагаюцца за яго. У цэнтры—цудоўная дачка вёскі Лена Лясовіч, Лесавічанка. Ідэал жаночай красы. Яна нарадзілася ў сялянскай сям'і, скончыла гімназію ў Вільні. Перад прыхода Чырвонай Арміі сядзела ў турме, яна—камсамолка, падпольшчыца.

Піліп Сямёнавіч нечакана змаўкае, паглыбляецца ў свае думкі. Затым, схамянуўшыся, кажа далей:

— Яна памрэ, загіне, мая Лесавічанка. Яе павядуць на катаванне фашысты, бо яна была на чале падпольнай арганізацыі ў сваёй вёсцы над Нёманам. І яе, як іншых дзяўчат, расстраляюць. Лена толькі і паспела крыкнуць: «Ма-ма!» Як яна любіла сваю маму!.. Лесавічанка любіла народ, любіла вёску...

Піліп Сямёнавіч—дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, турбуецца, што ніяк не можа з-за сваіх творчых клопатаў выехаць у родныя мясціны, на Косаўшчыну. Ён хоча зноў наведацца да сваіх выбаршчыкаў, у Драгічын, пахадзіць па даўніх знаёмых сцежках.

— Там, на Драгічыншчыне, мая падпольшчына трохі праходзіла,— успамінае Піліп Сямёнавіч.— Ёсць людзі, якія тое ўсё памятаюць. І калі я выступаў там, то прыгадалася. Не хочацца ўспамінаць тое ўсё—як мы ўсе жылі, які цяжар неслі... А цяпер, вызваленыя, маем свабоду. Я і кажу ім, палешукам сваім: «Беражыце гэтае наша вызваленне. Стойка беражыце». Так я гутару з людзьмі. Думаю, што так і трэба гаварыць з народам...

— А вершы хочацца пісаць,— лагодна ўсміхаецца круглявы твар Піліпа Сямёнавіча.—Мне каб цішыня і ніхто не перашкаджаў. Толькі каб цішыня... Можа, я і заўтра напішу. Такое, напрыклад. Іду па дарозе. Думаю, што я недзе некаму не дапамог, не выслухаў яго да канца. І раптам бачу: расцвіла бярозка свежасцю зялёнай. А насустрач ідзе дзяўчына. Прыгожая, стройная, як бярозка... Што, хопіць для верша?..

Ці праўда, слухаючы такое, хіба паверыш, што паэту—семдзесят?

«Вы разумеете, справа не ў даўгалецці,—сказала неяк М. Шагінян у інтэрв'ю карэспандэнту «Недели»,—а ў захаванні памяці, працаздольнасці, свежасці думкі, маладосці духу, маладосці адчування свету».

У Піліпа Сямёнавіча ўсё гэта ёсць. Няхай жа не стамляецца думка, не праходзіць гэтае цудоўнае адчуванне маладосці свету! Няхай маладзее душа творцы, выпраменьваючы людзям і радасць, і цеплыню.

**Сцяпан КУХАРАЎ.**

■ ■ ■

---






**Аркадзь КУЛЯШОЎ. «МАЯ БЕСЯДЗЬ». Лірыка. «Бібліятэка беларускай паэзіі». Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1973**

# «З ВЕЧНАЙ ПРАГАЮ Ў ВАЧАХ...»

Пачынаеш чытаць першыя старонкі кнігі выбранай лірыкі Аркадзя Куляшова «Мая Бесядзь», што нядаўна пабачыла свет у серыі «Бібліятэка беларускай паэзіі», і міжволі згадваюцца цютчаўскія словы: «Как скоро Музы под крылом его созрели годы...»

Сапраўды, хіба не вабіць сваёй ціхай гармоніяй такія, напрыклад, простыя і «звычайныя» радкі:

Гінуць дажджыстыя хмар валаконцы,
Дыхае свежасцю сіняя гладзь.
Хочацца шыры, паветра і сонца,
Хочацца з лісцяў расінкі страсаць...

Простыя? Так. Звычайныя? Так. Але з-пад знешняй някідкасці павявае такой прасторнасцю і лёгкасцю, такім суладдзем вялікага і малога (шыры і расінак), такой свабодай выяўлення, што звычайна даюцца толькі аўтару, які спакушаны ўжо ў сакрэтах паэзіі.

А колькі ж было Куляшову ў 1927 годзе, калі нарадзіліся гэтыя радкі? Трынаццаць, толькі трынаццаць! І хоць далёка не заўсёды дасягаў юны паэт на пачатку творчага шляху такога ўзроўню паэтычнай спеласці, аднак цытаваныя радкі, мы ведаем, не былі ў яго адзінкавай шчаслівай выпадковасцю.

Вось лаканічна стрыманы малюнак вечаровай цішы, на якую чуйна адгукаецца юная душа («Гармонік новы, басовы рып...», 1927). Вось пяшчотна-трывожны, авеяны светлай самотай верш «Бывай...» (1928), у якім з юнацкай шчымлівасцю так многа сказана аб нясмелым прызнанні, летуценным каханні і балючай ростані; душэўны смутак увабраў у сябе гоман жоўтых соснаў, шум жытнёвых хваль, жаўрукі майскі блакіт:

Пайшла ты, любая, пад гоман жоўтых
сосен,
Пайшла, маўклівая, пад хваль
жытнёвых шум,
Туды, дзе гойдала зялёнае калоссе
На сцежках ростані мой адзінокі сум.

Дарэчы, многія чытачы ўпершыню прачытаюць у кнізе гэты верш. Надрукаваны ў 1928 годзе ў «Полымі» (№ 5), ён надоўга застаўся на часопіснай старонцы. Цяпер, пасля перапрацоўкі (аднак цытаваныя радкі засталіся амаль не зменены), ён атрымаў новае жыццё, стаў цудоўнай песняй, якая заняла пачэснае месца ў рэпертуары «Песняроў».

Вось верш «Дарогі» (1930). Паэту яшчэ тольні шаснаццаць, ён нават набаўляе сабе год—не іначай як для саліднасці: «На гэтай вышыні мяне трымаюць усе мае семнаццаць год жыцця». Верш гэты—вельмі юначы сваім пафасам і зместам, характарам пачуццяў, нават самой структурай паэтычных формул. У ім хораша яднаюцца шчырасць і непасрэднасць і—як непадробная адзнака ўзросту—амаль дзіцячая наіўнасць, з якою ўпершыню падсумоўваецца той пачатковы вопыт, што здаецца ўжо маладому аўтару значным не толькі сваім пачуццёвым і духоўным зместам, але і пройдзенай адлегласцю. Але як даліся шаснаццацігадоваму юнаку гэтая ўстойлівая лірычная сіла і мастацкая выразнасць, душэўная змястоўнасць, што забяспечваюць вершу гэтакае доўгае жыццё ў нашай свядомасці?..

Ужо гэтыя вершы—пераконлівыя і неаспрэчныя сведчанні надзвычай ранняга лірычна-творчага самавызначэння паэта. Патрэбны быў глыбокі і самастойны талент, неабходны былі напружанае асваенне паэтычнай культуры, засяроджанасць і інтэнсіўнасць унутранай працы душы, каб гэтак рана выспеліць у сабе здольнасць духоўна значных перажыванняў і ўмельства творча ўзняцца над імі, вылучыць тое важнае ў іх, што ў паэзіі становіцца істотным і жывым тады, калі захоўвае сувязь з аўтарам, з яго непаўторным душэўна-чалавечым абліччам.

Беларуская паэзія не ведае, здаецца, другога такога ранняга і крутога творчага ўзыходу. У шаснаццаць гадоў—першая кніга («Росквіт зямлі», 1930), у васемнаццаць—яшчэ дзве («Па песню, па сонца!..» і «Медзі

дождж», 1932). Неўзабаве—некалькі цікавых, смелых у мастацкіх рашэннях і значных ідэйна-эстэтычнымі вартасцямі паэм, лірычных цыклаў, пазначаных інтэнсіўнасцю ідэйна-мастацкага развіцця, настойлівасцю і шырынёй ідэйна-тэматычных і фарматворчых пошукаў.

Юнацкі свет, адкрыты маладым паэтам, дыхаў атмасферай часу, поўніўся тым, чым жыла краіна,—гераікай Кастрычніка і грамадзянскай вайны, пафасам грамадскіх перамен, усталяваннем новых прынцыпаў і формаў чалавечых узаемаадносін. У творах маладога Куляшова суладна лучыліся будзённасць і акрыленасць, аб'ектыўныя малюнкі жыцця і асабістыя перажыванні, рамантыка пакалення і працоўны будзень краіны. Малады паэт лёгка, проста і хораша выходзіў да людзей («Гэтыя людзі: Анісы, Алесі, Вольгі—жывыя, блізкія, свае...»), далучаўся душой да іх, да з'яў і фактаў іхняга жыцця. Вершы яго шырока, свабодна і поўна ўвасобілі гэты душэўны кантакт паэта з жыццёвай явай і саму гэтую яву—маладую, сонечную, працоўную, па-новаму «перакроеную» і памкнёную ў «сонечнае заўтра». У іх прачула раскрылася і душэўна дакладна выявілася ўнутранае жыццё юнака, прасякнутае і гэтай явай—яе справамі, клопатамі, мэтамі, і сваімі маладымі летуценнямі, трывогамі, зносінамі з шырокім светам працы і кахання.

Непераходнай красой і дзівоснай свежасцю палоняць і сёння вершы, што склалі ў свой час слынны куляшоўскі цыкл «Юнацкі свет» (1938—1941). «Бюро даведак», «Воблака», «Ельнік», «Карусель», «На сотай вярсце»... Тут—той шчаслівы і рэдкі выпадак, калі само юнацтва так поўна расказала аб сабе, калі яно з творчай сталасцю і юнай непасрэднасцю раскрыла, разгарнула свой унутраны свет, паведала лірычна-пранікліва—то са смуткам, то ўсмешліва, то ў складаным перапляценні розных настрояў—аб сваім каханні, аб сустрэчах і развітаннях, аб першым жыццёвым вопыце з яго прыемнай самотнасцю і аб радасным адчуванні ўласнай маладосці. І расказала з такім даверам да часу, рэчаіснасці, з такім упэўненым і смелым позіркам у далягляд.

Куляшоў-паэт вельмі хутка рос як чалавек і грамадзянін. Юнацкае летуценне не засланіла яго ад суровых подыхаў часу. Ён з усё большай лірычнай праніклівасцю ўсведамляў сваю адказнасць перад Радзімай і народам. Прачулым і палымяным словам—вынашана, а не рытарычна—ён загаварыў аб пагрозе новай вайны і сустрэў яе ўнутрана змабілізаваны, гатовы да змагання.

Творамі ўсенароднага гучання, незвычайнай лірычнай сілы і духоўнай ёмістасці сталі яго ваенныя вершы, балады і паэма «Сцяг брыгады». Драматычныя, нават трагічныя—як і час, у якім яны ствараліся,—яны валодалі велізарнай «духапад'ёмнасцю», яны вельмі і вельмі шмат гаварылі нашым душам, што такое Радзіма, свабода, родны краявід і матчына мова, з чым жыць і як паміраць, як змагаца...

У «Бібліятэкі беларускай паэзіі» для творчасці Куляшова—занадта сціслыя рамкі, дужа абмежаваны памер. Пяць няпоўных аркушаў. Не даводзіцца разлічваць на поўны і паслядоўны паказ творчага шляху паэта. Прапушчаны такія этапныя вехі, як нізка «Сонечнае заўтра» (1931) і лірычная паэма «Хлопцы апошняй вайны» (1940). Не ўключаны «Дзённік брыгадзіра», «Глушцы», «За дваіх» і многія іншыя добра памятныя даваенныя вершы. Не ўвайшлі нават творы такой паэтычнай вартасці, як лірычная жамчужына «Мне сніўся сон: ты адляцела ў вечнасць...» (1962), дзе вечнасць, зоры і нябёсы становяцца сведкамі і ўдзельнікамі драмы чалавечага сэрца, увасобленай у гарманічна-светлае і пакутнае перажыванне. Станаўленне і развіццё, пошукі і здзяйсненні Куляшова-лірыка былі заўсёды цесна звязаны з яго шуканнямі ў вялікіх жанравых формах, аднак у невялікай кніжцы немагчыма было знайсці месца для паэм.

І ўсё ж дастаткова і таго, што ў кнізе ёсць, каб у душы зноў нарадзілася шматгалосае рэха ад куляшоўскай паэзіі. Новыя пачуцці, новыя ўражанні, новыя думкі доўжаць і моцняць тое пачуццё, пашыраюць тое настраёвае поле, якое здаўна ўзнікае ў душы пры чытанні паэта. У Куляшова вельмі многія вершы вызначаюцца высокай дасканаласцю, мастацкай цэласнасцю і завершанасцю. Яны могуць жыць у свядомасці чытача і паасобку, безадносна да ўсёй астатняй творчасці. «Ранак», «Ліст з палону», «Над брацкай магілай», «Крылы», «Зямля...» У кожнага з гэтых вершаў (а пералік мог быць вялікім, асабліва калі падключыць творы апошніх гадоў)—свая лірычная гушчыня, свая адметнасць, свой шлях да сэрца, па-свойму створаная пачуццёвая рэальнасць. Гаварыць пра гэта можна шмат, і цяперашняе перачытванне вершаў з кнігі «Мая Бесядзь», аплодненае новымі назіраннямі, ужо спакушае да цытавання і канкрэтна-тэкставага аналізу.

Аднак адмовімся ад такога павароту гаворкі. Хочацца падзяліцца некаторымі больш агульнымі разважаннямі і меркаваннямі аб творчых уроках Куляшова, аб рысах і заканамернасцях яго лірычнага свету, характары творчай асобы.

Добра вядома выказванне Блока: «Першай і галоўнай прыкметаю таго, што дадзены пісьменнік не ёсць велічыня выпадковая і часовая, з'яўляецца адчуванне шляху». Яно вельмі стасуецца да ўсёй куляшоўскай паэзіі, яе няспыннага і ўнутрана звязанага з пройдзеным шляхам руху і развіцця і да яе сённяшняга выяўлення, якое трывала абапіраецца на ўвесь духоўны і творчы вопыт і жыццёвы лёс паэта. Яго сённяшнія шляхі з іх імклівымі хуткасцямі («ляціць за шляхам шлях») у драматычна-маштабным перажыванні часу не губляюць пераемнай сувязі са сцежкамі юнацтва («як ручай, сцяжынка палявая пераліласся хвалямі пяску у сталасці шырокую раку...»). І без гэтага, мабыць, не было б той пераканаўчасці, той пранізлівай душэўнасці, якія надаюць сённяшняй філасофскай лірыцы Куляшова такую пачуццёвую сілу, такую асабістасць перажывання.

Мы гартаем старонкі куляшоўскай кнігі і яшчэ раз пераконваемся ў гэтым, бачым і адчуваем лінію паслядоўнага духоўнага развіцця, фармавання і сталення грамадзянскага, паэтычнага і мастацкага светапогляду, бачым пераемнасць і глыбінную сувязь між усім тым, аб чым пісаў і чым жыў паэт у розныя часы сваёй творчай дарогі.

Ад сённяшніх твораў ужо так далёка і быццам асобна свецяць яго юнацкія вершы, на немалой адлеглласці ад нас ужо і густы морак ваеннага трагізму. Паэтава душа бярэ сёння духоўныя вышыні філасофскага шматабдымнага асэнсавання сучаснасці, яе вызначальных гістарычных і сацыяльна-палітычных вектараў, яе новых прасторава-часавых уяўленняў, навукова-тэхнічных і гуманістычных перспектыў. А між тым і ў самым апошнім слове паэта прысутнічаюць і дзейна жывуць, шматплынна зліваюцца і ўзаемадзейнічаюць матывы, водгаласы, настроі перажытага і ўвасобленага ў творы раней, узятага ў свой душэўны вопыт з юнацтва, вайны, пасляваенных шляхоў.

Філасофскія разважанні і лірычныя высновы паэта выяўляюцца сёння ў сумарна абагуленым перажыванні, у якім жывуць, паводле слоў А. Твардоўскага, адразу «все дни и дали». Аднак яны амаль ніколі не абстрагуюцца ў адцягненыя слоўныя формулы. Мы адчуваем: усё тут пакладзена на чуйныя шалі душы, якая многа зведала ў жыцці, але не разгубіла ранейшых пачуццяў і знайшла ім яшчэ болей высокую і сталую меру: «Спакойнага шчасця не зычу нікому; навошта грымотам маланка без грому, сцюдзёны ручай без пякучае смагі, халодная ўвага, не вартая ўвагі, жаданні, што прагныя крылы згарнулі, зязюля без лесу і лес без зязюлі?».

Вынашанае слова паэта, выконваючы складаныя функцыі лірыка-філасофскага абагульнення, не страчвае выразнасці канкрэтнага і непасрэднага чалавечага перажывання. Яно чуйна і праўдзіва рэзаніруе на штуршкі і перабоі паэтавага пачуцця, якое выпраменьваецца з душы то з пафасным напружаннем, то з імправізацыйнай лёгкасцю і з заўсёднай унутранай засяроджанасцю. Таму, нягледзячы на вялікую ролю інтэлектуальнага пачатку ў куляшоўскай паэзіі, яго рацыяналістычны груз не паслабляе пачуццёвага ўздзеяння твораў. Яны перажыты ўсёй істотай, усім вопытам і вынесены з душы «наверх» так, быццам самі выніклі з нейкай жыццёвай, духоўнай сітуацыі і знайшлі сябе, склаўшыся ў самы мэтазгодны і паэтычна-паслядоўны, жывы і арганічна цэласны выклад яе:

Зайшоўшы ў векавыя нетры,
Стаю, зачараваны ім,
На паўмільярдным кіламетры,
Паміж наступным і былым.
Пакліч—былое адгукнецца
Жалейкаю за хваіной;
Скраніся—і важкой хадой
Наступнае ў паход кранецца.

Лепшыя творы сённяшняга Куляшова—выдатны ўзор спалучэння душэўнай непасрэднасці з канцэптуальна-філасофскай абагуленасцю, узор узаемапранікнення і зліцця агульных катэгорый быцця (вечнасці, часу, глабальнага зместу эпохі) з душэўным існеннем канкрэтнай асобы.

Вершы паэта гучаць, як адзін маналог, зрастаюцца ў адну споведзь, лірычнае рэчышча якой захоплівае велізарны аб'ём свядомасці сучаснага чалавека («усе свае шумлівыя патокі збіраць ашчадна ў рэчышчы адным»).

Непамерна вырасла ў паэтавым слове ўмяшчальнасць грамадскага ў асабістым. Праблемы сацыяльнага жыцця і будучыні чалавецтва, пагроза новых войнаў, супрацьстаянне двух светаў, барацьба прагрэсу і цемрашальства набываюць у Куляшова першаступеннае значэнне для яго асабістага жыцця і грамадзянскага самавызначэння, кладуць свой драматычны водсвет на ўсё, што хвалюе паэта, аб чым ён думае і чым жыве.

І калі паэт гаворыць аб вартасці і сэнсе чалавечага жыцця, аб сваёй працоўнай самааддачы («аддаю, з календаром у згодзе, свой час сяўбе гарачай і жніву»), аб прызначэнні і гуманістычнай службе паэзіі («каб словам боль загаіць людскі хаця адзін»);

калі думае аб прошласці і аб заўтрашнім дні чалавецтва, аб шляхах і прынцыпах пераемнасці ідэалаў і ведаў у сучасным свеце («тваіх стагоддзяў цёмныя сляды хто адаб'е на камені суровым? Хто сцвердзіць справай і засведчыць словам, што ў свеце існуеш ты сапраўды?»);

калі разважае аб саміх асновах асабістай і грамадскай сутнасці чалавека—аб сумленні («камандзір мой адзіны—сумленне»), праўдзівасці, мужнай жыццетрываласці і высокай годнасці:

калі, нарэшце, ён аддаецца нялёгкаму і няпростаму перажыванню той узроставай пары, якая пачынае ўжо ціснуць на плечы грузам пражытага і цяжкім роздумам аб межах чалавечага жыцця,—

мы ўвесь час бачым і адчуваем, як важна і істотна гэта для паэта, для яго ўнутранага развіцця і руху наперад, для дасягнення душэўнага і духоўнага адзінства з людзьмі і светам, жывой і ўсвядомлена мэтаскіраванай кантактнасці з усім існым быццём, з яго простымі і складанымі праявамі.

Узнятае да вышынь духоўнасці, нагружанае важкім вопытам («пішу: я сведка ўсіх падзей, сірочых слёз, вайны, разлукі, жадаю шчасця для людзей... Я знаю, што такое мукі...»), паэтава слова не становіцца халодна-адцягненым. Яно то радаснае, то гнеўнае, то пранізанае святлом, то напоўненае гаркотай. Яно проста, ясна і непасрэдна кантактуе і ўзаемадзейнічае з навакольным светам і прыходзіць да чытача «ракою чыстай і люстранай»—як трапяткое, шчырае і празрыстае, моцнае і глыбокае пачуццё.

Паэзія Куляшова, калі браць яе ўсю ад пачатку да канца, вызначаецца асаблівай гарманічнасцю ўзаемадзеяння і з'яднання жыццёвага і творчага, канкрэтна-чалавечага і гістарычнага. Лепшыя творы паэта палоняць узаемапераходным адзінствам «ширококрылых вдохновений» і «мудрости расчета», страснасці і стрыманасці, напружанасці і нязмушанасці, суадпаведнасцю, сувымернасцю жыццёвых з'яў і душэўных парыванняў, агульнага і прыватнага.

Усё гэта, як відаць, ідзе ад гарманічнасці аўтарскага лірычнага характару і ўласцівых яму лірычных павадзін, ад самой сутнасці светаадчування паэта. Куляшоў нідзе не тоіць, што менавіта паэзія з'яўляецца яго адзінай і самай сутнаснай жыццёвай справай. Ён змоладу ўсведамляе сябе паэтам, часта гаворыць пра вершы, натхненне, славу, аднак гаворыць без позы і не збіваецца на літаратуршчыну. Ён знаходзіць сваё месца сярод людзей як іх паплечнік і аднадумца, выказнік іхніх пачуццяў і думак. Ён імкнецца да такога лірыка-філасофскага погляду на паэзію, які ахопліваў бы ўсё галоўнае ў сучаснасці, раскрываў бы глыбіннае ў часе, у яго агульна-чалавечым змесце і канкрэтна-чалавечым успрыняцці.

Дарогі жыцця і душы акрэсліваюцца ў маштабным адзінстве асобы і эпохі, часу і народа. На сённяшняй жыццёвай вышыні ў паэта збліжаюцца адлегласці, паскараюцца шляхі ў будучыню, ушчыльняюцца адрэзкі жыцця, павялічваюцца маштабы («...я руку гарачую працягваю прыродзе—з дваццатага ў трыццатае стагоддзе»; «жыву, і пачуццё ў мяне такое, як быццам мне не пяцьдзесят гадоў, а пяць стагоддзяў—самае малое...»).

Уяўленне паэта трансфармуе жыццёвыя ўражанні ў духоўнае адзінства асаблівай значнасці, нараджае свае прасторава-часавыя вымярэнні. Праз іх набываюць глыбокі вобразна-пачуццёвы змест словы і пра «той парог, дзе векавечны сон», і пра векавыя нетры «на паўмільярдным кіламетры паміж наступным і былым», і пра «стагоддзяў цёмныя сляды», і пра будучыню «без войнаў, рабства і багоў». Гады, дзесяцігоддзі, увесь жыццёвы шлях паэта і кароткія моманты цяперашняй хуткаплыннасці зліваюцца разам, становяцца часткамі таго ўсеабдымнага і шматмернага, «шчыльнага» і «няспыннага» прасторава-часавага адзінства, якое філосафы называюць актуальнай бесканечнасцю.

Духоўныя калізіі сучаснасці ў касмічна-маштабным куляшоўскім падыходзе атрымліваюць новае, глыбокае ўнутранае напаўненне. На аснове сучасных уяўленняў аб свеце паэт пашырае інтэлектуальна-пачуццёвую пляцоўку для сваіх маральных і грамадскіх высноў.

Такія вершы, як «Калі з зямлі на белай хмары ў неба...», «Сама Зямля не вечна—час даводзіць...», «Адвечны час з нябачных нам дарог...», успрымаюцца не як асобная нізка са сваёй спецыфічнай праблематыкай (хоць пэўная спецыфіка ў падыходзе да праблем тут усё-такі ёсць), а як зусім арганічная частка агульнай жыццёвай і творчай канцэпцыі паэта, як натуральны працяг ягоных разваг аб жыцці, смерці і чалавечай пераемнасці, яго думак аб адказнасці чалавека перад грамадствам і грамадскай адказнасці перад будучыняй, аб сіле характару і бязмежнай велічы кахання. У іх жыве ўсё той жа пафас сцвярджэння чалавечнасці, дабраты, у шырокім плане раскрываецца сутнасць быцця, яшчэ больш абвострана выяўляецца драматызм грамадскіх супярэчнасцяў у сучасным свеце.





Паэтычнаму мысленню Куляшова ўласцівы тут той асаблівы паэтычны гістарызм, калі сучаснасць з яе праблемамі і супярэчнасцямі шматмерна праецыруецца на гістарычную прошласць і на асабіста перажытую і ўнутрана апасродкаваную часавую далячынь, калі пачуцці паэта набываюць гістарычны маштаб і значнасць як якасці светаўспрыняцця сучасніка, які ўсведамляе сваё месца ў гісторыі, у хадзе цывілізацыі, у чарговай стадыі чалавечага прагрэсу.

У гэтым сэнсе з творчасцю Куляшова добра суадносяцца глыбокія словы аднаго даследчыка паэзіі аб тым, што «вялікія лірычныя паэты пачыналі з эпахальнага, з агульнага і адпаведна агульнаму будавалі свой аўтарскі і чалавечы вобраз», што ў іх «эмпірычны характар з цягам часу ўсё больш паглынаецца гістарычным».

Мы не можам не сказаць і аб мужнасці як адной з галоўных рыс у чалавечым абліччы паэта. Паэт мужны ў адкрытым позірку на трагічныя супярэчнасці жыцця, у асабістым супрацьдзеянні мане і несумленнасці, у позірку «за той парог, дзе векавечны сон» і ў поўным драматызму жыццесцвярджэнні; ён мужны ў змаганні з уласнай немаччу і з усім крывадушшам.

Хай час незваротны, хай многа дзён «раскідана па свеце», хай «цяжкі з гадамі бой», але паэт застаецца верны жыццю з яго першароднай красой і яго духоўнымі багаццямі. У яго яшчэ «ёсць думак прагавітае насенне, у жменю назбіранае з дарог, што спелага чакае ўвасаблення, заліўшы хваляй жытняю аблог»; ёсць мужнае і чулае сэрца, якое нясе далей вялікую ношу радасцяў і трывог («Ад шчасця сэрца скача, як дзіця, ад бед яно, як млын, шуміць начамі, варочае цяжкімі камянямі, падлічваючы горычы жыцця»); ёсць вера і надзея; ёсць жывое адчуванне шляху і сам шлях—шлях да людзей, да будучыні, шлях цяжкі і адказны; ёсць і ідзе далей разам з паэтам яго Муза, якая, паводле слоў Куляшова, яго доля «з вечнай прагаю ў вачах»:

Сцяжынкі ўслед за ёй бягуць, як дзеці,
Насустрач ёй ляціць за шляхам шлях.

«Гадоў на марнасць не аддам...» Выклікае глыбокую павагу гэтая жыццёвая зацятасць, гэтая ўнутраная змабілізаванасць паэта, яго «вечная прага» актыўнага дзеяння.

Воля, характар, вопыт паэта, яго лірычнага героя выяўляюцца многімі, разнастайнымі гранямі. Але ўсе розныя праявы характару, усе душэўныя парыванні, жаданні, чаканні здужваюцца ў пачуццё вялікай маральнай і грамадскай вартасці менавіта гэтай свядомай і даведзенай да ўнутранай неабходнасці ўстаноўкай на нямарнасць жыцця. А яшчэ—на «адказнасць перад строгім вершам», паколькі Куляшоў-грамадзянін ніколі не забываецца пра сваё прызванне, а Куляшоў-паэт усюды і заўсёды адчувае сябе грамадзянінам, мерыць жыццё як вартасцю пражытага, так і вартасцю выказанага ў слове.

Куляшоў, па сутнасці, амаль у кожным сваім слове апошніх гадоў раз за разам, з розных бакоў і ў рознай настраёвасці правярае вартасць свайго жыцця, трываласць і значэнне сваіх жыццёвых і маральных крытэрыяў, пашырае аб'ём душэўна і паэтычна асвоенага праз актыўнае ўзаемадзеянне і зліццё асабістага з грамадскім. Ён увесь у светлым клопаце, каб пакінуць добры плён для патомкаў, каб не спыняўся рух зямлі і чалавецтва, каб былі вёсны, раслі дрэвы і чалавецтва не аддало ва ўладу «бязлюднай эры» свае набыткі рук і розуму, свае песні і ідэалы, каб яно жыло і лепшыла свет.

У творчасці Куляшова апошніх гадоў вельмі моцна адчуваецца гэтае суровае супрацьборства канфліктных пачаткаў, варожых сіл, супрацьлеглых стыхій, «зімовай цемры і святла». Паэт верны рэчаіснасці, верны свайму нялёгкаму вопыту: для яго няма і не можа быць ні спакойнага шчасця, ні ўтульнага зацішку ад жыццёвых бураў, ні вечнай маладосці, ні лёгкіх дарог, ні зручнай абывацельскай непамятлівасці. Толькі няспынная праца, напружанне душы і думкі, поўная самааддача, мэтаскіраваны рух. Насуперак усім слабасцям, перашкодам, немажлівасцям. («Лепш цяжка жыць, чым быць бадзёрым трупам...»). Для ажыццяўлення такой паэтычнай праграмы неабходныя і мужнасць, і ахвярная адданасць жыццю, людзям і паэзіі.

Менавіта гэтыя якасці і вызначаюць сённяшняе духоўнае аблічча і духоўна-чалавечыя вартасці куляшоўскай паэзіі.

У апошнія гады Куляшоў напісаў некалькі буйных твораў, у якіх уласна-эстэтычныя вартасці спалучаюцца з шырокім грамадска-гістарычным і філасофскім зместам. Гэтыя творы розныя, вельмі розныя ў сваёй унутрана-сюжэтнай будове і эмацыянальным выяўленні, але глыбінна звязаныя адзінай канцэпцыяй жыцця, творчасці і сучаснага быцця.

Гаркотна-палыновы «Маналог», які прысвечаны памяці сяброў-паэтаў З. Астапенкі і Ю. Таўбіна, напоўнены нялёгкім роздумам аб маральным абавязку чалавека перад асабістай і грамадскай памяццю, аб неперамож-

най сіле праўды, аб значэнні творчасці, аб адказнасці перад сябрамі і часам.

Паэма «Цунамі» — суровая размова аб тым, што «няма шляхоў да самазахавання, няма дарог да светазабыцця у час ліхі ўзаемапалявання сіл супрацьлеглых: смерці і жыцця», аб тым, што людзі — «жыцця людскога сувязныя» — не могуць і не маюць права ўхіляцца ад «агульнага мацерыка» сіл міру і справядлівасці, заставацца ў баку ад «чырвані сцягоў».

Ліра-эпічная паэма «Далёка да акіяна» — асобныя лёсы людзей, каханне, слава, асабістая памяць суадносяцца з ходой гісторыі, высвятляючы іхні гістарычны змест і агульна-чалавечае значэнне...

Паэт не запыняе і не запавольвае сваёй хады. У яго стае сілы перадольваць інерцыю ва ўласнай творчасці, змяняцца і расці. Ён дамогся зусім новай лірычнай якасці ў сваёй «Новай кнізе», якая стала падзеяй у паэзіі шасцідзесятых гадоў, аднак не задаволіўся знойдзенай формай. Ён адважыўся на новыя, адказныя і рызыкоўныя пошукі, калі ствараў спачатку паэму «Цунамі» з яе ўмоўна-абстрагаванай сюжэтнай калізіяй, а потым — «Далёка да акіяна», шмат у чым аўтабіяграфічную, канкрэтызаваную ў многіх бытавых і гістарычных момантах, маштабна ўзбуйненую філасофскім і маральна-грамадскім вопытам сучаснасці...

Творчасць Куляшова схіляе да засяроджанага роздуму і шырокага погляду на свет. У адрыве ад саміх твораў размова пра гэта набывае адцягнены характар. Калі ж чытач возьме ў рукі паэтаў томік, пройдзецца па яго старонках — ён атрымае яшчэ вельмі канкрэтную і непасрэдную радасць ад сустрэч з прыгожай, жыццеўмяшчальнай, пачуццёва напоўненай паэзіяй.

...Калісьці ў раннім зборніку Куляшова «Медзі дождж» пры ўпамінанні Бесядзі стаяла зноска: «рэчка на паўдзённым усходзе БССР». Сёння на карце савецкай паэзіі ў гэтай рацэ непараўнальна большая вядомасць і шырэйшае рэчышча. У вялікім акіяне жыцця і паэзіі яна жыве і рухаецца як самастойная шляхаводная плынь:

Стаю і з пачуццём неўтаймаваным
Гляджу на след блакітны за кармой,
Як быццам я плыву не акіянам,
А Бесяддзю — жаданаю ракой.

Куляшоў застаецца верным сваёй рацэ, сваёй жыццёвай дарозе, свайму прызванню. Рух не спынены, ён працягваецца...

Варлен БЕЧЫК.

## Папытай у кнігарні ● Папытай у кнігарні

**«РЭВАЛЮЦЫЙНЫ ТРЫМАЙЦЕ КРОК».** Пяты па ліку выпуск расказаў бывалых людзей, удзельнікаў грамадзянскай і Айчыннай войнаў, герояў мірных будняў, адкрываецца ўспамінамі тройчы Героя Савецкага Саюза С. М. Будзённага — «Пра юнацтва бацькоў». Славуты маршал успамінае гады грамадзянскай вайны, баявы шлях легендарнага чырвонага камандзіра Мікалая Руднева.

У кнізе скарочана друкуюцца «Лісткі з календара» народнага паэта Беларусі Максіма Танка — своеасаблівы дзённік падпольнага змагання ў гады белапольскай акупацыі на тэрыторыі былой Заходняй Беларусі. Эпізоды з часу Вялікай Айчыннай вайны ўзнаўляе ў сваіх нататках «Мост праз раку Случ» былы юны падрыўнік А. Калеснікаў.

Складальнік выпуску А. Халадкоў.

**Выдавецтва «Молодая гвардия», Масква, 1973 г.**

**«МАРАЛЬНЫЯ ІДЭАЛЫ І ГЕРОІКА-ПАТРЫЯТЫЧНАЕ ВЫХАВАННЕ».** Заўсёды будуць хваляваць і захапляць юначыя сэрцы гераічныя вобразы нашых папярэднікаў, а таксама нашых сучаснікаў — тых, хто ўсе свае сілы, веды, а калі спатрэбілася,— і само жыццё ахвяравалі дзеля шчасця народа. Героіка-патрыятычнае выхаванне маладога пакалення на высокіх узорах служэння Радзіме стала неад'емнай часткай выхаваўчай работы савецкай школы. Вопыт патрыятычнага выхавання вучняў у школах Брэсцкай вобласці і абагульняе ў сваёй кнізе С. Кацэвіч. Яе з цікавасцю сустрэнуць піянерважатыя, юныя следапыты, камсамольскія актывісты, культасветработнікі, настаўнікі.

**Выдавецтва «Народная асвета», Мінск, 1973 г.**



## Папытай у кнігарні ● Папытай у кнігарні

**«ВЫБРАНАЕ»** Змітрака Бядулі, што выйшла ў серыі «Бібліятэка беларускай прозы», складаецца з лепшых твораў пісьменніка. Аповесць «Салавей», апавяданні «На каляды к сыну», «Малыя дрывасекі», «Пяць лыжак заціркі»... Каго змалку не захаплялі старонкі гэтых твораў, напоўненыя колерамі, фарбамі, гукамі роднай зямлі! Гэта старонкі і пра гаротны лёс занядбанага, але надзвычай таленавітага люду з дарэвалюцыйнай беларускай вёскі, які імкнецца да праўды, святла, мастацтва...

У кнігу ўвайшлі, акрамя названых твораў, аповесць «У дрымучых лясах», казка «Сярэбраная табакерка» і інш.

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1973 г.**

**«ВЕРШЫ»** Міколы Засіма — плён ягонай паэтычнай творчасці на працягу трох дзесяткаў гадоў.

Пачаўшы пісаць у 20-я гады ў жорсткіх умовах пілсудчыны, паэт і за кратамі дэфензівы, і ў дні партызанскага змагання з фашысцкай навалай сцвярджаў сваім радком непахісную веру ў сілы роднага народа, у ягоную шчаслівую будучыню. Таму вершы з жыцця былой Заходняй Беларусі і творы ваеннага часу займаюць у кнізе асноўнае месца.

Выдадзены ў серыі «Бібліятэка беларускай паэзіі», зборнік М. Засіма ўключае ўсё лепшае з творчай спадчыны самабытнага і арыгінальнага беларускага паэта.

Прадмову да кніжкі напісаў У. Калеснік.

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1973 г.**

**«ІШОЎ НА ВАЙНУ ЧАЛАВЕК...»** Да першага свайго рамана «Плач перапёлкі», які Іван Чыгрынаў не так даўно вынес на суд чытача, празаік плённа працаваў і ў «малым жанры». Ужо ў першых апавяданнях акрэслілася цікавасць маладога пісьменніка да тэмы Вялікай Айчыннай вайны, вызначылася ягонае імкненне да паглыбленага псіхалагічнага аналізу чалавечых характараў, учынкаў і паводзін герояў.

У кнігу (серыя «Бібліятэка беларускай прозы») увайшлі апавяданні І. Чыгрынава з першай ягонай кніжкі «Птушкі ляцяць на волю», са зборніка «Самы шчаслівы чалавек», а таксама паасобныя творы, якія друкаваліся ў розныя гады ў перыядычных выданнях.

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1973 г.**

**«ЗЯЛЁНЫ ТРОХКУТНІК».** Беларуская зямля здавён славілася сваёй бульбаю, садавінаю, мёдам. Гэты «трохкутнік» і акрэсліў змест кніжкі нарысаў Леаніда Левановіча. Сабраныя ў ёй нарысы «Бульба-бульбачка», «Сад ты наш, бацюхна», «Беларускі мёд» цікавыя экскурсамі ў гісторыю развіцця бульбаводства, садоўніцтва і пчалярства ў Беларусі. У іх багата роздуму пра надзённыя і перспектыўныя праблемы развіцця гэтых галін сельскай гаспадаркі ў нашай рэспубліцы. Нямала старонак прысвечана людзям — вядомым селекцыянерам і вучоным, бульбаводам, садоўнікам, пчалярам.

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1973 г.**

**«ЗВАНЫ ХАТЫНІ».** Гэтая паэма належыць пяру вядомага ўкраінскага паэта Міколы Нагнібяды — даўняга сябра Беларусі, перакладчыка твораў многіх нашых паэтаў на братнюю мову. У радках паэмы — боль і гнеў шматпакутнай беларускай зямлі, трагедыя вёскі, якая стала сімвалам трагедыі соцень нашых вёсак, што былі разам з жыхарамі спапелены фашысцкімі вылюдкамі.

Паэма «Званы Хатыні» друкуецца на трох мовах: беларускай, рускай і ўкраінскай. Пераклад яе на беларускую мову зрабіў Анатоль Вялюгін, на рускую — Юры Саенка.

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1973 г.**

## Папытай у кнігарні ● Папытай у кнігарні

● Іван ДЗЯДЗЮЛЯ

# ДАЎНІ РАХУНАК

**У аснову нататак «Даўні рахунак» пакладзены сапраўдныя падзеі з жыцця і баявой дзейнасці партызанаў-разведчыкаў на тэрыторыі Беларусі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны, а таксама чэкістаў сённяшніх дзён. Галоўныя героі — рэальныя людзі, хоць па вядомых прычынах іх прозвішчы зменены.**

— Таварыш палкоўнік, прафесар Дуброва просіць яго прыняць па нейкай сур'ёзнай справе, — далажыў лейтэнант.

— Дуброва? — палкоўнік высока ўзняў яршыстыя сівыя бровы.

— Так, прафесар Дуброва. Ён гаварыў пра нейкія «ядавітыя паганкі».

— Прафесар успамінаў пра «ядавітыя паганкі»? Цікава. Нават вельмі цікава. Праводзьце яго ў мой кабінет.

Лейтэнант казырнуў, шчоўкнуў абцасамі і выйшаў.

Палкоўнік сабраў са стала паперы і склаў іх у рабочую папку: ён ведаў, што сёння будзе не да іх. Мае адбыцца сустрэча з баявым таварышам, былым разведчыкам, а цяпер вучоным. Яшчэ ў суровыя гады вайны чэкіст паважаў і высока цаніў камсамольца-разведчыка Дуброву. З таго часу яны сябруюць.

Неўзабаве ў кабінет зайшоў каржакаваты мужчына з сівой чупрынай і прыжмуранымі чорнымі вачыма.

— Сашка, дружа мой! — выдыхнуў палкоўнік і кінуўся насустрач.

Потым яны моўчкі селі ў мяккія крэслы, што стаялі ля акна каля невялікага круглага століка, і некаторы час моўчкі ўзіраліся адзін у аднаго.

— Ні многа ні мала, а больш за дваццаць гадоў, — парушыў маўчанне палкоўнік. — Мінуліся, як у казцы, хоць — чаго толькі ні было, чаго толькі ні здаралася за гэты час! А от жа ў памяці найбольш — сорак сёмы. Як зараз помню. Уляцеў у кабінет малады чалавек — і: «Таварыш маёр, лейтэнант Дуброва прыбыў на родную зямлю пасля выканання задання на чужыне. Якія будуць указанні?»

Прафесар усміхнуўся, кіўнуў галавой:

— Было, Яўген Міхайлавіч, было.

— А сёння той малады разведчык, — нібы сам сабе казаў палкоўнік далей, — паважаны вучоны, доктар медыцыны, прафесар...

Дуброва пачырванеў, замахаў рукамі:

— Не трэба, Яўген Міхайлавіч! Доктар, прафесар — бог мой, якая важнасць! Гэта вы, дарагі Яўген Міхайлавіч, — доктар дактароў. У рабоце чэкістаў што ні пытанне — то навука, глыбокае даследаванне, цэлая дысертацыя. А вы кажаце — прафесар... Гэты прафесар абавязаны ўсім камуністу Кастрову. Ён даў мне мужнасць і адвагу, дапамог убачыць, што добра, што блага, ён паставіў мяне на ногі. У цяжкі час ён не задумваючыся аддаў мне апошні сухар, хоць сам некалькі дзён запар жыў толькі яго пахам.

— Вось гэтага я штосьці і не памятаю...

— Затое я помню і ніколі не забудуся, шаноўны Яўген Міхайлавіч!

— Дзякую, Саша... Якім чынам у нашым горадзе? — палкоўнік наліў у кубкі каву.

— Спецыяльна да вас. Быў у Заходняй Германіі. Там прычапіўся да мяне наш агульны знаёмы. Маёр фон Ройбер. Памятаеце? — прафесар узяў кубак і адпіў глыток, запытальна гледзячы з-пад броваў на субяседніка.



— Як жа, памятаю. Добра памятаю! — Палкоўнік таксама глытнуў кавы і ўздыхнуў: — І што? Якую агіднасць падрыхтаваў вам гэты «фон»? Спрабаваў вербаваць?

Самалёт вырваўся з воблакаў і пайшоў на пасадку.

— Мюнхен, — аб'явіла сцюардэса.

Прафесар Дуброва міжволі зірнуў у ілюмінатар. Над горадам вісела густое аранжавае — да злавеснасці — воблака. «Мюнхен», — паўтарыў сам сабе Дуброва і ў задуменні апусціў пасівелую галаву.

Самалёт мякка гопнуўся на бетонку і падруліў да аэрапорта. Пасажыры заварушыліся, падаліся да выхаду.

Ліпеньскае сонца плавіла асфальт. Абліваючыся потам, прафесар падняўся па прыступках і стаў у чаргу ля століка пашпартнага кантролю. Чакаць давялося даволі доўга. Урэшце паліцэйскі ўважліва паглядзеў на Дуброву, прыдзірліва перагарнуў пашпарт ад першай да апошняй старонкі і — падалося — неахвотна паставіў на ім ярка-чырвоны штамп. Пасля пачаўся таможны агляд. Чыноўнікі таксама не спяшаліся. Рэчы прафесара вывалілі з чамадана на доўгі стол і з такой стараннасцю абмацвалі іх, быццам шукалі іголку. Затым прафесару прапанавалі вывернуць кішэні. Ён абурыўся, запратэставаў. Чыноўнік на хвіліну нібы разгубіўся, потым, ліслівa ўсміхнуўшыся, махнуў рукой: маўляў, не трэба, яму вераць. Упакаваўшы свае параскіданыя рэчы, Дуброва накіраваўся ў атэль — у той, дзе некалі правёў шмат неспакойных начэй, — тое было ў першыя пасляваенныя гады...

Нарэшце спякотлівае сонца схавалася за горы. Палягчэла. Вуліцы напоўніліся людскім шумам і гулам аўтамабіляў. Дуброве не сядзелася. З атэля яго пацягнула ў парк, да ракі Ізар, затым ён доўга хадзіў па горадзе. Дапытлівы позірк прафесара заўважаў нямала змен. Мюнхенскі бюргер, адкормлены і пыхлівы, ужо не раскланьваўся ліслівa направа і налева, як гэта было тады, адразу пасля вайны. Ён трымаўся цяпер з падкрэсленай годнасцю, паважна. Па вуліцах блукала шмат валасатых і неахайна апранутых людзей.

Мінаючы квартал за кварталам, прафесар апынуўся ля піўной «Бюргербройкелер», той самай піўной, у якой Гітлер калісьці пачынаў сваю кар'еру. Цікаўнасць перамагла — прафесар зазірнуў у гэты келер.

Прафесар расплаціўся і сабраўся быў ужо ўстаць, як да століка падышоў сутулаваты пажылы чалавек, цяжка плюхнуўся ў крэсла і, кінуўшы на Дуброву пільны позірк, нечакана сказаў:

— Адну хвілінку, гер. Я хацеў бы пагутарыць з вамі. Справа вельмі важная. — Папрасіўшы падаць дзве кварты піва, працягваў: — Вы чалавек інтэлігентны, таму прашу выпіць са мной кварту піва і пагаварыць аб сэнсе жыцця, няхай яно спрахне...

Па гаворцы і паводзінах Дуброва зразумеў, што перад ім не немец, а, пэўна, суайчыннік, што апынуўся на чужыне.

— Падобна, што зямляк чымсьці моцна засмучаны і з вялікага гора лішнюю чарку ўзяў? — усміхнуўся прафесар.

— Вы рускі? Адтуль? — незнаёмы сутаргава махнуў рукой.

— Так, — адказаў Дуброва.

Чалавек нейкі час бязгучна варушыў вуснамі, сілячыся штосьці вымавіць, урэшце прадыхнуў:

— Адтуль, значыць... Шчаслівец! Не тое, што мы тут. У пастцы! Вам не зразумець бяздомных і бязродных!

— Які ж вы бязродны? Вы ж рускі...

— О-о-о, калі б я зноў мог быць рускім... — Незнаёмы паглядзеў на Дуброву вачыма, поўнымі слёз. — Думаеце, мне не дарагія і не мілыя бацькоўскія прасторы, зялёныя лугі, духмяныя палі ды бяздоннае блакітнае неба! Роднае неба!.. Жыць бы ды жыць пад ім... Вайна праклятая! Гэта з яе пайшло ўсё шыварат-навыварат... Кашчавая не раз у вочы глядзела. Не вытрываў, задрыжаў і папоўз да ворага шукаць ратунку. Хай будзе пракляты той час!..

Ён памаўчаў, звесіўшы галаву, затым зноў загаварыў:

— Цяпер і я зразумеў свае грахі і гатовы плаціць за ўсё. Хацеў бы на сконе сваіх дзён пажыць і памерці пад родным небам. У сваёй зямлі, бо тут... Сёння пахаваюць, а заўтра бульдозер магілу зраўняе. А што з намі цацкацца? Хто мы? Ніхто! Спрацаваўся механізм — на звалку. Напэўна, позна спахапіўся?..

— Чалавекам стаць ніколі не позна. Страшней за ўсё застацца і памерці падлюгам. Падобна, ад тых, — прафесар кіўнуў у кут, — таксама Руссю пахне?

— Калісьці, магчыма, і пахла. Цяпер ад іх смярдзіць самай сапраўднай дрэнню. Гэтыя тут прыраслі пупавінай. Некаторыя з іх — змоўшчыкі супраць Савецкай Расіі са шматгадовым стажам. Адсюль выходзілі ў паход разам з фашыстамі, сюды ж і вярнуліся. Памянялі толькі гаспадара.

Дуброва не ведаў нікога з іх і, пэўна, па старой звычцы, спытаўся:

— Хто ж яны?

— Тузы амерыканскага філіяла разведкі пад шыльдай радыёстанцыі «Свабода». Я ведаю многіх землякоў, якія ўзяліся за розум, апамяталіся, а гэтыя застаюцца ў ярме і шкодзяць як толькі могуць. Такіх і магіла не выправіць. Той, што сядзіць на правым рагу стала — Краміадзі-Санін, кат лагераў у раёне Оршы, карнік і правакатар. Цяпер падбірае кадры для «Свабоды».

— Падбірае, відаць, такіх жа, як сам, — не стрымаўся Дуброва.

— Вядома! Побач з ім — Градабоеў-Дунін, эсэсавец, а потым амерыканскі шпік у Рэгенсбурзе. Насупраць — блізняты-даносчыкі гестапа Кабанавы, яны ж Каліноўскі і Калюжны. Пасярэдзіне — нацысцкі кат, былы бургамістр Барысава, удзельнік знішчэння яўрэяў, а цяпер дыверсант з пасведчаннем каментатара «Свабоды» Станкевіч. Побач — яго паплечнікі...

— Адзін аднаго варты! — зноў не сцерпеў Дуброва.

— Але, усе, як на падбор... Адваротны бок Мюнхена, горада страшных кантрастаў. Любуйся старадаўнімі вежамі, паркамі, музеямі, бляскам вітрын і паказной раскошай, але не капай глыбей — наткнешся на нечысць. Асцерагайцеся іх. Яны на ўсё пойдуць...

— Мне няма чаго іх баяцца, — спакойна адказаў Дуброва.

Яны падняліся і пад насцярожаныя позіркі захмялелых адшчапенцаў выйшлі з келера...

Вось і атэль. У цемнаватым холе як з-пад зямлі перад прафесарам вынырнуў раптам мажны, элегантна апрануты мужчына ў чорных акулярах з пазалочанай аправай. Дуброва аж уздрыгнуў ад нечаканасці.

— Рад вас бачыць, пан Тупрофа! Не чакалі?

— Не чакаў, — шчыра прызнаўся Дуброва, пазнаючы ў нечаканым госцю фон Ройбера, былога маёра абвера.

— Вы былі яшчэ ў паветры, а я ўжо ведаў, што прафесар медыцыны Тупрофа прыбывае ў Мюнхен, — фон Ройбер зрабіў націск на слове «прафесар», нібы жадаючы падкрэсліць сваю дасведчанасць. — Гм... Паважаным людзям непрыстойна таптацца на парозе. Ці не лепш нам пасядзець у бары?

Дуброва не сумняваўся ў тым, што абверавец паявіўся ў атэлі не проста так. Значыць, ад яго не адмахнешся. Прафесар усміхнуўся:





— Сам бог загадаў. Быў бы шчаслівы скарыстаць выпадак і пазнаёміцца з вашай жонкай, унукамі. Памятаецца, вы пра іх калісьці марылі...

— Са старымі калегамі лепш сустракацца адзін на адзін і гаварыць унтэр фір аўген *, — без лішняй дыпламатыі запярэчыў фон Ройбер.

Цяпер Дуброва ўжо зусім не сумняваўся, што фон Ройбер сустрэўся знарок, і насцярожыўся...

— Мы рады за вас, пан Тупрофа... Нам вядома пра вас амаль усё. Як кажуць, сяброў не забываем. Вы жанаты на дачцы вучонага з сусветным імем і маеце сына, які вучыцца ў 9-м класе. Ведаем, што пасля вяртання ў Расію вас дапытвалі ў НКВД. Вы неяк выкруціліся і потым вучыліся ў аспірантуры, скончылі яе і абаранілі дысертацыю... Цяпер вы прафесар. Цудоўна! — абверавец крыва ўсміхнуўся, зноў глынуў піва і, падкрэсліваючы важнасць кожнага сказанага ім слова, працягваў: — Простаму смертнаму і тым больш рэпатрыянту трэба нарадзіцца ў сарочцы для такога ўзлёту. Не ўтаю, гэта выклікае і радасць і трывогу, паважаны калега, — фон Ройбер зрабіў кіслую грымасу і, шырока раскрыўшы рот, пусціў перад сабою шызае колца дыму. — Што вы на гэта скажаце?

Пад элегантным светлым касцюмам субяседніка прафесар адчуў ранейшага маёра абвера. Што ж, трэба быць спакойным. Зусім спакойным. Прафесар абыякава паціснуў плячыма:

— Гэта што — допыт?

— Што вы. Я толькі хацеў бы ведаць...

— Вы ж усё ведаеце. Поспех — гэта праца. Тут выключэнняў не бывае. Яшчэ Леанарда да Вінчы сказаў, што шчасце дастаецца таму, хто шмат працуе... Як бачыце, НКВД тут ні пры чым. Дарэчы, па ўсім відаць, і вы сягота дамагліся.

— О, так, о так! — фон Ройбер выпрастаўся і пакруціў на пальцы залаты пярсцёнак з вялікім каменем.

Напускная важнасць абвераўца не зрабіла ўражання на Дуброву, а выклікала толькі ўсмешку. Фон Ройбер заўважыў яе і, успыхнуўшы, раздражнёна кінуў:

— Дарэмна смеяцеся, пан Тупрофа! У нашай карпарацыі людзі сур'ёзныя, ды і рука ў іх важкая. Калі што якое — жартаваць не любім. Як і тады...

Дуброва спакойна адказаў:

— Я не з баязліўцаў. А тое, што было ў мяне з вамі, сплыло. Разам з трэцім «рэйхам». На ўсім пастаўлен крыж. У вашай асобе сёння я бачу не маёра абвера, а пана фон Ройбера — і толькі. Ваша карпарацыя для мяне — нуль без палачкі!

Фон Ройбер гэтага не чакаў. Ён паглядзеў на прафесара з тупым здзіўленнем, пакоўзаўся ў крэсле, потым забарабаніў тоўстымі пальцамі па стале. Але прафесар ведаў, што гаворка на гэтым не скончана.

Сербануўшы колькі разоў піва, фон Ройбер зноў узняў позірк на прафесара і амаль спакойна загаварыў:

— Глыбока памыляецеся, дарагі калега. Дазволю напомніць вам, што капітуляваў вермахт, а не абвер. З генералам Геленам мы пераадолелі амаль без страт бездань паражэння. Гарачая вайна саступіла месца халоднай — для палітыкаў. А для нас яна заўсёды і халодная і гарачая, крывавая і бяскроўная. — Фон Ройбер гаварыў і не спускаў вачэй з прафесара. Яму вельмі важна было ведаць, якога берага трымаецца цяпер гэты рускі, як заарканіць яго на службу ў карпарацыю, пазбягаючы такіх слоў, як шпіянаж, дыверсія, антыкамунізм, хоць менавіта ўсё гэта і было яе справай. — Ад вас не ўтаю, што наша карпарацыя з'яўляецца пераемніцай той службы, дзе вы былі маім падначаленым. Калі не лічыць шыльды, дык у нашай канторы амаль усё, як і было раней. Ваш асабісты фармуляр з падпіскай — у маіх сейфах. Пытанне сёння стаіць так: аднаўленне ўзаемаразумення з намі або... Другога выйсця для вас няма. На Лубянку трапляць не раю, і вы ведаеце — чаму. У вас жонка, дзеці, салідная становішча...

Фон Ройбер памаўчаў, лена адкінуўшыся на спінку крэсла. Ён хваляваўся. На шурпатай лысіне блішчэлі кроплі поту.

* З вока на вока (ням.).

Дуброва адсунуў ад сябе амаль некрануты куфаль і падняўся:

— Я не чакаў, пан фон Ройбер, што вы будзеце размаўляць са мной мовай гестапа. Пагрозамі і шантажом мяне не возьмеш!

Ён выйшаў з бара.

Апамятаўшыся, абвералец падхапіўся з месца і пабег да тэлефона. З другога канца провада не без іроніі яму было сказана: «У сваім доме і не змаглі справіцца з адным рускім? Не чакаў! Загад застаецца ў сіле. Дакажыце, на што вы яшчэ здатныя».



Па крутой, дрэнна асветленай лесвіцы Дуброва падняўся ў свой нумар і замкнуў за сабой дзверы. У пакоі было духатліва. Не ўключаючы святла, падышоў да акна, расчыніў яго, сам цяжка апусціўся ў крэсла, задумаўся. Даўно рухнуў трэці рэйх, а абломкі рэйха — розныя фон ройберы — не склалі зброі. Нябачная бітва працягваецца...

Дуброва добра памятае, што фон Ройбер хітры і каварны. Падумаў быў, што, пакінуўшы бар, дапусціў памылку. Але адкінуў гэтую думку: гаспадары фон Ройбера ўсё роўна не адмовяцца ад сваёй задумы. Вельмі ўжо патрэбны ім людзі. Тым больш ён, прафесар Дуброва, якога яны дагэтуль лічаць сваім чалавекам. Дакараў сябе за тое, што перад ад'ездам не пагутарыў з патрэбнымі людзьмі. Ён не думаў, што сустрэнецца з абвераўцам, што ўзнікне такая складаная сітуацыя. Зараз трэба дзейнічаць самому. Праз чвэрць стагоддзя ўсё паўтарылася...

...Аціх крывавы няроўны бой. Вячэрні змрок апусціўся на акружаны ворагам лес. З Бярэзіны цягнула вільгаццю і прахаладай. Лес як бы праглынуў галасы карнікаў, крыкі дзяцей і роспачнае галашэнне жанчын.

Партызаны з нецярпеннем чакалі надыходу ночы: яны выбіліся з сіл, на зыходзе былі боепрыпасы. А свае былі ўжо блізка.

— Як хадуном усё ходзіць, — сказаў тады Аляксандр Дуброва начальніку разведкі капітану Кастрову, які падышоў да яго і стомлена сеў на камель паваленай бярозы.

— Нічога! — Кастроў чамусьці ўсміхнуўся. — Пад нагамі такога асілка не толькі зямля, але і ўвесь свет задрыжыць...

— Я сур'ёзна, таварыш капітан. Прыхініцеся да зямлі...

— Фронт дыхае... Разумееш, Саша, загаварыў наш фронт! Набліжаецца свята і на нашу вуліцу, дружа! Хутчэй радыста да мяне!..

Дуброву капітан разбудзіў яшчэ прыцемкам. Атрымаўшы баявы загад, разведчык у думках развітаўся з сябрамі, якія моцна спалі, падумаў: хутка хлопцы спахопяцца, пачнуць шукаць, а потым закляймяць яго самым страшным словам. А Соня? Кастроў, вядома, супакоіць яе, знойдзе, што сказаць... Ён цяжка ўздыхнуў і, чвякаючы ботамі па балотнай твані, знік сярод чэзлых дрэў.

Па яго слядах да ўзлеску прайшоў капітан Кастроў са службовым сабакам Барсам. Пераканаўшыся, што з Сашам усё ў парадку, вярнуўся назад.

А ў гэты час разведчык быў ужо сярод ворагаў. Там яго старанна абшукалі, адабралі гадзіннік і брытву, надавалі кухталёў і даставілі ў штаб батальёна. Пасля допыту, пад дулам аўтамата, Дуброва апынуўся ля плямістай палаткі, што стаяла пад разгалістым дубам.





— Так, так, так... Размалявалі цябе здарова, — сказаў унтэр-афіцэр па-руску з прыкметным акцэнтам. — Але і ты харош! Яфрэйтару Гнідке так даў па вуху, што той яшчэ ніяк не апрытомнее. Дзякуй богу, бо каб ён не асунуўся, табе быў бы капут.

— Гэты ваш Гнідке так разышоўся, што... Я яму кажу: не смей, а ён «га-га-га!» і цэліць у пераноссе. Я ўзяў і адмахнуўся...

— Бач, які горды! А калі б ён з аўтамата?

— Ну й няхай, — буркнуў Дуброва.

— Ідзі за мной, паглядзім, што ты за птушка, — загадаў унтэр і падаўся ў палатку.

У палатцы немец прысеў за столік, збіты з бярозавых жэрдак, закурыў, гледзячы прама ў вочы Дуброву, спытаўся:

— У батальёне цябе накармілі?

— Сыты па горла.

— Ну і добра. Курыш? І правільна, карысці мала. Такім чынам, бліжэй да справы. Мяне завуць Карл. Ты ёсць Аляксандр. Правільна? Добрае імя. У перакладзе з грэчаскага азначае Пераможца. М-да, пераможца, а рукі ўгору падняў? Відаць, дарэмна табе гэтае імя дасталося...

Дуброва слухаў унтэра, а сам стараўся прыпомніць усё пра Карла са школы абвера ў горадзе на Бярэзіне, звесткі аб якой былі ў партызанскай службы бяспекі.

— Па ўсім відаць, ты не дурань. Вось тут і загваздка. Не магу ўявіць, каб разумны і здаровы апынуўся тут без дай прычыны. У батальёне ты гаварыў няпраўду. Тут хлусіць не раю. Хто паслаў цябе з лесу?

Дуброва чакаў такога пытання. Як і ў батальёне, адказаў:

— Не было каму пасылаць. Усе разбегліся. Амаль два тыдні плюхаўся ў гразі адзін, між мін і снарадаў. Зглададаўся. Хоць зямлю грызі. Якраз і лістоўку падняў. Прачытаў і думаю: крыўдна загінуць у балоце ў дваццаць гадоў. Спачатку баяўся, а потым адважыўся, выйшаў з лесу... Ёсць тут яшчэ адна справа, але той чалавек гаварыў, што пра яго можна сказаць толькі афіцэру, які шпіёнаў да партызанаў засылае...

Унтэр насцярожыўся, пачаў слухаць уважліва. Потым падышоў бліжэй, паклаў руку Дуброве на плячо і важна загаварыў:

— Я ёсць той, пра каго ты гаварыў. Ты павінен сказаць мне пароль. Няма паролю? М-да, у нас так не бывае. Кепска прыдумаў. Не выкручвайся. Нам усё вядома, а чаго не ведаем сёння — уведаем заўтра, і тады табе не зайздрошчу. Пакуль не позна, выбірай, што да спадобы — альбо будзеш разарваны на кавалкі, альбо вісець на вяроўцы. — Унтэр балюча штурхануў Дуброву ў бок.

— Ні першае, ні другое. Хачу пераканацца, што вы ёсць той самы, хто мне патрэбен. Але вартавы побач, ён усё чуе...



Унтэр-афіцэр паглядзеў на Дуброву і, высунуўшы галаву праз акенца, загадаў вартавому прынесці абед на дваіх.

У гэтыя кароткія імгненні разведчык ліхаманкава ўспамінаў, параўноўваў гэтага Карла з тым Карлам, пра якога дэталёва расказваў у брыгадзе абяззброены агент абвера «Фігара»; сорак гадоў, бландзін, вышэй сярэдняга росту, вялікія дужыя рукі, гаворыць па-руску з прыкметным акцэнтам, цік левага вока... Падобна, што ён.

Калі салдат пайшоў, Дуброва ступіў да унтэр-афіцэра і спытаўся:

— Вы Карл Морген?

— Адкуль ведаеш? — не схаваў той здзіўлення.

— Хутка даведаецеся, а пакуль ад вас патрабуецца мецць развагу і слухаць.

Разведчык паведаміў Карлу Моргену, што савецкаму камандаванню вядома яго шахцёрская біяграфія ў Эсэне, вядома таксама пра тайнае членства ў сацыял-дэмакратычнай партыі Германіі і ўдзел у руху супраціўлення. Расказаў усё, што той рабіў на савецкай зямлі, зразумела, і ў школе абвера, у горадзе на Бярэзіне.

— Мы ведаем, што вы, як і ўсе сумленныя немцы, бачыце выйсце з бездані ў разгроме фашызму. Я маю паўнамоцтвы прапанаваць вам саюз па сумеснай барацьбе. Ваша слова...

Карл Морген маўчаў. Твар яго пакрыўся белымі плямамі, у руках дрыжэла цыгарэта. Ён узбуджана мітусіўся па палатцы, прагна глытаў цыгарэтны дум. Пасля крутнуўся ў кут, да паходнага чамадана, прапанаваў:

— Па чарцы шнапсу, смелы чалавек!..

— За перамогу справядлівай справы — з задавальненнем!..

У змроку Дуброву вывезлі на браневіку з раёна баявых дзеянняў у горад. На світанні прывялі ў кабінет капітана Крэбса. Той зірнуў на Дуброву і загадаў кінуць яго ў камеру-адзіночку. Сцены камеры, склеп і ўвесь дом, дзе гаспадарылі абвераўцы, здаліся разведчыку аж набраклымі чалавечай крывёю. У гэтых сценах рабілася такое, пра што ніхто не ўведае. Пра ўсё расказалі б толькі мёртвыя, але мёртвыя не гавораць.

Удзень у камеру завітаў унтэр-афіцэр Карл. Узняўшы сціснуты кулак над галавой, ён бязгучна прывітаў Дуброву і адразу ж выйшаў. Свайму шэфу Карл прадставіў разведчыка як памочніка лазутчыка «Дракона», які быў засланы ў партызанскую брыгаду на Міншчыне.

Двое сутак у Дубровы прыдзірліва выпытвалі аб правале «Дракона», звесткі аб брыгадзе. Дакопваліся да дробязяў. Здавалася, што ён знаходзіцца на лязе брытвы. Пераадолець лабірынты пастак дапамог Карл, які ведаў усё, што тварылася ў таямнічым доме за высокім плотам. Карл папярэджваў Дуброву аб правакатарах і вочных стаўках з цёмнымі асобамі, якія прыкідваюцца партызанамі.

Прайшоўшы выпрабаванні ў сутарэнні смерці, Дуброва ўздыхнуў лягчэй: самае страшнае перажыта. Пасля ўсяго, што з ім рабілі, нават д'ябал, здавалася, не здолеў бы прыдумаць новых катаванняў. І ўсё ж хутка яму давялося пераканацца ў адваротным. Цяпер абвераўцы не мучылі яго бяссонніцай і не пагражалі. Яны змянілі тактыку, паставіўшы перад сабой задачу зрабіць Дуброву саўдзельнікам сваіх цяжкіх злачынстваў.

Чэрвеньскай ноччу яго па трывозе паднялі з ложка і даставілі ў кабінет капітана Крэбса. За сталом сядзеў фон Ройбер. Размова была кароткая. Дуброву пазнаёмілі з паўтузінам дыверсантаў і загадалі пранікнуць у зону дзеянняў партызанскай брыгады і зрабіць тое, што не здолеў зрабіць іх чалавек пад мянушкай «Дракон». Яму сказалі проста: група павінна высачыць і знішчыць кіраўніцтва падпольнага райкома партыі і камандаванне партызанскай брыгады, у якой знаходзіўся Дуброва да ўцёкаў сюды. Фон Ройбер растлумачыў:

— Оберкамандаванне патрабуе забяспечыць бяспеку адводу часцей вермахта на новыя рубяжы.

Разведчык зразумеў каварны ход абвераўца, моцна сціснуў зубы і адказаў:

— Не прывык страляць людзям у спіну!..

Тры дні Дуброва блукаў з бандай па лясах і пералесках і шукаў свае ахвяры там, дзе яны не маглі быць. Па яго сігнале дыверсантаў на чацвёрты дзень выявілі партызаны і, налучыўшы зручны момант, навязалі бой. У паніцы, страціўшы некалькі чалавек, дыверсанты ўцяклі і дачасна вярнуліся ў гарнізон. Дуброва баяўся допытаў, але, на яго здзіўленне, допыту не было. Відаць, абставіны, што скλаліся на фронце, падганялі час. Вылазкі ў партызанскую зону і заступніцтва Карла зрабілі сваё. Дуброву перасталі падазраваць.





У асіным гняздзе Дуброва і Карл былі асцярожна прадбачлівыя. Куды не мог пранікнуць разведчык, туды пранікала вока яго таварыша. Дзякуючы ім звесткі пра каварныя справы падцэнтра ў горадзе на Бярэзіне былі ў таварыша Кастрова поўныя і дакладныя...

Настрой у фон Ройбера быў паганы. Злаваўся ён больш за ўсё на ўпартага прафесара. Злаваўся не менш і на сябе: не змог адолець рускага, хаця, здавалася, меліся ўсе шанцы на поспех. З абурэннем фон Ройбер успамінаў свайго шэфа, былога палкоўніка абвера Раледара, які з'едліва адчытаў яго па тэлефоне за няўдачу і не прамінуў даць зразумець, што яшчэ адно выпрабаванне — і ён апынецца на звалцы.

Стараючыся забыцца пра непрыемнасці, ён пераключаў думкі на гады вайны, на той час, калі працаваў у шпіёнска-дыверсійным цэнтры ў горадзе на Бярэзіне...

Грознае лета 1944 года. На ўсходзе грымела кананада. Савецкая Армія руйнавала баявыя пазіцыі гітлераўскай групоўкі армій «Цэнтр». Магутныя ўдары з фронту зліліся з сустрэчнымі ўдарамі народных мсціўцаў з тылу. Апынуўшыся ў вогненных цісках з фронту і тылу, гітлераўскія войскі выдыхаліся.

Прадстаўнік разведцэнтра абвера прыбыў у горад на Бярэзіне апоўдні. Па вузкай звілістай вуліцы на вялікай скорасці пранёсся плямісты аўтамабіль з літарай «А» — знакам абвера, вырваўся на ўскраіну і спыніўся ля пад'езда чатырохпавярховага цаглянага будынка за калючым дротам. З машыны выскачыў афіцэр з жалезным крыжам на шыі, махнуў рукой вартавому і заспяшаўся па прыступках на другі паверх — у кабінет начальніка мясцовага шпіёнскага гнязда.

— Упаўнаважаны цэнтра маёр фон Ройбер з вельмі важнай і тэрміновай справай!..

Хударлявы капітан з чырвонай нашыўкай на борце кіцеля падхапіўся з крэсла, шпурнуў недакураную цыгарэту ў попельніцу і энергічна ступіў насустрач маёру.

— Капітан Крэбс, — адрэкамендаваўся ён. — З нецярпеннем чакаю вас.

— Вы нездарма турбаваліся. За дзесятак кіламетраў ад горада давялося папоўзаць на пузе, чорт яго бяры. У вас, капітан, пад самым носам і сярод белага дня вольна разбойнічаюць партызаны. Абуральна... Вы не выканалі загаду фюрара аб знішчэнні партызанаў усімі даступнымі сродкамі!

У голасе маёра чулася пагроза. Ён хутка прайшоўся па кабінеце. Спыніўшыся ля стала, пацёр рукой лысіну і ўціснуў сваё мажнае цела ў крэсла. Некаторы час сядзеў моўчкі.

Капітан Крэбс з трывогай пазіраў на шэры пакет. У вушах не пераставала звінець: «Вы не выканалі загаду фюрара!..»

— Усё гэта вельмі непрыемна. Абяцаю замовіць за вас слова, хоць не многія хочуць чуць, што на бальшавіцкай зямлі з бандытамі справіцца немагчыма, — маёр злосна грукнуў кулаком па стале і сціснуў пашчэнкі.

— Вы маеце рацыю, пан маёр. З гэтымі фанатыкамі сам чорт не справіцца...

— Азнаёмцеся, капітан, з загадам, а я тым часам агледжу вашы ўладанні, — распарадзіўся маёр і выйшаў, ляпнуўшы дзвярыма.

Капітан не пачуў гулу самалётаў, што праносіліся над домам. Спахапіўся толькі тады, калі ад выбухаў скалануліся сцены кабінета, пасыпалася са столі тынкоўка.

У кабінет уляцеў задыханы фон Ройбер. Твар яго быў васкова-белы:

— Рускія бамбілі скапленне нашых аўтамашын і танкаў ля моста цераз Бярэзіну. Ёсць ахвяры. На шчасце, мост ацалеў.

Крэбс няпэўна паціснуў плячыма:

— Учора мы бамбілі рускіх, а сёння яны бамбяць нас. Сёння рускія моцнымі атакамі ўдарылі па ўсім цэнтральным фронце. Абарона ўзламана.

Фон Ройбер перапыніў яго:

— Вы дапускаеце, што рускія хутка будуць тут? Гэтага не будзе! Зір-

ніце на аўтастраду. Толькі сляпы не ўбачыць, якая сілішча прэ на ўсход. «Тыгры», «Пантэры», «Фердынанды»!..

— Іх не менш было пад Курскам і Белгарадам, — уставіў капітан, уздыхнуўшы.

— Тады быў сорак трэці, а цяпер сорак чацвёрты. Спадзяюся, вы ўжо азнаёміліся з загадам? — спытаўся маёр, усаджваючыся ў крэсла.

— Так, — ціха адказаў Крэбс.

Ён не хацеў вяртацца да гаворкі пра гэты загад: падцэнтр не меў патрэбных людзей для яго выканання. Да бітвы пад Курскам капітану Крэбсу жылося ніштавата. Ён выкручваўся ў цяжкую мінуту за кошт лазутчыкаў, якіх рыхтавалі ў Барысаўскай шпіёнска-дыверсійнай школе. Школу эвакуіравалі ва Усходнюю Прусію — і стала цяжэй. Амаль усе лазутчыкі, на якіх капітан мог у нейкай меры разлічваць, былі абясшкоджаны савецкай контрразведкай. Даўно не стала ў сейфах карычневых папак з асабістымі фармулярамі на лазутчыкаў-дыверсантаў «Ляснога ваўка», «Дракона», «Прайдзісвета» і добры дзесятак іншых, што прайшлі праз ягоныя рукі.

Заставалася сякая-такая драбяза, але не на ўсіх іх можна было спадзявацца. Для гэтага ў Крэбса было дастаткова падстаў.

— Нам загадана кінуць тут у глебу зярняты, каб яны далі такія ўсходы, ад якіх чырвоныя пазеленелі б... Выкладвайце свае рэзервы, пан капітан! — маёр калючымі вачыма зірнуў у твар Крэбса.

— Вось усё, што мы маем, — сказаў капітан, кінуўшы на стол каля дзесятка тонкіх папак. — Адна дробязь, пустацвет. Як фельдфебель Карл гаворыць — паганкі...

Не пазбаўлены гумару, фон Ройбер пажартаваў:

— Калі паганкі ядавітыя, яны цалкам нас задаволяць.

Фон Ройбер паведаміў капітану Крэбсу тое, чаго не было ў загадзе. Пакінутыя тут лазутчыкі, акрамя звычайных «мокрых» спраў, павінны ўмець выпускаць антысавецкія лістоўкі, распаўсюджваць ілжывыя чуткі, пладзіць язву нацыяналізму...

Зазваніў палявы тэлефон. Капітан зняў трубку. Слухаў напружана, стараючыся не прапусціць ніводнага слова, раз-пораз паўтараў: «Явол гер генерал». Сказаўшы «цубефель», павольна паклаў трубку.

— Што здарылася? — фон Ройбер памкнуўся да стала.

— Фельдмаршал Буш загадаў зматвацца як мага хутчэй і далей, калі мы не хочам стаць здабычай контрразведкі Саветаў.

Пранізлівае выццё сірэны, якая апавяшчала аб прарыве савецкіх самалётаў да горада, вывела фон Ройбера са стану здранцвення.

— Хоць і бадзягі, але яны чысценькія перад савецкай уладай, — абурыўся маёр, перагортваючы пададзеныя яму справы лазутчыкаў абвера і гестапа з лагера ваеннапалонных. — Трэба зрабіць так, каб адна толькі думка аб Саветах і вяртанні да чырвоных зжахнула іх...

— Сам бог і той не здольны за два-тры дні стварыць такі цуд, — нясмела запярэчыў капітан Крэбс.

Маёр ускінуў галаву:

— Атрыманы загад мы абавязаны выканаць любой цаной! — фон Ройбер злосна вылаяўся, пахадзіў па кабінеце, закурыў. — Трэба з гэтым збродам правесці такую ж аперацыю, як з нумарам 03 на Паліку. Цяпер гэты 03 будзе адданы нам да магілы, на ўсе сто працэнтаў. Прымусім навічкоў перастраляць па дзесятку ваеннапалонных — і справе канец. Пасля таго, як яны выражуць нажом зоркі на целе сваіх суайчыннікаў, а потым аўтаматам прыкончаць іх, мы атрымаем сапраўдных вернападданных. Ход аперацыі здымем на кінастужку, змацуем асабістымі подпісамі.

— Геніяльна! — усклікнуў капітан Крэбс.

— Усе трупы загадайце запхнуць потым у мяшкі, напоўніць пяском і кінуць у Бярэзіну. Час не трывае, трэба спяшацца...

— Будзе зроблена, пан маёр! — шчоўкнуў абцасамі капітан.

Вораг нястрымна каціўся на захад. Спяшаліся выратаваць шкуру і прадстаўнікі шпіёнска-дыверсійнага цэнтра. Яны лічылі, што, раскідаўшы ў ваколіцах горада на Бярэзіне і па вёсках сваіх лазутчыкаў, сваю справу зрабілі.

Але паганкі маёра фон Ройбера і капітана Крэбса выяўлены і абясшкоджаны. З усёй банды дыверсантаў толькі аднаму ўдалося замесці сляды і бясследна знікнуць.





Раніцой у нумары Дубровы зазваніў тэлефон. У трубцы пачуўся знаёмы голас. Фон Ройбер лісліва прывітаў прафесара і загаварыў аб пачцівасці і глыбокай павазе да свайго старога «калегі». Прафесар спаслаўся на тое, што ён вельмі заняты, і дадаў:

— У мяне няма жадання ісці на сустрэчу, якая можа сапсаваць настрой.

Фон Ройбер паспяшаўся запэўніць, што гэтага не здарыцца.

Дуброва згадзіўся.

А дзевятай гадзіне раніцы Дуброва сядзеў у зале сімпозіума. У хвіліны зацішша думкі яго зноў і зноў вярталіся да маючай адбыцца сустрэчы — да паядынку з фон Ройберам. Дуброва лічыў патрэбным не толькі абясшкодзіць праціўніка, але і ўзяць ад яго ўсё, што важна для бяспекі сваёй Радзімы і справы міру. У пошуках ключа да вырашэння гэтай задачы ён прыгадваў справы ваенных гадоў, перабіраў у думках факты і дэталі...

Фон Ройбер паявіўся ў нумары ўвечары ў дакладна вызначаны час. Элегантна расшаркаўся:

— Дарагі прафесар, рады вас бачыць здаровым. Пасля спякотнага дня было б проста прыемна зрабіць прагулку ў аўстрыйскія Альпы. Я і мой «Мерседэс» да вашых паслуг. Імгненне — і мы будзем у адным з самых цудоўных куткоў нейтральнай Аўстрыі. У добрыя часы сам рэйхсмаршал там...

Дуброва, не даслухаўшы, перапыніў фон Ройбера:

— Дзякую за ласку. Я не магу паехаць у Аўстрыю: у мяне няма аўстрыйскай візы.

— Не бяда! Усё будзе зроблена на вышэйшым узроўні. Мне не ўпершыню. Дзесяць марак грэнцпаліцаю — і каціся па нейтральных дарогах!..

Прафесар зноў перапыніў яго:

— Учора я быў вашым госцем. Сёння — вы мой госць. Мне прыгадваецца цудоўны куточак на самым беразе Вертзее, непадалёк ад Мюнхена. Па праву гаспадара сённяшняга вечара я хацеў бы запрасіць вас туды...

Фон Ройбер не пярэчыў, хоць было відаць, што такі паварот справы яго не задавальняў.

Аўтамабіль звярнуў з асфальту і спыніўся ля шынка, што патанаў у зяляніне. Дуброва і фон Ройбер былі, бадай, першымі вячэрнімі наведвальнікамі. Яны аблюбавалі сабе столік пад адкрытым небам. Заказаўшы каньяку і чорнай кавы, Дуброва прадоўжыў пачатую размову:

— Вы сказалі: «Мы зноў у сядле». Як гэта разумець?

Фон Ройбер нейкі час сядзеў моўчкі, пыхкаў сігарай, думаў. Потым нахіліўся да Дубровы, прыжмурыў вочы.

— Гэта — тайна.

— Тайна? — сказаў прафесар з ноткай іроніі ў голасе. І сур'ёзна дадаў: — Я ўпэўнены, што гэтая тайна не большая за тую, якая нам вядома.

— Вы пра што? — насцярожыўся фон Ройбер.

— Пра справы даўніх дзён, — сказаў Дуброва і строга паглядзеў на абвераўца. — Магу нагадаць...

— Вы забываеце, шаноўны, дзе знаходзіцеся. Тут мой дом. Я гаспадар. Ці не так? Як захачу, так і будзе.

— Ваш дом, — спакойна адказаў Дуброва і, павысіўшы голас, дадаў: — Але тут таксама дом сваякоў сям'і капітана Крэбса, якога вы ў сорак чацвёртым годзе...

Фон Ройбер падскочыў, як уджалены, спалохана закруціў галавой па баках. Ён вельмі добра памятаў, як стрэліў разрыўной куляй у патыліцу капітана Крэбса, і ў думках праклінаў сябе за тое, што не здолеў у свой час знішчыць Дуброву, міжвольнага сведку.

— Чым вы дакажаце? — з дрэнна прыхаванай трывогай выціснуў фон Ройбер.

— Гэта мая справа. Вам застаецца адно — быць са мной да канца шчырым. Гэта ў вашых інтарэсах...

— Вашы доказы могуць знікнуць сёння разам з вамі! — заскрыгатаў зубамі абвераверц.

— Вы майстар стрэліць з-за вугла або замест цукру насыпаць мыш'яку ў каву. Усё гэта — не нова. Ды ўсё ж падумайце лепш пра сябе і выкладвайце сваю «вялікую тайну»! — ужо загадаў Дуброва.

Фон Ройбер адчуваў, што яго моцна прыпіраюць да сценкі, але яшчэ верыў у магчымасць выкруціцца і ўзяць верх. «Зраблю ход канём», — рашыў ён і сказаў:

— Пажартавалі — і хопіць. Сапраўды, якія ў мяне могуць быць ад вас сакрэты? Лічу нават патрэбным натхніць калегу, які прыбыў здалёк.

— Натхняйце, але толькі шчыра, — рашуча сказаў Дуброва і падрыхтаваўся слухаць.

Фон Ройбер азірнуўся і пачаў ціха, ліслівa:

— Я не буду крывіць душой. Ды і пан Тупрофа не той чалавек, якога можна абвесці вакол пальца. Скажу вам проста: мы з саюзнікамі круцім каласальную машыну псіхічнага ўздзеяння на Савецкую Расію. Прапаганду трэцяга рэйха робім больш тонка і ўражліва. Днём і ноччу б'ём па мазгах з усіх відаў сучаснай зброі. Лезем перш за ўсё ў душу маладых, тых, што ласыя на сенсацыі і недасведчаныя ў палітыцы. Гэта не простая справа. Паспрабуйце з нягодніка зрабіць прапаведніка або нармальнага чалавека зрабіць дурнем, ды так, каб нашы вушы не тырчэлі? Гэта механіка вельмі тонкая. Аднаму казычам хваравітае самалюбства, другому — абяцаем рай зямны, трэцяму — падкідаем дзесятак шарыкавых ручак з намаляванай голай жанчынай або паласаты джэмпер. Шукаем і такіх, што любяць чыстую манету. Даводзіцца круціцца ваўчком, выдаваць сябе за саветолага і крэмленолага, быць сябрам, чортам і д'яблам. Інакшай — здохнеш, як бяздомны сабака.

Дуброва, паглядзеўшы з агідай на фон Ройбера, зазначыў:

— Ашуканыя вамі людзі апамятаюцца і дзякуй не скажуць.

— Не за «дзякуй» працуем. Наша справа — бізнес, а там хоць патоп!

Цынізм фон Ройбера быў настолькі агалены, што прафесар не мог не спытацца, ці ёсць элементарнае сумленне ў гэтых подлых тыпаў, якія выдаюць сябе за прыхільнікаў дэмакратыі і свабоды.

Фон Ройбер хіхікнуў.

— Ці не падумалі вы пра тое, што зноў зацягваеце пятлю на шыі нямецкага народа, штурхаеце яго ў бездань? — прафесар пачынаў хвалявацца.

Фон Ройбер змахнуў з пачырванелага твару кроплі поту і з запалам адказаў:

— Мы салдаты, а не палітыкі! Дзеля стварэння вялікага рэйха мы гатовы на ўсё!

Дуброва збялеў. Ён разумеў — тое, пра што горача гаварыў фон Ройбер, не было трызненнем вар'ята або выхваляннем забулдыгі. Адкрыты рэваншызм!.. Дуброва не стрымаўся:

— Гэта ж вар'яцтва! Безжыццёвая пустыня пад крывадушны трэск аб абароне свабоды і дэмакратыі ад камунізму!

Фон Ройбер хітра ўхмыльнуўся.

— Ад вашай стараннасці фюрар быў бы ў захапленні. Ён надзяліў бы крыжамі ўсіх, — Дуброва насуперак унутранаму пратэсту закурыў. У грудзях быццам стукалі мільёны сэрцаў загінуўшых ад рук гітлераўцаў братоў і сясцёр.

— О, так! — заківаў галавой захмялелы фон Ройбер. — Дух фюрара заўсёды з намі...

— Невядома толькі, як аднёсся б ён да альянса з сіяністкімі дзялкамі, — заўважыў Дуброва.

Фон Ройбер тут жа парыраваў:

— Наша ідэалогія і сіяністская — кроўныя блізняты.

Прыгадаўшы гісторыю, ён паведаміў, што ў гады вайны сіяністкія босы імкнуліся любой цаной не дапусціць Амерыку да ваеннага саюзу з Саветамі. Калі кааліцыя стала фактам, яны са стараннасцю чарвяка падточвалі яе.

— Гэта яшчэ што! — разышоўся фон Ройбер. — Трэст Сіона не забываў нас і ў цяжкую мінуту. Ён пасрэднічаў у закупках за мяжой амуніцыі для арміі. Памятаеце, напэўна, гісторыю з дзесяццю тысячамі грузавікоў для вермахта?

— Вы замоўчваеце важную дэталь. Грузавікі прапаноўваліся ў абмен на дзесяткі тысяч асуджаных яўрэяў, якія знаходзіліся ў лагерах смерці, — дадаў Дуброва.

Фон Ройбер выняў з рота сігару:

— Разумны чалавек, а паверыў крывадушным казкам прапаганды сіяністаў. У гэтай справе яны віртуозы. Гэта дзякуючы іх турботам ніхто не напамінае нам аб шасці мільёнах знішчаных яўрэяў.

Адкрыцці фон Ройбера не здзівілі Дуброву.

— У век атама і космасу вашы справы выглядаюць... Шум, трэск...

Фон Ройбер паморшчыўся. Падаўшыся бліжэй да Дубровы, зашаптаў:

— Ёсць, зразумела, і шум, ёсць і трэск. Але гэта не проста шум, не дробязны вадэвіль. Пад кіраўніцтвам ЦРУ гэтай справай у ЗША занята каля ста пяцідзесяці інстытутаў, сотні агенцтваў, рэдакцый радыёвяшчання і тэлебачання.

— А тут хто прыкладае руку?

— Наша карпарацыя звязана з рэфератам бендэснахрыхтэндынст і супрацоўнікамі радыёстанцыі «Свабода»...

— Гэта значыць, з амерыканскай і заходнегерманскай разведкамі? — удакладніў Дуброва.

— Правільна, — па-ваеннаму пацвердзіў фон Ройбер і дрыжачай рукой напоўніў чарку. Ён хваляваўся. І як было не хвалявацца! Ён выдаваў тайны цэнтраў ідэалагічных дыверсантаў і паклёпнікаў.

— Наша карпарацыя пад выглядам турыстаў накіроўвае сваіх людзей у Расію і саюзныя з ёй краіны. Адным даручаем услаўляць там заходні лад жыцця, другім загадваем падагравацьнацыяналістычныя страсці, трэцім — вышукваць пакрыўджаных і наладжваць кантакты з імі. Больш вопытным і спрытным даюцца заданні аднаўляць сувязь з ацалелымі сям-там нашымі людзьмі, якіх мы пакідалі перад адыходам, загадваем наступаць ім на горла і патрабаваць дзеянняў. Ну, а сяму-таму даручаем распаўсюджваць бацылы тыфу, яшчуру...

— Бачу, вам вельмі хацелася, каб і я заняўся гэтым? — спытаўся Дуброва.

— Вось іменна! Нам загадана не шкадаваць грошай...

— Не ўсё купляецца!.. Перакананы, што вы самі не верыце ў тую хлусню, якую прагнеце ўкласці ў галовы іншых. Не гуляйце з агнём. Савецкіх людзей не ўдасца ашукаць... — Дуброва паглядзеў на гадзіннік. Было за поўнач. — Нам пара, — сказаў ён, заплаціўшы за вячэру.

Назад прафесар і абвераверц ехалі моўчкі. Фон Ройбер, уцягнуўшы кароткую шыю ў тоўстыя плечы, разгублена зіркаў па баках.

Наперадзе загарэліся гірлянды агнёў. Набліжаўся Мюнхен. А палове трэцяй аўтамабіль спыніўся ля ўвахода ў атэль.

— Не ўздумайце хітрыць. Вы мяне зразумелі? — счакаўшы хвіліну, прафесар ляпнуў дзверцамі аўтамабіля.

— Выдатна зразумеў, — прамармытаў фон Ройбер і націснуў на акселератар.

Бралася на дзень...

...Сябры не заўважылі, як за акном пацямнела, як аціх на ноч горад.

— Трэба было б пра гэтую незвычайную гісторыю расказаць савецкім людзям, — падняўшыся з крэсла, заўважыў палкоўнік.

Мал. **У. Табушава**



## усмешкі маладосці

● **Генадзь ЗОТАЎ**

### БЮРАКРАТ

Сымон на працы — бюракрат.
Што зробіш з бюракратам —
Ці не даваць яму пасад,
Ці пасадзіць за краты?

Ды нехта вымавіў тут: «Стой!
Лепш знойдзем спосаб новы.
Дзе бюракрат — там ёсць і стол.
Часцей за ўсё дубовы.

Калі стол гэты адабраць,
Дадзім Сымону рады —
Не будзе скаргі ён хаваць
У доўгія шуфляды».

І вось на дыване Сымон
Сядзіць ва ўсходняй позе.
На тым жа самым месцы ён,
Ды толькі на падлозе.

Гавораць, шмат станоўчых рыс
Набыў Сымон праз гэта.
Не паглядае зверху ўніз
У межах кабінета.

Спагадлівей яго душа.
Прыём вядзе нядоўга,
І просіць сесці ўсіх спярша
З ім побач на падлогу.

Пра дзіва гамана пайшла,
Што хлопец неспадзеўкі
Стаў без шуфляды і стала
Сапраўдным чалавекам.

Рашылі цераз нейкі час
Той вопыт запазычыць,
Як бюракрата навучаць,
Не меў каб дрэнных звычак.

Глядзяць — Сымон свой крыж нясе:
Разлёгся ўсцяж падлогі,
А скаргі і даведкі ўсе
Падмёў сабе пад ногі.

● **Уладзімір ПРАВАСУД**

### СПОВЕДЗЬ РЫБАКА

Яно як завярэдзіць —
То рад ты ці не рад,
А дома ўжо не ўседзіш,
Не утрымаюць нат
Ні жонка і ні цешча,
І нават сваякі...
На досвітку нясешся
Праз поплаў да ракі,
Каб захапіць куточак,
Плацдарм, як на вайне,
Дзе рыбы той, браточкі —
Нібыта ў чыгуне.
Не рэчка — проста міска:
Бяры і пі нагбом,
А хочаш — чэрпай лыжкай,
Бы дома за сталом.

Ўяўляю сам, як буду
Над рэчкай варажыць...
У руцэ трымаю вуду,
Рука свярбіць, дрыжыць...
Нарэшце!
Мільтусіцца
На хвалі паплавок.
А мне ўжо не сядзіцца —
Нібы праймае ток.

Чакай...
Чакай...
Нырае!
А раптам жа сарве?!.
Імгненне!
Вось такая
Трапечацца ў траве!
І тут — што за праява? —
Не ўцямлю, ну, ніяк:
Гляджу — сядзіць і справа
І злева вунь рыбак.
Гарыць агонь. На дужцы
Вядро над ім вісіць.
Эх, смачнай будзе юшка...
Вось толькі б «замачыць»...

І ўжо цячэ размова —
Павольна, як рака,
Аб леташніх уловах,
Удачах рыбака...

Сяджу, вось гэтак мару...
Ды толькі я — за снасць,
А жонка, нібы хмара,
Мне напярэймы шась!

Сядзі і ўнукаў гушкай —
Вось лёс мой, рыбака.
А недзе пахне юшкай
І плешчацца рака...

*Мал.* **С. Волкава**



# нашы аўтары

●

**ДАЙНЕКА Леанід** нарадзіўся ў 1940 г. у вёсцы Дзмітраўка на Клічаўшчыне. Працаваў на Урале на заводзе, служыў у арміі. Скончыў філфак БДУ імя У. І. Леніна ў 1967 г. Працаваў на тэлебачанні, цяпер—у «Маладосці» Выйшлі зборнікі паэзіі «Галасы», «Бераг чакання».

●

**ЦВІРКА Кастусь** нарадзіўся ў 1934 г. у вёсцы Зялёная Дуброва Старадарожскага раёна.
Скончыў філфак БДУ імя Леніна ў 1958 г. Працаваў настаўнікам, супрацоўнікам раённай газеты, рэдактарам Беларускага радыё. Цяпер—у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Кандыдат гістарычных навук. Выдаў зборнікі вершаў «Бягуць раўчукі», «Чарназём» і інш.

●

**САЛТУК Алег** нарадзіўся ў 1946 годзе ў Шумілінскім раёне. Скончыў філалагічны факультэт Магілёўскага педінстытута. Служыў у Савецкай Арміі. Працуе ў рэдакцыі ўшацкай раённай газеты.

●

**ГАРБУК Вісарыён** нарадзіўся ў 1913 г. у вёсцы Шкіляк і Полацкага раёна. Скончыў Чашніцкую школу калгаснай моладзі і Лепельскі белпедтэхнікум. Настаўнічаў і завочна вучыўся на літфаку Мінскага педінстытута. Перад вайной працаваў настаўнікам. У вайну служыў у арміі, удзельнічаў у многіх баях. Цяпер жыве ў г. Пяцігорску.
Выдаў зборнікі «Не шукаю спакою», «Лицо в полоску», «Алачка-забывалачка», «На маім акне», «Незнарок і знарок» і інш.

●

**БОНДАР Таіса** нарадзілася ў 1945 г. у Рудзенску. Скончыла Мінскі дзяржаўны педінстытут замежных моваў. Працуе настаўніцай у Малдавіі.

●

**ПАНІЗНІК Сяргей** нарадзіўся ў 1942 г. у Міёрскім раёне. Скончыў Магілёўскае медыцынскае вучылішча і працаваў фельчарам. Скончыў факультэт журналістыкі Вышэйшага вайскова-палітычнага вучылішча. Афіцэр Савецкай Арміі. Выдаў зборнікі вершаў «Кастры Купалля», «Палявая пошта».


**ЖУРНАЛ «МАЛАДОСЦЬ» № 11**

**(на белорусском языке)**

Мастацкі рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.** Тэхнічны рэдактар **Уладзімір КОНАШ.**
Карэктары **Пятро ЛІПАЙ** і **Марыя ВАСІЛЕЎСКАЯ.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: 220600, Мінск, ГСП, вул. К. Маркса, 40.
Тэлефоны: 29-36-48—галоўны рэдактар і намеснік галоўнага рэдактара, 29-38-54—сакратарыят і аддзел крытыкі, 29-35-92—аддзелы паэзіі і прозы, 29-38-92—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 29-37-75—фотакарэспандэнт.

АТ 08668. Здадзена ў набор 25/IX-73 г. Падпісана да друку 25/X-73 г.
Папера 70×108 $^{1}/_{16}$. Фіз. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Ул.-выд. арк. 14,5.
Тыраж 16 252 экз. Зак. 506. Цана 40 кап.

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі, Мінск, Ленінскі прасп., 79.**




Уладзімір **ЧАРНЫШОЎ**. Эскіз да кінафільма «Чырвоны агітатар Трафім Глушкоў».